ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 15 (2541)
ПЯТНІЦА
9
красавіка 1971

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



Таварышы Л. І. Брэжнеў, А. М. Касыгін, М. В. Падгорны, П. М. Машэраў сярод дэлегатаў ад Беларускай партыйнай арганізацыі. Фота Л. ПАПКОВІЧА і Л. ЭЙДЗІНА.

# МАСКВА, XXIV З'ЕЗД КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА

Мікола НАВІЦКІ

## КАМУНІСТ

Калі выбраў шлях,
што камяніст,
Што ідзе праз непагадзь,
зіму —
Скажуць людзі: ён жа
камуніст.
Гэткім і належыць
быць яму.
Ён сабе не выклапача
бронь.
Ленінскаю праўдаю
сагрэты,
На сябе ён выкліча
агонь,—
Абароніць ад агню
планету.
А калі ўзышоў
на п'едэстал—
Гэтым ён
нікога не здзівіў:
Ён заўжды быў стойкім,
як метал,
Як граніт,
заўжды ён цвёрдым быў!



Група пасланцоў беларускіх камуністаў.



Гучыць прывітанне савецкіх воінаў.

# ДЫРЭКТЫВЫ XXIV З'ЕЗДА КПСС ПА ПЯЦІГАДОВЫМ ПЛАНЕ РАЗВІЦЦЯ НАРОДНАЙ ГАСПАДАРКІ СССР НА 1971—1975 гады

## ДАКЛАД СТАРШЫНІ САВЕТА МІНІСТРАЎ СССР тав. А. М. КАСЫГІНА 6 красавіка 1971 года

Цэнтральны Камітэт КПСС прадставіў на разгляд з'езда праект Дырэктыў па пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1971—1975 гады, сказаў тав. А. М. Касыгін. У гэтым дакуменце атрымала далейшае развіццё распрацаваная XXIII з'ездам і пленумамі ЦК КПСС эканамічная палітыка партыі, якая вызначыла задачы сучаснага этапу камуністычнага будаўніцтва і шляхі іх вырашэння.

У справаздачным дакладзе Цэнтральнага Камітэта, з якім выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС Л. І. Брэжнеў, усебакова абагульнены вопыт, набыты партыяй пасля XXIII з'езда, і выкладзены асноўныя пытанні эканамічнай палітыкі партыі на сучасным этапе. У дакладзе дадзен марксісцка-ленінскі аналіз міжнароднага і ўнутранага становішча, разгледжаны пытанні ўнутрыпартыйнага жыцця, а таксама задачы далейшага ўмацавання сусветнай сістэмы сацыялізма, развіцця міжнароднага камуністычнага і рабочага руху і ўмацавання дружалюбных сувязей нашай партыі з брацкімі партыямі іншых краін.

Мінулае пяцігоддзе прадэманстравала ўзросшую кіруючую ролю партыі ў жыцці савецкага грамадства, узмацнілася яе ідэйная і арганізацыйная згуртаванасць, яшчэ больш умацаваліся сувязі з народам. Партыя з гонарам выконвае высокую місію баявога авангарда савецкага народа.

Ленінская знешняя палітыка, якая паслядоўна праводзіцца партыяй, забяспечыла ў вельмі складаным міжнародным становішчы ўмацаванне пазіцый сацыялізма. Нягледзячы на ўзмацненне процідзеяння агрэсіўных імперыялістычных сіл, атрыманы новыя перамогі ў барацьбе за мір, за свабоднае развіццё ўсіх народаў, за сацыяльны прагрэс.

Абмеркаванне Справаздачнага даклада ЦК КПСС на нашым з'ездзе ярка і пераканаўча прадэманстравала высокую ідэйную згуртаванасць радоў нашай партыі, вялікае яднанне ўсіх народаў нашай краіны з ленінскай партыяй і яе Цэнтральным Камітэтам. Высокая ацэнка дзейнасці ЦК, дадзеная ў выступленнях дэлегатаў з'езда па дакладзе Л. І. Брэжнева, канкрэтнасць, змястоўнасць, ідэйна-палітычная накіраванасць гэтых выступленняў глыбока і ўсебакова раскрываюць велізарную работу, якую праводзіць партыя ва ўсіх галінах матэрыяльнага і духоўнага жыцця нашага грамадства.

Магутнасць першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы, створанай доблеснай стваральнай працай савецкага народа, усяляе гордасць і надзею ў сэрцы працоўных усіх краін.

Вялікай мэце — стварэнню камуністычнага грамадства падпарадкаваны нашы планы гаспадарчага будаўніцтва. Прадстаўлены праект Дырэктыў па дзевятым пяцігадовым плане абмяркоўваўся на з'ездах кампартый саюзных рэспублік, на краявых, абласных, гарадскіх і раённых партыйных канферэнцыях, у партыйных арганізацыях, на сходах працоўных і ў друку. Ва ўсіх выступленнях выказана аднадушнае адабрэнне лініі партыі на пабудову матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма, паскоранае развіццё эканомікі, далейшае павышэнне ўзроўню жыцця народа. Было выказана шмат карысных і глыбокіх меркаванняў па пытаннях эканамічнага, сацыяльнага і культурнага развіцця. Усе яны будуць уважліва вывучаны. Адны з іх, як відаць, атрымаюць адлюстраванне ў Дырэктывах з'езда, другія будуць улічаны пры складанні і практычным ажыццяўленні пяцігадовага плана.

Абмеркаванне праекта Дырэктыў сведчыць аб глыбокім разуменні і гарачай падтрымцы шырокімі масамі працоўных палітыкі нашай партыі, аб іх актыўным удзеле ў вырашэнні карэнных праблем развіцця савецкага грамадства. У гэтым гарантыя таго, што велічная праграма новай пяцігодкі будзе паспяхова выканана.

## I. ВЫНІКІ ВЫКАНАННЯ ВОСЬМАГА ПЯЦІГАДОВАГА ПЛАНА

Дакладчык далажыў асноўныя вынікі выканання восьмага пяцігадовага плана і тыя змены, якія адбыліся за гэты перыяд у нашай эканоміцы.

Важнейшы вынік мінулага пяцігоддзя заключаецца ў тым, што палітычныя і асноўныя сацыяльна-эканамічныя задачы, намечаныя XXIII з'ездам нашай партыі, былі паспяхова вырашаны.

**У палітычным жыцці краіны** за гады пяцігодкі адбылося далейшае ўмацаванне сацыялістычнага ладу, ідэйна-палітычнага адзінства грамадства, згуртаванасці савецкага народа вакол Камуністычнай партыі, яе Цэнтральнага Камітэта. Яшчэ больш узмацнелі саюз рабочага класа і сялянства, дружба і брацкае супрацоўніцтва ўсіх народаў Савецкага Саюза. Далейшае развіццё атрымала сацыялістычная дэмакратыя.

**У галіне эканамічнага развіцця.** Выкананне плана восьмай пяцігодкі ўзняло народную гаспадарку на больш высокую ступень. Былі паскораны тэмпы навукова-тэхнічнага прагрэсу, росту вытворчасці і прадукцыйнасці працы. Узрасла эфектыўнасць грамадскай вытворчасці, палепшана галіновая структура народнай гаспадаркі, створаны ўмовы для далейшага ўздыму ўсёй эканомікі краіны.

**У сацыяльнай галіне** — павысіліся матэрыяльны дабрабыт і культурны ўзровень жыцця насельніцтва. Палепшылася прафесіянальна-тэхнічная падрыхтаванасць рабочых і калгаснікаў. Як і раней, у краіне была забяспечана поўная занятасць працаздольнага насельніцтва. Зроблен важны крок у вырашэнні такіх карэнных сацыяльных задач, як паступовае пераадоленне істотных адрозненняў паміж горадам і вёскай, паміж фізічнай і разумовай працай.

Дасягнуты велізарныя поспехі ва ўсіх галінах развіцця нашага грамадства. Яно стала яшчэ больш аднародным, гарманічным, згуртаваным і магутным.

Паскарэнню тэмпаў росту нацыянальнага даходу, адзначыў дакладчык, удзялялася асаблівая ўвага. Калі ў сёмай пяцігодцы нацыянальны даход узрос на 32 працэнты, то ў восьмай пяцігодцы ён павялічыўся на 41 працэнт.

Забеспячэнне высокіх тэмпаў росту нацыянальнага даходу і яго правільнае размеркаванне ў інтарэсах умацавання магутнасці краіны і росту дабрабыту працоўных — карэнная праблема нашага планавання. Пытанні вызначэння аб'ёмаў вытворчасці і пытанні размеркавання нацыянальнага даходу штогод разглядаліся Цэнтральным Камітэтам партыі і ўрадам пры распрацоўцы народнагаспадарчых планаў і дзяржаўных бюджэтаў, былі прадметам абмеркавання на пленумах ЦК КПСС і на сесіях Вярхоўнага Савета СССР.

Гаворачы аб выкарыстанні нацыянальнага даходу, тав. А. М. Касыгін падкрэсліў, што рост і размеркаванне яго ў інтарэсах працоўных далі магчымасць паспяхова вырашыць сацыяльныя задачы, намечаныя Дырэктывамі XXIII з'езда на восьмую пяцігодку.

Планам прадугледжвалася павялічыць за пяцігоддзе сярэднюю заработную плату рабочых і служачых не менш чым на 20 працэнтаў, фактычна ж яна ўзрасла на 26 працэнтаў. Грашовыя і натуральныя даходы калгаснікаў ад грамадскай гаспадаркі прадугледжвалася павялічыць на 35—40 працэнтаў, фактычна яны ўзраслі на 42 працэнты. Рэальныя даходы на душу насельніцтва павялічыліся ў мінулым пяцігоддзі на 33 працэнты супраць 19 працэнтаў у сёмай пяцігодцы. Мы можам з задавальненнем адзначыць, што заданне XXIII з'езда КПСС па росце рэальных даходаў насельніцтва перавыканана.

Важным паказчыкам росту матэрыяльнага дабрабыту народа з'яўляецца павелічэнне аб'ёму рознічнага **тавараабароту**. У 1970 годзе ён дасягнуў 153,6 мільярда рублёў, гэта значыць павялічыўся ў параўнанні з 1965 годам на 48,4 працэнта. Аднак рост вытворчасці некаторых тавараў адставаў ад павелічэння грашовых даходаў насельніцтва.

Пры складанні пяцігадовага плана неабходна дадаткова разгледзець усе магчымасці, якія дазволілі б у бліжэйшыя гады забяспечыць больш поўнае задавальненне попыту насельніцтва ў таварах.

XXIII з'езд КПСС паставіў у якасці адной з буйных задач восьмай пяцігодкі значнае павелічэнне **жыллёвага будаўніцтва.** У мінулай пяцігодцы на гэтыя мэты выдаткавана каля 60 мільярдаў рублёў. Пабудавана 11 мільёнаў 350 тысяч кватэр. Як паказвае міжнародная статыстыка, у свеце няма другой краіны, у якой за апошнія пяць гадоў была б пабудавана такая колькасць кватэр. Але мы не можам яшчэ сказаць, што ўсё насельніцтва нашай краіны нармальна забяспечана жыллём. Гэта праблема і на наступныя гады застаецца адной з сур'ёзных праблем.

Шмат зроблена для паляпшэння **культурна-бытавых умоў жыцця насельніцтва.** Расшырылася сетка тэатраў, кінатэатраў, клубаў, бібліятэк. Значна выраслі тыражы газет, кніг, часопісаў. Шырока ўвайшлі ў быт тэлевізары, радыёпрыёмнікі, халадзільнікі, пральныя машыны, электрычныя прыборы. Колькасць газіфікаваных кватэр павялічылася больш чым удвая.

Вялікая работа праведзена ў галіне **народнай асветы.** Паводле даных перапісу 1939 года, сярод усяго працуючага гарадскога насельніцтва СССР асоб з сярэдняй (поўнай і няпоўнай) і вышэйшай адукацыяй было 24,2 працэнта, а ў вёсцы толькі 6,3 працэнта. Перапіс, праведзены ў 1970 годзе, паказаў, што сярэднюю і вышэйшую адукацыю маюць 75 працэнтаў працоўных горада і больш як 50 працэнтаў працаўнікоў вёскі.

Значныя нашы поспехі і ў развіцці **аховы здароўя.** Расшырана сетка бальніц, паліклінік і іншых лячэбна-прафілактычных установаў, санаторыяў, курортаў і дамоў адпачынку. Больш стала дашкольных дзіцячых установаў. Цяпер у некаторых гарадах і прамысловых цэнтрах патрэбнасць у дзіцячых установах задаволена.

Адным з важных сацыяльных мерапрыемстваў у мінулым пяцігоддзі з'явіўся планамерны перавод рабочых і служачых на пяцідзённы рабочы тыдзень з двума выхаднымі днямі. Павялічана мінімальная працягласць аплатнага водпуску рабочых і служачых.

Высокія тэмпы росту нацыянальнага даходу і павышэння жыццёвага ўзроўню народа дасягнуты на аснове паспяховага развіцця сацыялістычнай вытворчасці, чаму ў значнай меры садзейнічала гаспадарчая рэформа, адобраная XXIII з'ездам КПСС.

Агульны аб'ём **прамысловай вытворчасці** склаў у 1970 годзе 373 мільярды рублёў, гэта значыць узрос за пяцігоддзе ў паўтара раза.

Прамоўца даў характарыстыку буйным якасным зменам, якія адбыліся ў прамысловасці.

Мінулая пяцігодка ўнесла вялікія змены ў жыццё сацыялістычнай вёскі. Праведзена значная работа па ўмацаванні матэрыяльна-тэхнічнай базы калгасаў і саўгасаў. Зроблен буйны крок у электрыфікацыі вёскі. Праведзены ў вялікім аб'ёме меліярацыйныя работы. Значна павялічана пастаўка калгасам і саўгасам сельскагаспадарчай тэхнікі, угнаенняў, хімікаліяў. Узнята ўраджайнасць сельскагаспадарчых культур і прадукцыйнасць жывёлагадоўлі, павялічан аб'ём вытворчасці ўсіх прадуктаў сельскай гаспадаркі. Гэта дало магчымасць павялічыць дзяржаўныя закупкі збожжа, тэхнічных культур, малака, мяса і іншых прадуктаў.

Развіццё сацыялістычнай прамысловасці, сельскай гаспадаркі, уздым дабрабыту народа былі б немагчымыя без ажыццяўлення шырокай праграмы **капітальнага будаўніцтва**. Асноўныя вытворчыя фонды краіны павялічыліся за пяцігоддзе амаль у паўтара раза. Агульны аб'ём капітальных укладанняў у народную гаспадарку склаў 352 мільярды рублёў (у цэнах 1969 года). Гэта амаль столькі, колькі было ўкладзена за восем папярэдніх гадоў. Такія маштабы нашага росту.

Тэхнічны прагрэс, удасканальванне арганізацыі вытворчасці і павышэнне кваліфікацыі работнікаў садзейнічалі паскарэнню тэмпаў росту **прадукцыйнасці грамадскай працы.** У цэлым у народнай гаспадарцы прадукцыйнасць грамадскай працы павялічылася на 37 працэнтаў супраць 29 працэнтаў у сёмым пяцігоддзі. Рост вытворчасці прадукцыі прамысловасці і сельскай гаспадаркі ўсё ў большай меры павінен адбывацца за кошт павышэння прадукцыйнасці працы. Гэта асноўны шлях развіцця сацыялістычнай эканомікі.

Развіццё нашай эканомікі цесна звязана з буйнымі дасягненнямі **савецкай навукі.** Вялікая роля вучоных у стварэнні новых машын, сінтэтычных матэрыялаў, электроннай тэхнікі. Значныя навуковыя вынікі дасягнуты ў галіне матэматыкі, фізікі, хіміі, геалогіі, біялогіі, даследавання космасу.

Цэнтральны Камітэт партыі і Савецкі ўрад удзялялі і пастаянна ўдзяляюць увагу **ўмацаванню абараназдольнасці краіны**, развіццю абароннай прамысловасці. Да гэтага нас абавязваюць сучаснае міжнароднае становішча, інтарэсы бяспекі нашай Радзімы. На аснове апошніх дасягненняў навукі і тэхнікі распрацаваны і выпускаюцца многія новыя віды сучаснага ўзбраення, павышаны баявыя і тэхнічныя якасці зброі. Мы можам далажыць з'езду, што Савецкія Узброеныя Сілы аснашчаны навейшай баявой тэхнікай самага высокага класа.

Пяцігадовы план выкананы па асноўных паказчыках. Аднак, адзначыў тав. А. М. Касыгін, не поўнасцю выканалі план будаўнічыя міністэрствы, а таксама не поўнасцю ўведзены ў дзеянне магутнасці па здабычы вугалю, вытворчасці пракату чорных металаў, хімічных валокнаў, пластмас, грузавых аўтамабіляў, трактараў, цэлюлозы, цэменту і рад аб'ектаў лёгкай і харчовай прамысловасці. Гэта сказалася на невыкананні заданняў па выпуску асобных відаў прадукцыі. Недавыкананы заданні па росце прадукцыйнасці працы ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы і асабліва ў будаўніцтве.

Нельга не ўлічваць, што эканамічнае развіццё краіны ў перыяд восьмай пяцігодкі праходзіла ва ўмовах абвостранага міжнароднага становішча. Гэта выклікала неабходнасць правядзення дадатковых мер абароннага характару, якія запатрабавалі некаторага адцягнення сродкаў і сіл.

Разам з тым у нас ёсць нямала недахопаў, прычыны якіх нельга прызнаць аб'ектыўнымі. Гэтыя недахопы былі выяўлены на снежаньскім (1969 год) Пленуме ЦК КПСС. Цэнтральны Камітэт партыі падвергнуў крытыцы парушэнні дзяржаўнай дысцыпліны некаторымі гаспадарчымі кіраўнікамі: невыкананне планаў, заданняў па каапераваных пастаўках, аслабленне пачуцця адказнасці перад народам.

Партыя патрабуе ад кожнага кіраўніка высокага ўсведамлення свайго абавязку перад народам, дзяржаўнага падыходу да вырашэння эканамічных задач, пастаянных клопатаў аб паляпшэнні ўмоў працы работнікаў, штодзённай настойлівай барацьбы за павышэнне сацыялістычнай дысцыпліны, за рацыянальную арганізацыю працы вытворчасці і кіравання, за хуткае ўкараненне дасягненняў навукі і тэхнікі ў вытворчасці.

Калі падвесці агульны вынік, то можна сказаць: наша краіна ў палітычных, эканамічных і сацыяльных адносінах паспяхова рухаецца наперад па шляху камуністычнага будаўніцтва.

## II. АСНОЎНЫЯ САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫЯ ЗАДАЧЫ ДЗЕВЯТАГА ПЯЦІГАДОВАГА ПЛАНА

Праект Дырэктыў — гэта праграма ажыццяўлення эканамічнай палітыкі партыі, вырашэння важнейшых сацыяльна-эканамічных праблем на сучасным этапе развіцця сацыялістычнага грамадства.

Дзевяты пяцігадовы план будзе важным этапам у далейшым руху савецкага грамадства па шляху да камунізма, у будаўніцтве яго матэрыяльна-тэхнічнай базы, ва ўмацаванні эканамічнай і абароннай магутнасці краіны. **Галоўная задача пяцігодкі заключаецца ў тым, каб забяспечыць значны ўздым матэрыяльнага і культурнага ўзроўню жыцця народа на аснове высокіх тэмпаў развіцця сацыялістычнай вытворчасці, павышэння яе эфектыўнасці, навукова-тэхнічнага прагрэсу і паскарэння росту прадукцыйнасці працы.**

У дзевятай пяцігодцы сярэднегадавы аб'ём нацыянальнага даходу дасягне 325 мільярдаў рублёў супраць 233 мільярдаў рублёў у восьмай пяцігодцы, а ў цэлым за дзевятае пяцігоддзе ён складзе 1 трыльён 625 мільярдаў рублёў. У гэтым заключаецца матэрыяльная аснова ажыццяўлення задач дзевятага пяцігадовага плана.

З задач і ўмоў сучаснага этапу камуністычнага будаўніцтва вынікаюць наступныя асноўныя, арганічна звязаныя адна з адной асаблівасці новай пяцігодкі:

па-першае, яшчэ большы паварот усёй народнай гаспадаркі да павышэння дабрабыту народа, да паляпшэння ўмоў яго працы і быту. Для мінулай і новай пяцігодак характэрна значнае павелічэнне рэсурсаў, якія накіроўваюцца дзяржавай на павышэнне народнага дабрабыту;

па-другое, узмацненне інтэнсіфікацыі ўсёй грамадскай вытворчасці і павышэнне яе эфектыўнасці на аснове істотнага паскарэння навукова-тэхнічнага прагрэсу.

У новай пяцігодцы захаваюцца **высокія тэмпы развіцця ўсёй народнай гаспадаркі**. Нацыянальны даход краіны ўзрасце за пяцігоддзе на 37—40 працэнтаў, аб'ём прамысловай прадукцыі — на 42—46 працэнтаў, сярэднегадавы аб'ём прадукцыі сельскай гаспадаркі — на 20—22 працэнты. Прадугледжваецца павелічэнне за пяцігоддзе вытворчасці сродкаў вытворчасці на 41—45 працэнтаў, а вытворчасці прадметаў спажывання на 44—48 працэнтаў.

У праекце Дырэктыў поўнасцю ўлічаны заданні, устаноўленыя ліпеньскім (1970 год) Пленумам ЦК КПСС, які вызначыў галоўныя напрамкі развіцця сельскай гаспадаркі.

Трэба падкрэсліць, што ніколі яшчэ на развіццё сельскай гаспадаркі і галін, звязаных з вытворчасцю тавараў для насельніцтва, не накіроўваліся такія велізарныя грашовыя і матэрыяльныя рэсурсы, як у гэтай пяцігодцы.

У дзевятым пяцігоддзі будзе зроблен **буйны крок на шляху рэалізацыі дасягненняў навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, якая аказвае ўсё большы** ўплыў на грамадскую вытворчасць. Навукова-тэхнічная рэвалюцыя адкрывае магчымасці радыкальнага пераўтварэння метадаў вытворчасці, стварэння прынцыпова новых, высокапрадукцыйных прылад працы, прагрэсіўных матэрыялаў, выклікае да жыцця новыя галіны, забяспечвае нябачаныя раней магчымасці павышэння эфектыўнасці ўсёй вытворчай дзейнасці.

У паскарэнні тэхнічнага, эканамічнага і сацыяльнага прагрэсу вялікая роля нашай **навукі**. Сваю ролю навука можа паспяхова выконваць, калі забяспечваецца хуткае ажыццяўленне ўсяго комплексу работ — ад навуковых даследаванняў і тэхнічных рашэнняў да ўкаранення вынікаў іх у вытворчасць.

Узяты партыяй курс **на інтэнсіфікацыю вытворчасці** вызначае неабходнасць значнага павышэння прадукцыйнасці грамадскай працы, эканоміі сыравіны і матэрыялаў, паляпшэння выкарыстання вытворчых фондаў, павышэння эфектыўнасці капітальных укладанняў на аснове ўкаранення новай тэхнікі, навуковай арганізацыі вытворчасці і ўдасканалення метадаў кіравання народнай гаспадаркай.

На дзевятае пяцігоддзе намечана павышэнне **прадукцыйнасці працы ў прамысловасці** на 36—40 працэнтаў супраць 32 працэнтаў у мінулай пяцігодцы. У калгасах і саўгасах прадукцыйнасць працы трэба будзе павысіць на 37—40 працэнтаў у параўнанні з 35 працэнтамі ў 1966—1970 гадах. У будаўніцтве прадукцыйнасць працы павысіцца на 36—40 працэнтаў супраць 22 працэнтаў у папярэднім пяцігоддзі. Гэтыя заданні маюць рашаючае значэнне для ўсёй нашай праграмы развіцця народнай гаспадаркі. Уздым народнага дабрабыту непасрэдна залежыць ад росту прадукцыйнасці працы. За кошт павышэння прадукцыйнасці працы ў дзевятай пяцігодцы мы павінны атрымаць 80—85 працэнтаў усяго прыросту нацыянальнага даходу.

Намячаецца ажыццявіць вялікія мерапрыемствы **па зніжэнні матэрыялаёмістасці прадукцыі**. Гэта велізарны рэзерв нашай эканомікі, які выкарыстоўваецца яшчэ далёка недастаткова.

Неабходна правесці вялікую работу **па паляпшэнні выкарыстання вытворчых магутнасцей і асноўных фондаў**. Трэба сказаць, што ў радзе галін на многіх прадпрыемствах усё яшчэ мае месца зніжэнне фондааддачы, гэта значыць змяншэнне выпуску прадукцыі на адзін рубель асноўных вытворчых фондаў.

Са сказанага вышэй вынікае, што неабходна дабівацца паляпшэння кожнага паказчыка эфектыўнасці: прадукцыйнасці працы, матэрыялаёмістасці, фондааддачы з тым, каб у канчатковым выніку дасягалася найбольшая эканомія ўсіх затрат грамадскай працы.



Прадугледжаныя праектам Дырэктыў рост вытворчасці і павышэнне яго эфектыўнасці ствараюць надзейную базу для выканання ў дзевятай пяцігодцы **шырокай сацыяльнай праграмы**. Гэта праграма ўключае:

ажыццяўленне сістэмы мерапрыемстваў па паляпшэнні ўмоў жыцця ўсіх слаёў насельніцтва;

больш рацыянальнае выкарыстанне працоўных рэсурсаў, далейшае паляпшэнне ўмоў працы;

большае павелічэнне прыросту даходаў насельніцтва пры ўдасканальванні механізму іх размеркавання, сістэм аплаты працы і эканамічнага стымулявання работнікаў;

значнае павелічэнне сродкаў, якія выдзяляюцца на выхаванне падрастаючага пакалення, аказанне дапамогі мнагадзетным сем'ям і паляпшэнне ўмоў працы і быту жанчын;

далейшы рост культурна-тэхнічнага ўзроўню насельніцтва, завяршэнне ўвядзення ўсеагульнай сярэдняй адукацыі;

істотнае збліжэнне ўзроўню жыцця сельскага і гарадскога насельніцтва.

Рост дабрабыту народа ў цэлым характарызуецца тым, што агульная сума рэальных даходаў насельніцтва ў новай пяцігодцы павялічыцца на 72 мільярды рублёў, тады як ў мінулым пяцігоддзі яны ўзраслі на 54 мільярды рублёў. У разліку на душу насельніцтва рэальныя даходы павялічацца прыкладна на 30 працэнтаў.

Ажыццяўленне заданняў дзевятай пяцігодкі забяспечыць новы ўздым нашай эканомікі, дасць магчымасць значна павысіць узровень жыцця савецкіх людзей.

## III. РАЗВІЦЦЁ МАТЭРЫЯЛЬНАЙ ВЫТВОРЧАСЦІ

Праект Дырэктыў змяшчае шырокую праграму развіцця ўсіх галін матэрыяльнай вытворчасці, працягваў дакладчык. Спынюся на некаторых важнейшых задачах.

**Прамысловасць.** Выпуск прамысловай прадукцыі намечана давесці ў 1975 годзе да 528—544 мільярдаў рублёў. Напомню, што ў 1965 годзе было выпушчана прадукцыі на 248 мільярдаў рублёў. Такім чынам, за дзесяцігоддзе аб'ём прамысловай вытворчасці ў нашай краіне больш чым падвоіцца.

Цяжкая прамысловасць была і застаецца фундаментам эканамічнай магутнасці краіны, далейшага росту народнага дабрабыту.

Перш за ўсё неабходна сказаць **аб паліўна-энергетычных галінах**. Задача гэтых галін — задавальняць узрастаючыя патрэбы народнай гаспадаркі і патрэбнасці насельніцтва ў паліве і энергіі, удасканальваць структуру паліўна-энергетычнага балансу.

За пяць гадоў будуць уведзены ў дзеянне новыя магутнасці электрастанцый на 65—67 мільёнаў кілават. Важна адзначыць, што 12 працэнтаў усяго прыросту магутнасцей дадуць атамныя электрастанцыі.

У новым пяцігоддзі мы пачынаем ажыццяўленне шырокай праграмы будаўніцтва атамных электрастанцый, перш за ўсё ў еўрапейскай частцы краіны, дзе рэсурсы паліва абмежаваныя. Гэта праграма прадугледжвае ўвесці ў дзеянне на працягу 10—12 гадоў атамныя электрастанцыі магутнасцю 30 мільёнаў кілават.

У цеплаэнергетыцы намечана будаўніцтва буйных электрастанцый магутнасцю да 4 мільёнаў кілават з энергетычнымі блокамі не толькі 300 тысяч, але і 500, 800 і 1 мільён 200 тысяч кілават.

У мінулай пяцігодцы створана аб'яднаная энергасістэма еўрапейскай часткі краіны. Цяпер будзе працягвацца стварэнне адзінай энергасістэмы СССР.

У дзевятым пяцігоддзі разгорнецца ў вялікіх маштабах здабыча нафты ў новых буйнейшых радовішчах Цюмені і Мангышлака, дзе прадугледжваецца атрымаць 75 працэнтаў усяго прыросту здабычы нафты. Велізарны прырост здабычы газу будзе дасягнуты галоўным чынам за кошт асваення новых унікальных радовішчаў у Арэнбургскай вобласці, Комі АССР, Цюменскай вобласці, а таксама ва Узбекскай і Туркменскай саюзных рэспубліках.

Праект Дырэктыў прадугледжвае тэхнічнае пераўзбраенне вугальнай прамысловасці, з тым каб дабіцца значнага зніжэння кошту здабычы вугалю і паляпшэння ўмоў працы шахцёраў. Найбольшае развіццё атрымае адкрыты спосаб здабычы вугалю ў буйных кар'ерах: гэтым спосабам будзе атрымана каля адной трэці ўсёй здабычы вугалю.

Другой буйной групай галін, на развіцці якіх трэба спыніцца, з'яўляюцца **сыравінныя галіны**. Галоўная іх задача — забяспечыць народную гаспадарку ў неабходнай колькасці і асартыменце сыравінай і матэрыяламі высокай якасці, найбольш падрыхтаванымі для наступнай апрацоўкі.

Велізарныя сродкі, якія дзяржава ўклала ў хімічную прамысловасць у мінулыя гады, павінны даць поўную аддачу ў новай пяцігодцы. Вытворчасць мінеральных угнаенняў дасягне 90 мільёнаў тон, прычым 80 працэнтаў з іх складуць высокаканцэнтраваныя і складаныя ўгнаенні. Выпуск хімічных валокнаў павялічыцца больш чым у 1,7 раза, пластмас і сінтэтычных смол — у 2 разы, вырабаў бытавой хіміі — у 1,9 раза.

Матэрыяльнай асновай тэхнічнага пераўзбраення ўсёй народнай гаспадаркі з'яўляецца **машынабудаванне.** Яго галоўная задача — забяспечыць усе галіны высокаэфектыўнымі машынамі і абсталяваннем. Неабходна, каб прадукцыйнасць новых машын была больш высокай, а кошт адзінкі магутнасці зніжаўся.

Перад машынабудаўнікамі ставіцца задача паўней забяспечыць усе галіны народнай гаспадаркі тэхнікай для механізацыі цяжкіх ручных работ, і перш за ўсё сістэмамі машын для комплекснай механізацыі важнейшых вытворчасцей ва ўсіх галінах, асабліва ў сельскай гаспадарцы. Выпуск сельскагаспадарчых машын намечана павялічыць да 1975 года на 65 працэнтаў, а трактараў — на 25 працэнтаў пры значным пашырэнні іх наменклатуры і павышэнні адзінкавай магутнасці.

У два разы павялічыцца вытворчасць прыбораў і сродкаў аўтаматызацыі, значнае развіццё атрымае навуковае прыборабудаванне. Выпуск электронна-вылічальных машын узрасце ў 2,6 раза.

У новым пяцігоддзі адбудзецца вялікі зрух у развіцці айчыннага аўтамабілебудавання. Трэба будзе асвоіць вытворчасць 22 новых мадэлей грузавых аўтамабіляў і аўтацягачоў, павысіць іх грузападымальнасць. Адна з буйнейшых будоўляў пяцігодкі — Камскі аўтамабільны завод, разлічаны на выпуск 150 тысяч дызельных аўтамабіляў і аўтапаяздоў у год.

Цяпер уводзіцца ў дзеянне Волжскі аўтамабільны завод, будаўніцтва якога будзе завершана ў 1972 годзе. Праектная магутнасць гэтага завода 660 тысяч легкавых аўтамабіляў у год. Выпуск аўтамабіляў «Масквіч» у два разы павялічыцца пасля завяршэння рэканструкцыі маскоўскага завода імя Ленінскага камсамола. Вытворчасць іх дасягне 200 тысяч штук у год. Ужо ў гэтым годзе 70 тысяч аўтамабіляў выпусціць новы Іжэўскі завод, поўная праектная магутнасць якога складзе 220 тысяч аўтамабіляў у год. Усё гэта дасць магчымасць давесці выпуск легкавых аўтамабіляў у 1975 годзе да аднаго мільёна двухсот — аднаго мільёна трохсот тысяч штук замест 344 тысяч, выпушчаных у 1970 годзе.

Важнай умовай хуткага развіцця машынабудавання ў новай пяцігодцы з'яўляецца правядзенне цвёрдага курсу на паглыбленне спецыялізацыі вытворчасці. Будуць развівацца пераважна спецыялізаваныя прадпрыемствы з высокім узроўнем аўтаматызацыі.

Буйным рэзервам у машынабудаванні будзе павышэнне каэфіцыента зменнас-

ці. Дзякуючы гэтаму, паводле разлікаў Дзяржплана СССР, можа быць выпушчана дадаткова прадукцыі на 7—8 мільярдаў рублёў і сэканомлена прыкладна 6—7 мільярдаў рублёў капітальных укладанняў. Важнай перадумовай павышэння зменнасці павінна з'яўляцца механізацыя працы, што дасць магчымасць перавесці людзей з цяжкіх дапаможных работ на кваліфікаваныя работы ў другой змене.

Тав. А. М. Касыгін адзначыў, што ва ўмовах прадугледжанага праектам Дырэктыў значнага павышэння матэрыяльнага дабрабыту, савецкага народа ўзрастаюць задачы і роля **галін, якія выпускаюць прадметы народнага спажывання.**

Для забеспячэння намечанага росту вытворчасці гэтых тавараў неабходна ўзмацніць тэхнічную аснашчанасць прадпрыемстваў лёгкай і харчовай прамысловасці. Вытворчасць абсталявання для іх узрасце ў 2 разы.

У развіцці вытворчасці тавараў масавага спажывання вялікую ролю заклікана адыграць цяжкая прамысловасць. Усе яе галіны будуць выпускаць у 1975 годзе гэтых тавараў амаль у 2 разы, а машынабудаўнічая прамысловасць у 2,2 раза больш, чым у 1970 годзе. Значна ўзрасце выпуск тавараў народнага спажывання на прадпрыемствах мясцовай прамысловасці.

**Сельская гаспадарка.** У дзевятай пяцігодцы сельская гаспадарка ў асноўным на тых жа плошчах павінна даваць прадукцыі ў сярэднім за год на 16—18 мільярдаў рублёў больш, чым у мінулай пяцігодцы.

Ключавой праблемай застаецца павелічэнне вытворчасці збожжа. Ураджайнасць збожжавых культур павінна быць павышана за пяцігоддзе не менш чым на 4 цэнтнеры з гектара. Задача нялёгкая, але зусім выканальная.

У праекце Дырэктыў прадугледжваецца рост пагалоўя, павышэнне прадукцыйнасці жывёлы і птушкі, павелічэнне вытворчасці мяса, малака, воўны і іншай прадукцыі.

Рашаючай умовай далейшага ўздыму сельскай гаспадаркі з'яўляецца ўмацаванне яе матэрыяльна-тэхнічнай базы, усямерная інтэнсіфікацыя сельскагаспадарчай вытворчасці.

Агульны аб'ём капітальных укладанняў у сельскую гаспадарку (дзяржаўных і калгасных укладанняў) вызначаецца ў размеры амаль 129 мільярдаў рублёў, што на 47 мільярдаў больш, чым у папярэдняй пяцігодцы. Апрача таго, павялічваюцца за пяцігоддзе на 11,5 мільярда рублёў і складуць 29,3 мільярда рублёў капітальныя ўкладанні ў галіны, звязаныя з матэрыяльна-тэхнічным забеспячэннем сельскай гаспадаркі.

Для паскарэння росту вытворчасці прадукцыі жывёлагадоўлі і павышэння яе эфектыўнасці прадугледжваецца будаўніцтва механізаваных жывёлагадоўчых ферм у калгасах і саўгасах, стварэнне паблізу гарадоў буйных дзяржаўных, калгасных і міжкалгасных комплексаў па вытворчасці жывёлагадоўчай прадукцыі на прамысловай аснове, а таксама птушкафабрык.

Адной з першачарговых задач у развіцці жывёлагадоўлі з'яўляецца **ўмацаванне кармавой базы.**

Неабходна заахвочваць павелічэнне пагалоўя жывёлы і птушкі ў асабістай уласнасці сельскага насельніцтва (зразумела, у межах пэўных норм) і аказваць яму дапамогу ў забеспячэнні жывёлы кармамі і пашай.

У новай пяцігодцы захоўваецца адобраны сакавіцкім (1965 год) Пленумам ЦК і цалкам апраўдаўшы сябе прынцып устанаўлення на ўсе гады цвёрдага плана нарыхтовак і заахвочвання гаспадарак за звышпланавы продаж важнейшых відаў сельскагаспадарчай прадукцыі дзяржаве.

Важнейшае значэнне ў развіцці сельскай гаспадаркі мае рост прадукцыйнасці працы.

Выкананне заданняў партыі і ўрада па развіцці сельскай гаспадаркі — агульнанародная справа. Няма сумнення, што працаўнікі калгасаў і саўгасаў, работнікі галін прамысловасці, якія пастаўляюць сельскай гаспадарцы матэрыяльна-тэхнічныя сродкі, будаўнікі зробяць усё для таго, каб паспяхова выканаць заданні пяцігадовага плана.

Дакладчык падрабязна спыніўся на пытаннях далейшага развіцця **транспарту і сувязі.**

Ён падкрэсліў, што першараднае значэнне маюць узгодненая работа ўсіх відаў транспарту, якія складаюць адзіную транспартную сістэму краіны, правільнае размеркаванне перавозак паміж імі, каардынацыя кіравання перавозкамі. Неадкладнай задачай работнікаў усіх відаў транспарту з'яўляюцца механізацыя пагрузачна-разгрузачных работ і развіццё кантэйнерных перавозак.

У дзевятай пяцігодцы будзе прадоўжана работа па стварэнні адзінай аўтаматызаванай сістэмы сувязі. Амаль у два разы павялічыцца працягласць каналаў міжгародняй тэлефоннай сувязі, будзе расшырана аўтаматычная і паўаўтаматычная міжгародняя сувязь.

**Капітальнае будаўніцтва і размяшчэнне прадукцыйных сіл.** Агульны аб'ём капітальных укладанняў на 1971—1975 гады складзе каля 500 мільярдаў рублёў, гэта значыць прыкладна на 40 працэнтаў больш, чым у папярэдняй пяцігодцы.

Асноўныя задачы новага пяцігадовага плана вызначаюць і нашу палітыку капітальных укладанняў. У адпаведнасці з гэтым намячаюцца істотныя змены прапорцый у размеркаванні капітальных укладанняў па асобных галінах народнай гаспадаркі. Дзяржаўныя капітальныя ўкладанні ў сельскую гаспадарку павялічваюцца больш чым на 70 працэнтаў, у трактарнае і сельскагаспадарчае машынабудаванне прыкладна ў два разы, у развіццё вытворчасці мінеральных угнаенняў і сродкаў аховы раслін на 60 працэнтаў, у лёгкую прамысловасць на 90 працэнтаў, у харчовую і мяса-малочную прамысловасць на 60 працэнтаў. Усяго на развіццё сельскай гаспадаркі і павелічэнне вытворчасці прадуктаў харчавання і тавараў шырокага спажывання накіроўваецца прыкладна 30 працэнтаў усіх дзяржаўных капітальных укладанняў у народную гаспадарку.

Адной з важных эканамічных задач пяцігодкі з'яўляецца ўсямернае павышэнне эфектыўнасці капітальных укладанняў.

У тэхнічным пераўзбраенні прадпрыемстваў, у мадэрнізацыі абсталявання, паляпшэнні ўмоў працы вялікую ролю пачалі адыгрываць сродкі фонду развіцця вытворчасці. Паводле папярэдніх разлікаў, прадпрыемствы і аб'яднанні змогуць накіраваць на гэтыя мэты за пяцігоддзе прыкладна ў два разы больш сродкаў, чым за мінулае пяцігоддзе.

Трэба павысіць якасць праектавання, пакончыць з наяўнымі выпадкамі няправільнага вызначэння каштарыснага кошту будаўніцтва. Каштарыс павінен стаць цвёрдай асновай плана капітальных укладанняў і гаспадарча-разліковых адносін паміж заказчыкам і падрадчыкам. У гэтай справе павінен быць наведзен дакладны парадак.

ЦК КПСС і ўрад прынялі рашэнні, накіраваныя на карэннае паляпшэнне планавання капітальнага будаўніцтва і праектна-каштарыснай справы. Трэба хутчэй рэалізаваць гэтыя рашэнні.

Праектам Дырэктыў прадугледжваецца канцэнтрацыя капітальных укладанняў, скарачэнне колькасці прадпрыемстваў і аб'ектаў, якія адначасова будуюцца, з тым каб хутчэй уводзіць іх у дзеянне.

Забеспячэнню ўводу ў дзеянне магутнасцей і аб'ектаў у нарматыўныя тэрміны служыць і гаспадарчая рэформа ў будаўніцтве, укараненне якой пачата ў мінулым годзе. На працягу пяцігодкі трэба будзе завяршыць перавод усіх будаўнічых арганізацый на новую сістэму планавання і эканамічнага стымулявання, перайсці на прагрэсіўныя формы разлікаў за закончаныя аб'екты або этапы работ.

Перад работнікамі будаўніцтва стаіць адказная задача — выканаць заданні пяцігодкі практычна без павелічэння колькасці работнікаў, гэта значыць за кошт росту прадукцыйнасці працы.

Цяпер на нашых будоўлях працуе сем мільёнаў чалавек. Цэнтральны Камітэт партыі і ўрад прынялі рашэнні аб расшырэнні падрыхтоўкі і павышэнні кваліфікацыі будаўнічых кадраў. Істотна павышана заработная плата будаўнікоў. Ім выдзяляецца цяпер больш жылля, паляпшаюцца бытавыя ўмовы. Усё гэта садзейнічае замацаванню кадраў будаўнікоў.

Прамоўца падкрэсліў далей, што адной з важнейшых умоў павышэння эфектыўнасці грамадскай вытворчасці з'яўляецца правільнае размяшчэнне прадукцыйных сіл, якое забяспечвае далейшае індустрыяльнае развіццё ўсіх саюзных рэспублік, паслядоўнае ажыццяўленне ленінскай нацыянальнай палітыкі.

У новай пяцігодцы трэба будзе выканаць велізарныя аб'ёмы работ па паскораным асваенні багатых прыродных рэсурсаў еўрапейскай Поўначы, Сібіры, Далёкага Усходу, Казахстана і Сярэдняй Азіі.

Новая пяцігодка будзе перыядам далейшага развіцця прамысловасці і сельскай гаспадаркі ва ўсіх саюзных рэспубліках. У пераважнай большасці рэспублік прамысловая вытворчасць павялічыцца на 40—50 працэнтаў і больш.

## IV. УДАСКАНАЛЕННЕ КІРАВАННЯ І ПЛАНАВАННЯ

У мінулай пяцігодцы праводзіліся важныя мерапрыемствы, заклікаcivня прывесці формы і метады кіравання народнай гаспадаркай у адпаведнасць з сучасным этапам развіцця сацыялістычнай эканомікі, сказаў Старшыня Савета Міністраў СССР. Галоўны напрамак перабудовы сістэмы кіравання вызначан рашэннямі XXIII з'езда КПСС. Вераснёўскі (1965 год) Пленум Цэнтральнага Камітэта ў пастанове «Аб паляпшэнні кіравання прамысловасцю, удасканаленні планавання і ўзмацненні эканамічнага стымулявання прамысловай вытворчасці» сфармуляваў канкрэтныя меры па ўдасканаленні ўсяго гаспадарчага механізму, якія былі адобраны XXIII з'ездам. Усё гэта паклала пачатак правядзенню ў нашай краіне гаспадарчай рэформы, якая з'яўляецца далейшым развіццём ленінскіх прынцыпаў сацыялістычнага гаспадарання.

Вынікі восьмай пяцігодкі сведчаць аб вялікім станоўчым уплыве новай сістэмы планавання і стымулявання на эфектыўнасць вытворчасці.

Гаспадарчая рэформа—не аднатэрміновы акт. Гэта працэс удасканалення кіравання гаспадаркай з мэтай максімальнага выкарыстання ўсіх пераваг сацыялістычнага спосабу вытворчасці.

У новай пяцігодцы будзе завершан перавод гаспадарча-разліковых прадпрыемстваў і арганізацый усіх галін матэрыяльнай вытворчасці і сферы абслугі на новую сістэму планавання і стымулявання.

Савецкае **планаванне** мае сусветна прызнаныя дасягненні. Наспела патрэба ў паляпшэнні міжгаліновага планавання, значэнне якога ўсё больш узрастае ў сувязі з неабходнасцю вырашэння многіх буйных народнагаспадарчых праблем з удзелам раду галін гаспадаркі.

Вялікае значэнне для вырашэння комплексных народнагаспадарчых праблем маюць доўгатэрміновыя прагнозы. Яны павінны адыграць важную ролю ў павышэнні навуковай абгрунтаванасці доўгатэрміновых перспектыўных планаў. Цяпер разглядаецца генеральная схема размяшчэння прадукцыйных сіл. На гэтай аснове мы зможам правільна падысці да складання доўгатэрміновага плана развіцця народнай гаспадаркі СССР, скажам, на 10—15 гадоў, які павінен заняць важнае месца ў сістэме планавання.

Узмацненне ролі доўгатэрміновых планаў, усебаковае вывучэнне грамадскіх патрэб і пакупнога попыту, збалансаванне развіцця ўсіх галін народнай гаспадаркі на аснове прагрэсіўных нарматываў выкарыстання матэрыяльных, працоўных і фінансавых рэсурсаў, больш глыбокая распрацоўка сацыяльных праблем і праблем навукова-тэхнічнага прагрэсу ў іх адзінстве з эканамічным развіццём краіны — такія галоўныя напрамкі далейшага павышэння навуковага ўзроўню планавання.

Важную ролю ва ўмацаванні дысцыпліны і павышэнні адказнасці кожнага работніка за даручаную справу заклікана адыграць дакладна наладжаная **праверка выканання.** Партыйныя і савецкія органы на месцах, органы народнага кантролю з іх шматмільённым актывам, органы дзяржаўнай статыстыкі павінны паставіць у цэнтр сваёй дзейнасці сістэматычную праверку выканання рашэнняў і ўказанняў партыі і ўрада.

У дакладзе таварыша Брэжнева звернута ўвага на неабходнасць умелага выкарыстання эканамічных рычагоў, удасканалення таварна-грашовых адносін. Цэнтральны Камітэт партыі і Савецкі ўрад зыходзяць з таго, што вядучым і вызначальным з'яўляецца дырэктыўнае планаванне і што таварна-грашовыя адносіны могуць і павінны выкарыстоўвацца ў інтарэсах умацавання планавага кіраўніцтва народнай гаспадаркай і развіцця ініцыятывы прадпрыемстваў і аб'яднанняў на асновах гаспадарчага разліку.

Новая сістэма **эканамічнага стымулявання,** якая грунтуецца на ўмацаванні і развіцці гаспадарчага разліку, прадугледжвае ўзмацненне ролі прыбытку ў народнай гаспадарцы. Мы разглядаем прыбытак і рэнтабельнасць як важныя паказчыкі эфектыўнасці вытворчасці.

Далей дакладчык звярнуў увагу на неабходнасць удасканалення сістэмы цэнаўтварэння, на ўзросшую ва ўмовах рэформы ролю крэдыту, на вялікія задачы, якія стаяць перад сістэмай матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння. Ён спыніўся на пытанні далейшай рацыяналізацыі структуры кіравання народнай гаспадаркай.

Асаблівую ўвагу ва ўсіх звеннях гаспадарчай сістэмы — няхай гэта будзе прадпрыемства, аб'яднанне, міністэрства або Дзяржплан — неабходна ўдзяляць **аптымальнасці прымаемых рашэнняў.**

Неабходна павысіць патрабаванні да праектных арганізацый, міністэрстваў, ведамстваў, Дзяржплана, Дзяржснаба ў адносінах да ўсебаковай абгрунтаванасці прымаемых або прапануемых імі рашэнняў.

Сацыялістычнае гаспадаранне прынцыпова несумяшчальнае як з ведамаснасцю, якая парушае рацыянальныя вытворчыя сувязі, так і з месніцтвам, якое аслабляе адзінства гаспадарчай дзейнасці.

Удасканальванне сістэмы планавання і кіравання народнай гаспадаркай у сучасных умовах патрабуе шырокага прымянення эканоміка-матэматычных метадаў і выкарыстання электронна-вылічальнай тэхнікі, аргтэхнікі, тэхнічна перадавых сродкаў сувязі.

За пяцігоддзе намечана ўвесці ў дзеянне не менш як 1600 аўтаматызаваных сістэм кіравання прадпрыемствамі і арганізацыямі прамысловасці і сельскай гаспадаркі, сувязі, гандлю і транспарту.

Наша планавая гаспадарка дае магчымасць стварыць агульнадзяржаўную аўтаматызаваную сістэму збору і апрацоўкі інфармацыі для ўліку, планавання і кіравання народнай гаспадаркай на базе дзяржаўнай сістэмы вылічальных цэнтраў і адзінай аўтаматычнай сеткі сувязі краіны.

Пастаяннай увагі патрабуе пытанне аб **кадрах кіравання.** Перад намі стаіць задача — паслядоўна расшыраць і паляпшаць сістэму падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кіраўніцкіх кадраў на ўсіх узроўнях, уключаючы вышэйшыя кіруючыя кадры.

Важнай умовай павышэння эфектыўнасці арганізацыі і кіравання народнай гаспадаркай з'яўляецца **далейшае развіццё сацыялістычнай дэмакратыі,** расшырэнне ўдзелу працоўных у кіраванні вытворчасцю. Гэта забяспечвае рэалізацыю важнейшага прынцыпу нашай гаспадарчай дзейнасці—спалучэнне інтарэсаў грамадства, калектыву з інтарэсамі кожнага працоўнага.

Праект Дырэктыў пасля яго зацвярджэння з'ездам партыі стане кіраўніцтвам для ўсіх савецкіх людзей. Трэба за кароткі тэрмін закончыць складанне пяцігадовага плана з размеркаваннем заданняў па гадах. Трэба будзе разгледзець пяцігадовы план ва ўрадзе, на Пленуме ЦК КПСС і ўнесці на зацвярджэнне сесіі Вярхоўнага Савета СССР. Складанне плана павінна быць завершана не пазней 1 чэрвеня 1971 года, з тым, каб своечасова давесці яго да кожнага аб'яднання, прадпрыемства.

# V. ДАЛЕЙШЫ ЎЗДЫМ МАТЭРЫЯЛЬНАГА І КУЛЬТУРНАГА ЎЗРОЎНЮ ЖЫЦЦЯ САВЕЦКАГА НАРОДА

У Справаздачным дакладзе ЦК КПСС таварыш Брэжнеў выклаў палітыку партыі па павышэнні матэрыяльнага дабрабыту народа.

У праекце Дырэктыў намечана шырокая праграма павышэння жыццёвага ўзроўню, паляпшэння ўмоў працы і быту савецкіх людзей.

Матэрыяльны дабрабыт нашага народа будзе ўзрастаць у новым пяцігоддзі перш за ўсё ў выніку павелічэння заработнай платы рабочых і служачых і даходаў калгаснікаў па меры росту прадукцыйнасці працы і павышэння кваліфікацыі работнікаў, сказаў тав. А. М. Касыгін. За кошт гэтага забяспечваецца асноўная частка ўсяго прыросту даходаў насельніцтва.

Праграма павышэння ўзроўню жыцця народа прадугледжвае правядзенне раду буйных мерапрыемстваў.

ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР з удзелам ВЦСПС, узважыўшы нашы магчымасці, вызначылі паслядоўнасць і тэрміны ажыццяўлення намечанай праграмы.

У адпаведнасці з гэтай праграмай у 1971 годзе будзе павышаны да 70 рублёў у месяц мінімум заработнай платы і адначасова павялічаны стаўкі і аклады сярэднеаплатных рабочых і служачых чыгуначнага транспарту. У гэтым жа годзе павышаюцца тарыфныя стаўкі механізатараў сельскай гаспадаркі.

З 1 ліпеня 1971 года прадугледжваецца павысіць мінімальны размер пенсій калгаснікам і пашырыць на іх парадак налічэння пенсій, устаноўлены для рабочых і служачых.

З гэтага ж тэрміну, гэта значыць з 1 ліпеня 1971 года, будуць павялічаны мінімальныя размеры пенсій па старасці для рабочых і служачых.

На працягу 1972 года будзе ўведзены новы мінімум заработнай платы і адначасова павышаны стаўкі і аклады сярэднеаплатных рабочых і служачых у раёнах Крайняй Поўначы і прыроўненых да іх мясцовасцях, на еўрапейскай Поўначы, Далёкім Усходзе, ва Усходняй і Заходняй Сібіры і на Урале.

З 1 верасня 1972 года плануецца павысіць адначасова ва ўсёй краіне заработную плату настаўнікам і урачам у сярэднім прыкладна на 20 працэнтаў, а выхавацелям дзіцячых дашкольных устаноў—у больш высокім размеры. З гэтага ж тэрміну будуць таксама павышаны стыпендыі студэнтам вну ў сярэднім на 25 працэнтаў і навучэнцам тэхнікумаў у сярэднім на 50 працэнтаў.

На працягу 1973 года новы мінімум заработнай платы і павышэнне ставак і акладаў сярэднеаплатных рабочых і служачых у вытворчых галінах будуць уведзены ў Казахстане, Сярэдняй Азіі, Паволжы, Волга-Вяцкім раёне і ў Данбасе.

Будуць таксама павялічаны пенсіі сем'ям ваеннаслужачых, якія страцілі кармільца.

Прадугледжваецца павялічыць працягласць водпуску з выплатай дапамогі па часовай непрацаздольнасці, які даецца для догляду хворага дзіцяці.

У 1974 годзе завершыцца ўвядзенне новага мінімуму заработнай платы і павышэнне ставак і акладаў сярэднеаплатных рабочых і служачых у вытворчых галінах у астатніх раёнах краіны, а таксама ў галіне асветы і аховы здароўя.

Адным з буйных мерапрыемстваў па пенсійным забеспячэнні ў дзевятай пяцігодцы з'явіцца павелічэнне размераў пенсій інвалідам працы і вайны. Размеры пенсій інвалідам павышаюцца ў сярэднім на 33 працэнты. Адначасова павысяцца ў сярэднім на 20 працэнтаў пенсіі сем'ям, якія страцілі кармільца.

У 1975 годзе поўнасцю завершыцца ўвядзенне новага мінімуму заработнай платы і павышэнне ставак і акладаў сярэднеаплатных рабочых і служачых.

На працягу дзевятай пяцігодкі намечана таксама паступова ажыццявіць павышэнне заработнай платы ў асобных раёнах шляхам ўвядзення або павышэння раённых каэфіцыентаў. У Заходняй Сібіры, на Урале, у Казахстане (акрамя паўднёвых раёнаў), а таксама ў асобных раёнах Сярэдняй Азіі будуць устаноўлены каэфіцыенты да заработнай платы тых рабочых і служачых, якія іх яшчэ не атрымліваюць. У радзе раёнаў Далёкага Усходу і Усходняй Сібіры для работнікаў некаторых галін народнай гаспадаркі дзеючыя раённыя каэфіцыенты будуць павышаны.

Значна павялічваюцца размеры даплат рабочым і служачым за работу ў начны час.

Адначасова з мерапрыемствамі па павелічэнні мінімуму заработнай платы будуць адменены падаткі з заработкаў рабочых і служачых да 70 рублёў у месяц і зменшаны стаўкі падаткаў з заработнай платы да 90 рублёў у месяц.

У дзевятай пяцігодцы прадугледжваецца ўвесці **дапамогі на дзяцей** для малазабяспечаных сем'яў працоўных. Савецкая дзяржава і цяпер аказвае дапамогу мнагадзетным сем'ям. Для малазабяспечаных сем'яў устаноўлена паніжаная плата за карыстанне дзіцячымі ўстановамі, зніжаны стаўкі падатку з заработнай платы з улікам колькасці ўтрыманцаў. У дзевятай пяцігодцы намячаецца ўвесці дапамогі на дзяцей для сем'яў у якіх сукупны даход (уключаючы ўсе віды даходаў) у разліку на аднаго члена сям'і не перавышае 50 рублёў у месяц. Такія дапамогі будуць уведзены ў 1974 годзе.

Прадугледжваецца павысіць нормы харчавання ў бальніцах, а таксама ў гарадскіх прафесіянальна-тэхнічных вучылішчах.

Расходы на ўсе пералічаныя мерапрыемствы намечана павялічыць у новай пяцігодцы ў 2,2 раза ў параўнанні з мінулай пяцігодкай.

Сярэднемесячная грашовая заработная плата рабочых і служачых будзе павышана за пяцігоддзе на 20—22 працэнты, аплата працы калгаснікаў у грамадскай гаспадарцы калгасаў — на 30—35 працэнтаў. Выплаты і льготы з грамадскіх фондаў спажывання дасягнуць у 1975 годзе 90 мільярдаў рублёў або ўзрастуць прыкладна на 40 працэнтаў.

Як было ўжо далажана з'езду Генеральным сакратаром ЦК КПСС таварышам Брэжневым, прапануецца правесці **датэрміновае пагашэнне ўнутранага дзяржаўнага доўгу.**

З 1947 па 1956 год было выпушчана 11 пазык. Агульная сума ўнутранага дзяржаўнага доўгу па гэтых пазыках складае 25 мільярдаў 800 мільёнаў рублёў.

У адпаведнасці з пастановай ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР ад 19 красавіка 1957 года пагашэнне доўгу меркавалася ажыццявіць на працягу 20 гадоў, пачынаючы з 1977 года.

Цэнтральны Камітэт партыі і Савет Міністраў СССР старанна разгледзелі гэта пытанне і, узважыўшы ўсе магчымасці, прызналі неабходным пачаць пагашэнне пазык датэрмінова, пачынаючы з 1974 года.

Пагашэнне доўгу прадугледжваецца ў наступныя тэрміны: у 1974 і 1975 гадах — па 1 мільярду рублёў у год, у 1976—1980 гадах — па 1 мільярду 200 мільёнаў рублёў, у 1981—1985 гадах — па 1 мільярду 500 мільёнаў рублёў, у 1986—1989 гадах — па 2 мільярды рублёў, у 1990 годзе — 2 мільярды 300 мільёнаў рублёў.

Высокія тэмпы росту грашовых даходаў насельніцтва павінны забяспечвацца павелічэннем вытворчасці тавараў народнага спажывання і ростам тавараабароту. У праекце Дырэктыў прадугледжана, што пры росце грашовых даходаў насельніцтва на 40 працэнтаў продаж тавараў насельніцтву ўзрасце на 42 працэнты, а аб'ём платных паслуг —на 47 працэнтаў.

У новай пяцігодцы рыначныя фонды такіх прадуктаў, як мяса, рыба, алей, яйкі, гародніна, павялічацца на 40—60 працэнтаў. Продаж адзення ўзрасце на 35 працэнтаў, трыкатажных вырабаў — на 56, тавараў культурна-бытавога прызначэння — на 80 працэнтаў. Забяспечанасць насельніцтва халадзільнікамі ў разліку на 100 сем'яў павысіцца з 32 штук у 1970 годзе да 64 штук у 1975 годзе, тэлевізарамі — адпаведна з 51 да 72, пральнымі машынамі — з 52 да 72 штук. Да канца пяцігодкі продаж насельніцтву аўтамабіляў павялічыцца ў параўнанні з 1970 годам больш, чым у 6 разоў.

У новай пяцігодцы, як сказана ў праекце Дырэктыў, будзе забяспечана стабільнасць дзяржаўных рознічных цэн. На асобныя віды тавараў, па меры накаплення таварных рэсурсаў, цэны будуць зніжацца.

У праекце Дырэктыў прадугледжваецца пабудаваць у 1971—1975 гадах жылыя дамы агульнай плошчай 565—575 мільёнаў квадратных метраў. **Жыллёвае будаўніцтва** ўсё ў большай меры будзе ажыццяўляцца па новых праектах, якія прадугледжваюць больш зручную планіроўку, лепшае абсталяванне і аддзелку кватэр.

Трэба развіваць жыллёва-будаўнічую кааперацыю, а таксама садзейнічаць індывідуальнаму жыллёваму будаўніцтву ў горадзе і ў вёсцы.

За пяць гадоў намечана газіфікаваць 17—18 мільёнаў кватэр. Узровень газіфікацыі жыллёвага фонду ў гарадах складзе 65—75 працэнтаў, у вёсцы—40—50 працэнтаў.

У новай пяцігодцы будзе **завершана ўвядзенне ўсеагульнай сярэдняй адукацыі.** Вырашэнне гэтай задачы мае велізарнае палітычнае і сацыяльнае значэнне.

Далейшае развіццё атрымае вышэйшая і сярэдняя спецыяльная адукацыя. Намечана падрыхтаваць каля 9 мільёнаў спецыялістаў, у тым ліку па новых напрамках навукі і тэхнікі.

Вялікія задачы ў новай пяцігодцы стаяць у галіне **аховы здароўя насельніцтва.**

Неабходна палепшыць усе віды медыцынскай дапамогі, наблізіць узровень медыцынскага абслугоўвання сельскага насельніцтва да ўзроўню абслугоўвання насельніцтва гарадоў. Кола гэтых задач у значнай меры вызначана законам аб ахове здароўя, а таксама пастановай ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР «Аб мерах па далейшым паляпшэнні аховы здароўя і развіцці медыцынскай навукі ў краіне».

Далейшае развіццё ў дзевятай пяцігодцы атрымаюць **фізічная культура і спорт.**

Інтарэсы здароўя насельніцтва патрабуюць беражлівых адносін да прыроды, паляпшэння санітарнага стану населеных пунктаў. Трэба строга і паслядоўна ажыццяўляць Асновы зямельнага і воднага заканадаўства, прынятыя Вярхоўным Саветам СССР.

Сацыялізм упершыню ў гісторыі ператварае багацце грамадства ў багацце для ўсіх членаў грамадства. У гэтым—адна з крыніц працоўнага гераізму савецкіх людзей, іх адданасці ідэалам камунізма, адна з асноў непарушнага адзінства партыі і народа.

# VI. ЗНЕШНЕЭКАНАМІЧНЫЯ СУВЯЗІ

Важная задача дзевятай пяцігодкі—далейшае развіццё знешнеэканамічных сувязей, накіраванае на максімальнае выкарыстанне пераваг міжнароднага падзелу працы, працягваў дакладчык. Гэта будзе садзейнічаць умацаванню міжнародных пазіцый Савецкага Саюза, умацаванню адзінства і эканамічнай магутнасці сусветнай сацыялістычнай сістэмы.

Праектам Дырэктыў прадугледжваецца шэраг канкрэтных крокаў да планамернага развіцця цеснага эканамічнага і навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва СССР з брацкімі краінамі.

Усебаковаму выкарыстанню велізарных патэнцыяльных магчымасцей, заключаных у супрацоўніцтве краін СЭУ, заклікана садзейнічаць праграма сацыялістычнай эканамічнай інтэграцыі, якая распрацоўваецца цяпер.

У гэтым пяцігоддзі наша краіна будзе ўдзяляць вялікую ўвагу паглыбленню ўсебаковага эканамічнага і навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва і расшырэнню на гэтай аснове замежнага гандлю і з іншымі сацыялістычнымі краінамі— Дэмакратычнай Рэспублікай В'етнам, Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікай, Рэспублікай Куба, Сацыялістычнай Федэратыўнай Рэспублікай Югаславіяй.

Савецкі Саюз зрабіў шэраг крокаў да развіцця нашага гандлю з Кітаем. Аднак вынікі, дасягнутыя ў гэтай галіне, далёка не адпавядаюць рэальным магчымасцям абедзвюх краін. Мы будзем імкнуцца да таго, каб у будучыя гады гандлёвыя адносіны з Кітаем маглі атрымаць развіццё на аснове роўнасці і захавання ўзаемных інтарэсаў.

У новым пяцігоддзі намячаецца далейшае расшырэнне знешнеэканамічных сувязей СССР з краінамі Азіі, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі, якія сталі на шлях развіцця.

Мы стаім за расшырэнне гандлёвых сувязей і з прамыслова развітымі капіталістычнымі краінамі.

Дакладчык напомніў, што Савецкі Саюз надае вельмі вялікае значэнне скліканню Нарады па пытаннях еўрапейскай бяспекі. Для нас зусім ясна, сказаў ён, што правядзенне гэтай нарады садзейнічала б умацаванню даверу ў Еўропе, адкрыла б шлях да шырокага эканамічнага і навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва. Яно з'явілася б трывалай асновай для ўмацавання міру і ўзаемаразумення на прынцыпах мірнага суіснавання.

Савецкі Саюз, брацкія сацыялістычныя краіны нязменна выступаюць за мірнае суіснаванне паміж дзяржавамі з розным сацыяльным ладам. Мы не лічым вайну немінучай і таму стаім за эканамічнае спаборніцтва паміж дзвюма сістэмамі. Мы супраць замкнёных груповак тыпу «агульнага рынку». Мы за шырокае развіццё шматбаковых эканамічных сувязей, без усякай дыскрымінацыі. Гэта наша прынцыповая пазіцыя.

Дзевяты пяцігадовы план—гэта план далейшага ўздыму эканомікі краіны і жыццёвага ўзроўню двухсотпяцідзесяцімільённага савецкага народа, адзначыў дакладчык. Наш пяцігадовы план—гэта план мірнага будаўніцтва. Ён паказвае, што палітыка Савецкай дзяржавы—гэта палітыка міру і прагрэсу. Нашы планы мірнага будаўніцтва, наша міралюбівая палітыка процістаяць агрэсіўнай палітыцы імперыялізму. Мы змагаемся за разрадку міжнароднай напружанасці ў інтарэсах усіх народаў.

У складаным міжнародным становішчы, калі імперыялістычная рэакцыя прыбягае да ваенных авантур і прамой агрэсіі, калі амерыканскія імперыялісты, парушаючы нормы міжнароднага права, вядуць ганебную, брудную, бандыцкую вайну ў В'етнаме, Камбоджы і Лаосе і садзейнічаюць агрэсіі на Блізкім Усходзе, калі ў свеце захоўваецца напружанасць і пагроза вайны, мы не маем права ні на хвіліну забываць аб неабходнасці ўмацавання нашых Узброеных Сіл і іх высокай баегатоўнасці. Новая пяцігодка забяспечыць далейшае ўмацаванне абароннай магутнасці нашай дзяржавы.

Выкананне пяцігодкі будзе мець велізарнае гаспадарча-палітычнае значэнне для далейшага развіцця ўсяго Савецкага Саюза і кожнай саюзнай рэспублікі паасобку, для ўсіх народаў нашай вялікай Радзімы: яно яшчэ вышэй узніме яе эканамічную магутнасць, зробіць жыццё ўсіх людзей лепшым і прыгажэйшым—матэрыяльна больш забяспечаным і духоўна больш змястоўным і цікавым.

Мы перакананы, што ў барацьбе за выкананне заданняў пяцігодкі творчая ініцыятыва працоўных будзе расці, і гэта з'явіцца рашаючым фактарам новых перамог камуністычнага будаўніцтва.

Увесь гістарычны вопыт развіцця савецкага грамадства служыць яскравым пацвярджэннем выдатных ленінскіх слоў «Чым большы размах, чым большая шырыня гістарычных дзеянняў, тым большая колькасць людзей, якая ў гэтых дзеяннях удзельнічае, і, наадварот, чым больш глыбокае пераўтварэнне, якое мы хочам зрабіць, тым больш трэба ўзняць цікавасць да яго і свядомыя адносіны, пераканаць у гэтай неабходнасці новыя і новыя мільёны і дзесяткі мільёнаў».

У заключэнне тав. А. М. Касыгін сказаў:

Сваімі планамі, сваёй палітыкай мы, камуністы, гаворым працоўным усяго свету, што наш галоўны клопат і мэта—шчасце чалавека працы, стварэнне такіх умоў, якія забяспечваюць поўны і ўсебаковы росквіт чалавечай асобы.

Дырэктывы па дзевятым пяцігадовым плане, якія зацвердзіць XXIV з'езд нашай партыі,—гэта ўсенародная праграма.

У параўнанні з усімі папярэднімі пяцігадовымі планамі, якія савецкі народ паспяхова ажыццявіў, цяперашняя пяцігодка вызначаецца сілай свайго размаху, велічу намечаных задач, шырынёй ахопу ўсіх важнейшых бакоў жыцця савецкага грамадства.

Кожны працаўнік нашай краіны не пашкадуе сіл і энергіі, каб унесці свой уклад у вялікую агульнанародную справу.

Дазвольце выказаць упэўненасць у тым, што воляй партыі, воляй і самаадданай працай усяго савецкага народа дзевятая пяцігодка будзе выканана паспяхова.

Вялікая партыя Леніна вядзе нас да новых слаўных здзяйсненняў, да новых перамог камунізма!

Няхай жыве вялікі савецкі народ — тварэц камунізма!

**Даклад тав. А. М. Касыгіна быў выслуханы з вялікай увагай і неаднаразова перапыняўся апладысментамі.**

# ПРАМОВА ТАВАРЫША П. М. МАШЭРАВА,

## ПЕРШАГА САКРАТАРА ЦК КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ

Таварышы! Усе мы, дэлегаты з'езда, знаходзімся пад глыбокім уражаннем даклада Генеральнага сакратара ЦК КПСС таварыша Брэжнева Леаніда Ільіча. Выкладзеныя ў дакладзе вынікі дзейнасці, рознабакова прадстаўленыя ў ім важныя абагульненні, вывады і шырокая праграма далейшага развіцця нашай сацыялістычнай Радзімы выклікаюць пачуццё законнай гордасці за нашу магутную шматмільённую ленінскую партыю камуністаў і яе Цэнтральны Камітэт, за наш моцны і адданы ідэалам камунізма савецкі народ. **(Апладысменты).**

Справаздача ЦК ярка сведчыць, які вялікі крок наперад зроблен нашай краінай за мінулую пяцігодку. Ва ўсім гэтым мы бачым велізарную сілу ўздзеяння XXIII з'езда КПСС і той шматграннай плённай дзейнасці партыі, Цэнтральнага Камітэта і яго Палітбюро, якую яны з уласцівай ім ленінскай настойлівасцю і паслядоўнасцю праводзілі па ажыццяўленні рашэнняў з'езда. У партыі, у краіне ўсталявалася дзелавітая, творчая абстаноўка, умацаваліся ленінскія нормы партыйнага і дзяржаўнага жыцця, паспяхова ажыццёўлены буйнейшыя гаспадарча-палітычныя мерапрыемствы, якія адкрылі шырокую прастору далейшаму росту прадукцыйных сіл, развіццю нашага сацыялістычнага грамадства.

Камуністы Беларусі на нядаўна прайшоўшых справаздачна-выбарных сходах, канферэнцыях і рэспубліканскім з'ездзе выказалі аднадушнае адабрэнне і поўную падтрымку палітычнай лініі і практычнай дзейнасці нашай ленінскай партыі, яе Цэнтральнага Камітэта. **(Апладысменты).** Яны з пераканаўчай сілай прадэманстравалі маналітнае адзінства і згуртаванасць беларускай партыйнай арганізацыі вакол Цэнтральнага Камітэта КПСС, паказалі высокую гатоўнасць па-баявому, з яшчэ большай актыўнасцю і мэтанакіраванасцю ажыццяўляць дырэктывы партыі, заўсёды і ва ўсім кіравацца неўміручымі запаветамі нашага вялікага настаўніка Уладзіміра Ільіча Леніна. **(Апладысменты).**

Кампартыя Беларусі, як адзін з баявых атрадаў КПСС, пасля XXIII з'езда яшчэ больш загартавалася ідэйна, узбагацілася новым вопытам палітычнага кіраўніцтва. Яна ўвасабляе жывую ідэйную сувязь, пераемнасць пакаленняў, спалучае ў сабе энергію маладосці і мудрасць сталасці, веды і вопыт людзей, здольных вырашаць самыя складаныя і адказныя задачы камуністычнага будаўніцтва.

Характэрныя для справаздачнага перыяду якасна новыя працэсы і з'явы, выкліканыя да жыцця ленінскай накіраванасцю ў дзейнасці ЦК КПСС і яго Палітбюро, далі магчымасць узняць узровень работы партыйных арганізацый, зрабіць яе больш палітычна насычанай і змястоўнай, канкрэтнай і мэтанакіраванай.

У партыйнай рабоце з'явілася шмат новага, што ідзе ад патрабаванняў жыцця і запатрабаванняў практыкі. У яе змесце ўсё большае месца займаюць ключавыя праблемы развіцця народнай гаспадаркі, павышэння эфектыўнасці грамадскай вытворчасці, камуністычнага выхавання працоўных.

Усё гэта з'явілася важнай умовай паспяховага вырашэння буйных задач гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Прамысловасць Беларусі датэрмінова, яшчэ ў кастрычніку мінулага года, завяршыла выкананне восьмай пяцігодкі. Звыш плана выпушчана розных вырабаў на сотні мільёнаў рублёў. Вытворчасць прамысловай прадукцыі павялічылася амаль на 80 працэнтаў супраць 70 працэнтаў, прадугледжаных Дырэктывамі XXIII з'езда партыі. Інакш кажучы, за пяцігоддзе атрымана прыкладна столькі прадукцыі, колькі было яе выраблена за два папярэднія пяцігоддзі.

Апераджальнымі тэмпамі развіваліся найбольш сучасныя галіны, якія забяспечваюць тэхнічны прагрэс у народнай гаспадарцы. Вытворчасць прадукцыі машынабудавання і металаапрацоўкі павялічылася ў 2 разы, хімічнай і нафтахімічнай прамысловасці — у 3,3, прыбораў і сродкаў аўтаматызацыі — у 3,8, электраэнергіі — у 1,8 раза. Бурны рост індустрыі, асабліва яе найбольш дынамічных галін, даў магчымасць істотна павысіць удзельную вагу эканомікі Беларусі ў агульнасаюзнай вытворчасці.

Вялікі крок наперад зрабіла і сельская гаспадарка. Тут перш за ўсё хацелася б сказаць аб тым, што перыяд, які мінуў пасля сакавіцкага (1965 г.) Пленума ЦК КПСС, з'явіўся па сутнасці паваротным этапам у барацьбе нашай партыі за далейшы ўздым гэтай жыццёва важнай галіны. Ажыццяўленне шырока вядомых буйных эканамічных і сацыяльных мер, тыя велізарныя намаганні, якія былі зроблены Палітбюро ЦК КПСС і асабіста таварышам Л. І. Брэжневым, ужо прынеслі немалыя вынікі, а галоўнае — стварылі рэальныя перадумовы для дасягнення ў бліжэйшым будучым высокага ўзроўню інтэнсіфікацыі сельскагаспадарчай вытворчасці. Гэта мы добра адчуваем і ў нашай рэспубліцы. Вытворчасць валавой прадукцыі ў калгасах, саўгасах і іншых дзяржаўных гаспадарках павялічылася за мінулае пяцігоддзе ў па-



раўнанні з папярэднім на 45 працэнтаў, у тым ліку збожжа — на 53, мяса — на 73, малака — на 66 працэнтаў і яек — у 2,4 раза. Планы нарыхтовак усіх відаў прадукцыі сельскай гаспадаркі значна перавыкананы. Характэрна, што прадукцыйнасць працы ў калгасах і саўгасах павысілася на 50 працэнтаў. Чысты даход калгасаў за пяць гадоў павялічыўся ў два разы, а прыбытак саўгасаў узрос у шэсць разоў.

Гэта, на першы погляд, сухія лічбы, але яны гавораць аб многім. За імі — велізарная арганізатарская і палітычная дзейнасць партыі, узросшае ўменне нашых кадраў працаваць у духу высокіх патрабаванняў сучаснасці.

За гэтымі лічбамі — вялікая стваральная праца нашага народа, яго камуністычная перакананасць, рознабаковы духоўны і прафесійны рост, сацыялістычныя прынцыпы жыцця і працы, якія ўвайшлі ў плоць і кроў нашых людзей. **(Апладысменты).**

У нашых поспехах жыве і перамагае магутная сіла сацыялістычнага інтэрнацыяналізму. Унушальны і пастаянна растучы эканамічны патэнцыял Беларускай ССР — вынік мудрай ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі, непарушнай сацыяльна-эканамічнай і духоўнай агульнасці, вялікай дружбы народаў Савецкага Саюза. **(Апладысменты).** Усё, што створана ў рэспубліцы, увасабляе ў сабе сукупную працу, выпраменьвае жыватворную сілу і цяпло брацкага ўзаемаўзбагачальнага супрацоўніцтва ўсіх народаў нашай шматнацыянальнай Радзімы. І працоўныя Беларусі поўныя гарачай і сардэчнай удзячнасці ўсім народам-братам вялікай Савецкай Айчыны **(Апладысменты).**

Таварышы! Поспехі нашай краіны ў выкананні планаў мінулай пяцігодкі вельмі ўражлівыя. Іх выключная важнасць і значнасць заключаюцца ў тым, што яны адкрываюць шырокія гарызонты для больш маштабнага і якасна новага вырашэння задач далейшага ўмацавання магутнасці Савецкай дзяржавы і ажыццяўлення буйных сацыяльна-эканамічных і палітычных мерапрыемстваў.

Усё гэта знайшло канцэнтраванае і пераканаўчае выражэнне ў вялікай і прынцыпова важнай праграме, выкладзенай таварышам Л. І. Брэжневым, у дакладзе ЦК. Яна, несумненна, атрымае аднадушнае і гарачае адабрэнне ўсіх дэлегатаў з'езда, усёй партыі, усяго савецкага народа. **(Працяглыя апладысменты).**

Гэта праграма адкрывае новы этап у далейшым развіцці народнай гаспадаркі Беларусі, павышэнні дабрабыту народа. У дзевятай пяцігодцы аб'ём прамысловай вытворчасці ў рэспубліцы ўзрасце больш чым у паўтара раза.

Асаблівая ўвага будзе ўдзелена выпуску прадукцыі, якая ўносіць карэнныя змены ў арганізацыю працы і рэзка павышае яе прадукцыйнасць. Мы лічым сваёй першараднай задачай істотна павялічыць выпуск і ўзняць тэхнічны ўзровень і эканамічнасць аўтаматычных ліній, агрэгатных станкоў, вылічальнай тэхнікі, сродкаў механізацыі і аўтаматызацыі вытворчасці і кіравання. З улікам развіцця вялікай хіміі і значнага патэнцыялу лёгкай і харчовай прамысловасці рэспубліка мае магчымасці хутка расшырыць выпуск тавараў народнага спажывання.

Шматабяцаючыя перспектывы адкрываюцца і ў галіне сельскай гаспадаркі. У гэтай пяцігодцы ў рэспубліцы прадугледжваецца павялічыць за кошт, галоўным чынам, павышэння ўраджайнасці валавы збор збожжа на 55 працэнтаў. Намячаецца таксама павялічыць рост прадукцыі жывёлагадоўлі ў калгасах, саўгасах і іншых дзяржаўных гаспадарках у паўтара раза, забяспечыць, у прыватнасці, сярэдні ўзровень вытворчасці мяса ў грамадскай гаспадарцы не менш чым да 100 цэнтнераў і малака — да 500 цэнтнераў у разліку на 100 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў. Гэтыя адносна высокія планы апіраюцца на ўзросшыя магчымасці нашай сельскай гаспадаркі, яе мацнеючую матэрыяльна-тэхнічную базу. У гэтай пяцігодцы дзяржаўныя капіталаўкладанні ў сельскую гаспадарку Беларусі павялічваюцца амаль у два разы. Толькі на меліярацыю выдзяляецца звыш паўтара мільярдаў рублёў, што дасць нам магчымасць меліяраваць больш за мільён гектараў зямель, гэта значыць на 19 працэнтаў больш, чым у мінулай пяцігодцы. Значна павялічваюцца таксама пастаўкі мінеральных угнаенняў і неабходнай тэхнікі.

Мы імкнёмся зрабіць усеагульным здабыткам вопыт і дасягненні вялікай групы калгасаў, саўгасаў і цэлых раёнаў, якія ўжо атрымліваюць у нашых, зусім не самых спрыяльных, прыродных умовах па 25, а ў многіх гаспадарках — па 30—40 і больш цэнтнераў збожжа з гектара. У галіне жывёлагадоўлі арыенцірам служаць для нас гаспадаркі, у якіх ужо цяпер атрымліваюць 200 і больш цэнтнераў мяса і больш 1000 цэнтнераў малака ў разліку на сто гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў.

Камуністы Беларусі добра ўяўляюць, што намечаныя задачы далейшага развіцця народнай гаспадаркі запатрабуюць ад партыйнай арганізацыі рэспублікі больш дынамічнай і напружанай работы, больш поўнага і эфектыўнага выкарыстання ўсіх рэсурсаў, хутчэйшага пераадолення наяўных недахопаў і хібаў.

Мы добра ведаем тое, што недахопы ў кіраўніцтве гаспадаркай, у арганізатарскай і палітычнай рабоце, якія прынцыпова крытыкаваліся ў Справаздачным дакладзе Цэнтральнага Камітэта КПСС XXIV з'езду партыі, адносяцца ў аднолькавай ступені і да нашай рэспублікі. XXVII з'езд Кампартыі Беларусі, які адбыўся нядаўна, па-дзелавому і строга, крытычна прааналізаваў усе бакі дзейнасці рэспубліканскай партыйнай арганізацыі. З'езд сканцэнтраваў увагу камуністаў, усіх кадраў на нявырашаных праблемах і новых задачах, на неабходнасці ўдасканалення стылю і метадаў работы партыйных, савецкіх, гаспадарчых органаў з тым, каб на ўсіх участках, заўсёды і ўсюды работа вялася ў рэжыме сучасных патрабаванняў, ацэньвалася па вялікім рахунку нашых буйных перспектыўных спраў.

У нас яшчэ, на жаль, далёка не поўнасцю выкарыстоўваюцца рэзервы павышэння прадукцыйнасці працы, магчымасці механізацыі і аўтаматызацыі вытворчасці і асабліва яе дапаможных працэсаў на прадпрыемствах прамысловасці і ў будаўніцтве, недастаткова актыўна вырашаюцца пытанні комплекснай механізацыі і спецыялізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці, удасканалення арганізацыі працы і кіравання.

Мы бачым сваю задачу ў тым, каб намаганні кожнай партыйнай арганізацыі, кожнага калектыву былі падпарадкаваны хутчэйшаму ўкараненню ў вытворчасць, ва ўсе іншыя сферы нашай дзейнасці дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу і перадавой практыкі. Гаворка ідзе пра тое, каб падпарадкаваць патрабаванням навукова-тэхнічнай рэвалюцыі і арганізацыю вытворчасці, і сістэму кіравання, увесь рытм жыцця і працы.

Пакуль што яшчэ не ўсе нашы кадры праніклiся разуменнем таго, што навукова-тэхнічную рэвалюцыю нельга «ўціснуць» у рамкі старых метадаў і форм арганізацыі работы. Часам праяўляецца імкненне захаваць існуючую структуру кіравання нават тады, калі яна ўступае ў яўную супярэчнасць з інтарэсамі справы. Ці не таму нашы намаганні па стварэнні вытворчых аб'яднанняў часам не знаходзяць актыўнай падтрымкі ў некаторых міністэрствах і ведамствах? Напрыклад, неаднаразова намі ставілася пытанне аб стварэнні адпаведных аб'яднанняў на базе наяўных у рэспубліцы прадпрыемстваў, падведамасных саюзным міністэрствам, — трактарнага і сельскагаспадарчага машынабудавання, станкабудаўнічай і інструментальнай прамысловасці, радыёпрамысловасці і некаторых іншых. Але міністэрствы марудзяць з гэтай справай, хоць эканамічная мэтазгоднасць і эфектыўнасць аб'яднанняў ужо даказаны практыкай. Відаць, нялёгка адмовіцца ад старой, прывычнай сістэмы кіравання і, магчыма, расстацца з некаторымі лішнімі ў сучасных умовах звеннямі кіраўніцкага апарату.

Паскарэнне навукова-тэхнічнага прагрэсу ставіць усё новыя праблемы перад нашай навукай. Савецкая навука па радзе важных напрамкаў дасягнула вядучых пазіцый у свеце і здольна тварыць сапраўды цуды. Няма такіх тэарэтычных і практычных задач, якія яна не магла б вырашыць. Але яе ўплыў на развіццё народнай гаспадаркі шматразова ўзрасце, калі яшчэ больш умацуецца садружнасць навукі і вытворчасці, стане гранічна дакладнай каардынацыя намаганняў вучоных, канструктараў і работнікаў вытворчасці, калі ў інстытутаў і заводаў будзе агульная зацікаўленасць і адзіная мэта — хутчэй укараняць і поўнасцю выкарыстоўваць новыя навуковыя ідэі, перадавую тэхніку і прагрэсіўную тэхналогію. Вось чаму, на нашу думку, трэба было б смялей ісці на стварэнне навукова-вытворчых аб'яднанняў, здольных мацней звязаць прыкладную навуку з вытворчасцю і паскорыць укараненне навуковых распрацовак.

У гэтым напрамку, на наш погляд, правільна дзейнічае і падае добры прыклад Міністэрства электроннай прамысловасці СССР.

Рух наперад навукова-тэхнічнага прагрэсу ў вялікай, калі не ў вырашаючай ступені вызначаецца дасканаласцю самой сістэмы планавання і эканамічнага стымулявання. Мы поўнасцю падзяляем і падтрымліваем выказаныя ў дакладзе тав. Л. І. Брэжнева патрабаванні і прапановы наконт гэтага. Вопыт мінулай пяцігодкі паказаў, што ў гэтых адносінах трэба будзе зрабіць многае. Выразна адчуваецца неабходнасць самай старннай распрацоўкі ў планах пытанняў максімальнага выкарыстання навукова-тэхнічных дасягненняў у народнай гаспадарцы, узмацнення кантролю і адказнасці за ўкараненне новай тэхнікі і тэхналогіі.

У сувязі з гэтым нельга не адзначыць, што эканамічная рэформа, у якой у цэлым закладзен правільны курс сацыялістычнага гаспадарання ў сучасных умовах, пакуль што яшчэ слаба стымулюе развіццё вытворчасці на навейшай навукова-тэхнічнай базе. У гэтым мы бачым адзін з буйных яе недахопаў. Удасканальваючы сістэму гаспадарання, як відаць, неабходна выпрацаваць комплекс такіх мер, якія б максімальна заахвочвалі павышэнне прадукцыйнасці працы, распрацоўку прадпрыемствамі напружаных планаў, што прадугледжвалі б поўнае і рацыянальнае выкарыстанне ўсіх унутраных рэсурсаў і магчымасцей, актыўнае ўкараненне ў вытворчасць дасягненняў навукі, тэхнікі і перадавой практыкі.

...на згодны з гэтай ацэнкай. **(Апладысменты).**

Як абстаяць справы ў нашай пісьменніцкай гаспадарцы? Не будзем гаварыць пра тых літаратараў, якія варты грамадскай пагарды. Кім пагарджаюць, пра таго не гавораць. Шмат гонару. **(Апладысменты).**

Пагаворым пра тых, хто варты добрай увагі, пагаворым аб справе. Сакратар маскоўскай пісьменніцкай арганізацыі Сяргей Нараўчатаў на Маскоўскай гарадской партыйнай канферэнцыі нядаўна сказаў, што снайпераў сярод нас, пісьменнікаў, не так ужо шмат, але ў нас нямала варашылаўскіх стралкоў, якія складаюць касцяк арганізацыі. **(Апладысменты).** Такі прыкладна сэнс яго дакладнага паэтычнага параўнання. Але Нараўчатаў не сказаў пра тое, што сярод стралкоў ёсць немалая колькасць і такіх, якія не толькі ў «яблычка» ці ў «дзявятку» не трапляюць, а не трапляюць увогуле ў мішэнь. **(Ажыўленне ў зале).**

Пра такія стрэлы салдаты кажуць: «пайшла куля за малаком». **(Апладысменты).** І дзіўныя рэчы адбываюцца на літаратурным стрэльбішчы: куля, якая абмінула мішэнь, накшталт бумеранга, вяртаецца да стралка-мазілы, але не забівае яго, а і сапраўды прыносіць яму калі не малачко, дык аўтарскі ганарар «детишкам на молочишко». **(Смех у зале).**

Становішча было б яшчэ цярпімае, калі б стралкі-мазілы стралялі радзей, не беглым агнём і наўскідку. Але не так ужо рэдка марна расстрэльваюцца дарагія патроны, і шкоду, часам значную, церпіць, перш за ўсё, наш чытач. Аднак, паспрабуй, пагані такога стралка са стрэльбішча. Ён сцвярджае, што знаходзіцца на сапраўднай пісьменніцкай службе, усіх запэўнівае, што ён перспектыўны стралок, што наступным стрэлам абавязкова трапіць у мішэнь. А сам і не думае пра гэта, яму і без пападанняў жывецца выдатна! Ва ўсякім разе не горш, чым якому-небудзь кату, што жыве за прылаўкам гастранома. **(Апладысменты, смех у зале).**

Як пазбавіцца ад гэтай бяды? Думаецца, што трэба рэзка павысіць патрабавальнасць з боку рэдакцыйных работнікаў выдавецтваў і часопісаў — не толькі абласных, але і сталічных. А хто як не работнік выдавецтва ці часопіса павінен быць першай заслонай на шляху руху дрэннай кнігі? Літаратурная крытыка павінна адысці ад практыкі замоўчвання, калі мае справу з дрэнным творам, яе прамы абавязак — разабраць і ацаніць твор адпаведна яго сапраўднай каштоўнасці. Немалая частка віны тут і пісьменніцкіх арганізацый, якія не трымаюць за шэрыя фалды непатрэбную кнігу.

Ёсць і другі бок справы — гэта аплата аўтарскай працы. Літаратурная праца для нас, савецкіх пісьменнікаў, натуральна, ніколі не была і не можа быць сродкам нажывы ці ўзбагачэння. Перш за ўсё трэба зыходзіць з гэтага. Калі на Захадзе пісьменнік атрымлівае працэнты ад сум, выручаных выдавецтвам пасля продажу кнігі, то гэта сістэма аплаты дае магчымасць якому-небудзь славутаму ці проста моднаму пісьменніку-бізнесмену, чые кнігі разыходзяцца вялікімі тыражамі, стаць вельмі багатым чалавекам. А многія прагрэсіўныя літаратары ледзь зводзяць канцы з канцамі. Зразумела, што такая чыста камерцыйная сістэма абсалютна непрымальна для нас. Аднак і ў нашым аўтарскім праве ёсць некаторыя пункты, над якімі варта падумаць. Як ні парадаксальна гэта выглядае, але атрымліваецца так, што за кнігу, якую найбольш чытаюць, — а ў нас гэта кніга, якая мае найбольшыя ідэйныя і мастацкія вартасці, — аўтар пры шматразовым перавыданні атрымлівае ўсё менш і менш, пакуль кніга не будзе ўключана ў збор яго твораў.

Ёсць у нас у Саюзе савецкіх пісьменнікаў і яшчэ шэраг недаробак і недахопаў у рабоце, але я не лічу патрэбным гаварыць пра гэта з мэтай эканоміі вашага часу. У чэрвені гэтага года адбудзецца Усесаюзны з'езд пісьменнікаў, і мы з радасцю запрашаем на наш з'езд усіх руплівцаў літаратуры. Там ужо мы патрасем літаратурныя дываны! І пылу нанюхаемся. **(Ажыўленне ў зале).**

Тыражы кніг у нас сапраўды гіганцкія. Аднак чытацкі попыт перавышае і гэтыя тыражы. На галодным кніжным пайку сядзяць нават бібліятэкі. Іншая папулярная кніга, па самых аптымальных падліках, даходзіць толькі да адной з кожных пяці бібліятэк. А жаданне рабочага, калгасніка, інтэлігента мець у сябе дома ўпадабаную кнігу — гэта ж таксама трэба ўлічыць! Вось і паспачуваеш таварышам з гаркомаў ці райкомаў, якім даводзіцца падчас размяркоўваць кнігі, як самыя дэфіцытныя механізмы альбо матэрыялы! Не хапае паперы!

Успамінаецца мне, як сардэчна выступаў за мастацкую літаратуру на мінулым з'ездзе Канстанцін Іванавіч Галаншын. Тады ён быў першым сакратаром Пермскага абкома і прызнаваўся нам у любві. **(Ажыўленне ў зале).** Цяпер ён — міністр цэлюлозна-папяровай прамысловасці і маўчыць, нібы вады ў рот набраў. **(Апладысменты. Смех у зале).**

Дарагі Канстанцін Іванавіч! Тады мы ўсур'ёз паверылі ў вашу любоў, а зараз абвінавачваем вас у непастаянстве. **(Смех у зале, апладысменты).** Паглядзіце, Канстанцін Іванавіч, як насцярожыліся жанчыны-дэлегаты пры адным слове — «непастаянства». Яны, як і ўсе жанчыны ў свеце, арганічна не прымаюць гэтага слова! І тут я знайду надзейных саюзнікаў, абвінавачваючы вас у непастаянстве. **(Апладысменты).** І што ж гэта за любоў паміж намі? Любоў, як вядома, патрабуе ўзаемнасці, і калі не ахвяр, дык некаторых выдаткаў. Мы не чакаем ад вас, Канстанцін Іванавіч, ні гваздзік, ні мілых і мужных усмешак. Паперы нам дайце больш! Паперы! Звыш плана, які вы, на наша шчасце, выконваеце, і якасцю лепшай! Вось тады мы канчаткова паверым вашым пачуццям. Тады ўжо мы — празаікі, скінуўшыся, паднясем вам цудоўныя кветкі ў не менш цудоўнай абгортачнай паперы, а якая-небудзь юная паэтэса — чым чорт не жартуе! — напіша ў ваш гонар любоўны мадрыгал! **(Працяглыя апладысменты).** Атрымаць любоўны мадрыгал! Гэта ж заманлівая рэч! Я і то б не адмовіўся, нягледзячы на мой шаноўны ўзрост, а вам, дарагі Канстанцін Іванавіч, і зусім варта над гэтым падумаць... **(Ажыўленне ў зале, апладысменты).**

Вось, таварышы, і на што толькі не ідзеш дзеля паперы! І пра любоў гаворыш, і руку да сэрца прыціскаеш, і галантным становішся да немагчымасці... Але калі адкінуць жарт, дык у выдаткаванні нават той паперы, якая ёсць, у нас няма належнага парадку. Ужо ў гэтым грэху ні тав. Галаншын, ні мы, пісьменнікі, не вінаваты. Паперу скарыстоўвае хто хоча, колькі хоча і на што хоча. Яна ж, як вядома, усё сцерпіць. Жартачкі сказаць, амаль палова назваў кніг, выдадзеных у мінулым годзе ў краіне, — гэта так званая ведамасная літаратура. Што хаваецца за гэтай фірмай? Ды што папала: пульхныя канцылярскія справаздачы, такіх жа неабдымных габарытаў вучоныя запіскі, разнастайныя «памятныя», падаруначныя летапісы — альбомы той ці іншай установы, якія неадкладна пасля свайго выхаду ўкладваюцца ў архіў на пракорм мышам... І кожны хоча свой фаліянт у калянкор апрануць, у шматкаляровую лакіраваную супервокладку ды каб абавязкова надрукаваць на глянцавай паперы. Непарадак у гэтай справе, таварышы дэлегаты, вялікі непарадак! Каб ліквідаваць яго, трэба дзяржаўны і суровы падыход да справы. Таму, што расце тэндэнцыя да выпуску ведамаснай літаратуры, і гэта трывожыць.

Перш чым закончыць гаворку, вернемся, аднак, да яе пачатку. Мае рацыю тав. Нараўчатаў, калі сцвярджае, што асноўны цяжар па стварэнні літаратуры нясуць тыя, каго ён назваў варашылаўскімі стралкамі.

У нас расце таленавітая маладая змена. Старэйшае пакаленне пісьменнікаў ускладае на яе вялікія надзеі. Можна сцвярджаць, што ў літаратуру прыйшло і прыходзіць добрае папаўненне. Мы рады, што эстафету прымаюць рукі мастакоў, якія патрэбны нашаму грамадству. Гэта людзі цікавыя, якія мысляць патрыятычна, углядаюцца ў глыбіні жыцця. Часам моладзь задзірыстая, рэзкаватая ў сваіх ацэнках тых ці іншых з'яў, але адно каштоўна: яна не абыякавая, дапытлівая, у заўсёдным пошуку. Часам не хапае ёй вопыту. Але за ёю, за пісьменніцкай моладдзю, будучыня нашай літаратуры, ёй гэту будучыню ствараць, ёй за яе і адказваць. **(Апладысменты).** Вы разумееце, вядома, што я не падзяляю тут нашу творчую моладзь на «чыстых» і «нячыстых», а кажу пра моладзь увогуле. Я кажу пра новае пісьменніцкае папаўненне, пра свежыя сілы ў савецкай літаратуры.

Але прашу ўлічыць адну акалічнасць: мы, пісьменнікі старэйшага пакалення, таксама яшчэ сяго-таго варты. Як вам вядома, усе мы, пісьменнікі, знаходзімся, як і астатнія грамадзяне вялікага Савецкага Саюза, на ваенным уліку. І калі пісьменнікаў старэйшых узростаў таварышы Грэчка і Епішаў не звальняюць з запасу ў адстаўку, дык, значыць, ёсць у іх гаспадарскі разлік на тое, што мы яшчэ спатрэбімся, што мы народ надзейны і на нас можна спадзявацца ў любым выпадку жыцця і пры любых абставінах. **(Апладысменты).** Хіба гэта не сведчанне, вельмі пахвальнае для нас, аб тым, што мы патрэбны не толькі ў працы, але і ў абароне!

Думаючы аб новай пяцігодцы, мне цяжка гаварыць, як вы разумееце, мовай лічбаў і працэнтаў. Калі б вы спыталі ў мяне, колькі за гэты перыяд выйдзе вялікіх твораў, колькі сярэдніх і малых, дык на гэта пытанне не змог бы адказаць вам не толькі я, але нават увесь сакратарыят Саюза пісьменнікаў.

Ды, зрэшты, і справа ж не ў колькасці, а ў якасці. Усе мы, савецкія пісьменнікі, надзвычай глыбока ўпэўнены ў тым, што за гэтыя гады створым значныя творы, на ідэйна-мастацкім узроўні, які цалкам адпавядае ўзрослым запатрабаванням нашага чытача.

Дазвольце вас запэўніць, што моцная зарука гэтага — наша адданасць справе партыі і народа, наша гарачае імкненне аддаць усе сілы і здольнасці на служэнне вялікім ідэям камунізма. **(Працяглыя апладысменты).**



**У перапынку паміж пасяджэннямі сустрэліся даўнія сябры — Расул Гамзатаў (першы злева) і Максім Танк (першы справа).**

Фота Л. ПАПКОВІЧА і Л. ЭЙДЗІНА.

*У МІНІСТЭРСТВЕ КУЛЬТУРЫ БССР*

# ПАЧЭСНАЯ ЗАДАЧА КУЛЬТАСВЕТУСТАНОЎ

**13 ЧЭРВЕНЯ 1971 г. працоўныя Савецкай Беларусі будуць выбіраць дэпутатаў у Вярхоўны Савет БССР і мясцовыя Саветы дэпутатаў працоўных. У сувязі з гэтым Міністэрства культуры БССР прыняла пастанову, у якой ставіцца вялікая і пачэсная задача перад упраўленнямі і аддзеламі міністэрства, абласнымі і Мінскім гарадскім упраўленнем, гарадскімі і раённымі аддзеламі культуры.**

Яны павінны распрацаваць і ажыццявіць шматлікія мерапрыемствы, забяспечыць актыўны ўдзел усіх устаноў культуры ў падрыхтоўцы і правядзенні выбараў у Вярхоўны Савет БССР і мясцовыя Саветы дэпутатаў працоўных. У аснову ўсёй культурна-масавай работы з насельніцтвам павінна быць пакладзена глыбокае і ўсебаковае растлумачэнне даклада Генеральнага сакратара ЦК КПСС Л. І. Брэжнева на XXIV з'ездзе партыі, Дырэктыў па пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1971—1975 гады, матэрыялаў XXVII з'езда Кампартыі Беларусі. Усю масавую работу ўстаноў культуры неабходна накіраваць на паспяховае ажыццяўленне рашэнняў XXIV з'езда КПСС, на шырокае разгортванне сацыялістычнага спаборніцтва за датэрміновае выкананне народнагаспадарчых планаў бягучага года і новага пяцігадовага плана. У ходзе падрыхтоўкі да выбараў неабходна шырока выкарыстоўваць вопыт культурна-масавай работы, накоплены ў перыяд падрыхтоўкі і правядзення паўвяковага юбілею Вялікага Кастрычніка, 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна, 50-годдзя БССР і КПБ.

Трэба, каб усе ўстановы культуры арганізавалі цыклы лекцый, гутарак, тэматычных вечароў, вусных часопісаў, вечароў-сустрэч выбаршчыкаў з кандыдатамі ў дэпутаты, старымі камуністамі і ветэранамі працы, удзельнікамі Кастрычніцкай рэвалюцыі, грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, наватарамі вытворчасці, дзеячамі літаратуры і мастацтва. Добра пасадзейнічаюць прапагандзе грамадска-палітычнай літаратуры і матэрыялаў па выбарах у Вярхоўны Савет Беларускай ССР і мясцовыя Саветы сталы даведак, бібліяграфічныя агляды, кніжныя выстаўкі, якія трэба арганізаваць, не марудзячы.

Справа гонару культработнікаў дапамагчы агітпунктам праводзіць індывідуальную і масавую работу сярод выбаршчыкаў. У перыяд перадвыбарнай кампаніі трэба арганізоўваць канцэрты самадзейных і прафесіянальных артыстаў, а ў дзень выбараў — 13 чэрвеня 1971 года — ва ўсіх гарадах, рабочых пасёлках і вёсках, у дамах культуры, клубах, на вуліцах і плошчах, у парках і скверах наладзіць масавыя народныя гулянні, выступленні прафесіянальных і самадзейных калектываў, эстрадных і духавых аркестраў. Сумесна з органамі кінафікацыі — паказ кінафільмаў, якія адлюстроўваюць гісторыю нашай Радзімы, поспехі савецкага народа ў будаўніцтве камунізма.

У гэтыя дні трэба ўзмацніць практычную і метадычную дапамогу сельскім самадзейным калектывам у падборы рэпертуару, у падрыхтоўцы новых канцэртных праграм, прысвечаных выбарам.

На Дзяржаўную бібліятэку БССР імя У. І. Леніна, Рэспубліканскія метадычны кабінет культасветработы і Дом народнай творчасці ўскладаецца задача забяспечыць сельскія культасветустановы метадычнай літаратурай, інструкцыямі, анатаванымі і рэкамендацыйнымі спісамі твораў мастацкай літаратуры для самадзейных калектываў. У красавіку — маі метадысты выедуць у раёны і акажуць метадычную і практычную дапамогу культасветустановам у арганізацыі культурна-масавай работы сярод выбаршчыкаў.

Упраўленню па справах мастацтваў трэба забяспечыць актыўны ўдзел усіх тэатраў і канцэртных арганізацый у культурным абслугоўванні насельніцтва.

# ПРАМОВА ТАВАРЫША А. Б. ЧАКОЎСКАГА

## ПІСЬМЕННІК, ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР «ЛИТЕРАТУРНОЙ ГАЗЕТЫ»

Дарагія таварышы! Сёння, пасля таго, як ужо многія дэлегаты выступілі з гэтай трыбуны, з'яўляецца несумненным, што ўвесь наш з'езд, уся шматмільённая партыя камуністаў, якую ён прадстаўляе, аднадушна і натхнёна адабраюць тую сапраўды тытанічную работу, якую правялі Цэнтральны Камітэт і яго Палітбюро ў перыяд паміж двума з'ездамі. **(Апладысменты).**

У гэты складаны перыяд, адзначаны міжнароднымі ўзрушэннямі і абвостранай ідэалагічнай барацьбой на сусветнай арэне, Цэнтральны Камітэт, падобны на вопытнага рулявога, вёў наш магутны савецкі карабель да вялікай мэты, пракладваючы адзіна правільны курс—ленінскі! Дазвольце далучыць свой голас да выказаных ужо прапаноў — цалкам адобрыць палітычную генеральную лінію і практычную работу нашага Цэнтральнага Камітэта. **(Апладысменты).**

Таварышы! Усе мы з вялікай увагай паслухалі даклад таварыша Леаніда Ільіча Брэжнева, які дае ўсебаковы аналіз усіх сфер нашага матэрыяльнага і духоўнага быцця. Сапраўды, здзяйсненні велізарныя, перспектывы захапляючыя. Але, будучы літаратарам, я, натуральна, з асаблівай цікавасцю ўслухоўваўся ў той раздзел даклада, у якім ішла гаворка пра літаратуру і мастацтва.

Сёння асабліва ясна ўспамінаюцца пачуцці, якія валодалі савецкімі літаратарамі, перш за ўсё камуністамі, у гады, якія папярэднічалі XXIII з'езду нашай партыі. Чаго хацелі пісьменнікі і, думаю, наогул работнікі ўсяго ідэалагічнага фронту ў той час?

Хачу адказаць на гэта пытанне прама і адкрыта. Мы, пісьменнікі-камуністы, беспартыйныя літаратары, хто непарыўна звязаў сваё жыццё і творчасць з партыяй, з вялікай справай будаўніцтва камунізма, вельмі хацелі яснасці ў некаторых важных ідэалагічных пытаннях, паслядоўнасці, ліквідацыі тых валюнтарысцкіх завіхрэнняў, якіх мы дастаткова набачыліся і ад якіх, шчыра кажучы, вельмі ў тыя гады стаміліся.

XXIII з'езд і наступныя партыйныя дакументы па пытаннях ідэалогіі ўнеслі гэту такую неабходную яснасць. У дастасаванні да мастацкай творчасці партыя тады спакойна і цвёрда сказала, што, хоць наша літаратура ў цэлым развіваецца паспяхова, у ёй, аднак, назіраюцца асобныя трывожныя з'явы і што ў ацэнцы людзей і твораў, якія нясуць на сабе ўплыў буржуазнай ідэалогіі, скажаюць савецкую рэчаіснасць, юрліва фліртуюць з нашымі класавымі ворагамі,—партыя будзе паслядоўна непрымірымая, таму што сацыялістычная літаратура, як да гэтага заклікаў Ленін, была, ёсць і застанецца часткай агульнапралетарскай, народнай, партыйнай справы! **(Апладысменты).**

І сёння, на XXIV з'ездзе нашай партыі, мы, літаратары-камуністы, уся мастацкая інтэлігенцыя і, упэўнены, увесь народ могуць з пачуццём глыбокага задавальнення сказаць: чоткая ленінская лінія партыі ў галіне ідэалогіі прынесла свае жыватворныя вынікі. Важна адзначыць—сваёй прадуманай паслядоўнай дзейнасцю Цэнтральны Камітэт паказаў, што трэба і можна весці самую складаную шматбаковую работу па кіраўніцтве дзяржавай, не вяртаючыся ні да асуджаных партыяй метадаў голага адміністравання, ні да практыкі суб'ектывісцка-адвольных рашэнняў, а зрабіўшы перакананне, уздзеянне на розумы людзей у спалучэнні з прынцыповасцю і разумнай патрабавальнасцю асноўным метадам кіраўніцтва. **(Апладысменты).**

Партыя і яе Цэнтральны Камітэт даказалі і паказалі, якіх велізарных поспехаў можна дасягнуць, карыстаючыся гэтым завешчаным нам Леніным, адзіным правільным метадам! І сучаснае развіццё савецкай шматнацыянальнай літаратуры служыць адным з яркіх пацвярджэнняў гэтага.

Зразумела, наш абавязак камуністаў-літаратараў заключаецца і ў тым, каб самакрытычна сказаць, што не-не ды і з'яўляліся асобныя творы, бедныя з пункту гледжання мастацкай якасці і няспелыя па думцы. У гэтай сувязі я хацеў бы горача падтрымаць вельмі дакладную, вельмі глыбокую, таварышы, ацэнку, якую даў Леанід Ільіч Брэжнеў такім з'явам у літаратуры, калі сёй-той спрабаваў звесці ўсю разнастайнасць нашай сённяшняй рэчаіснасці да праблем, заканамерна адсунутых у мінулае ў выніку работы партыі па пераадоленні прычын культу асобы, або, наадварот, закансерваваць погляды і ўяўленні, якія ідуць уразрэз з тым новым, што ўнесла партыя ў сваю тэарэтычную і практычную дзейнасць, у духоўнае жыццё ўсяго нашага грамадства. **(Апладысменты).**

Аднак галоўным і вызначальным з'яўляецца тое, што сёння савецкія літаратары маглі б пакласці перад намі многія і многія дзесяткі кніг, прасякнутых духам ваяўнічай партыйнасці, адзначаных высокімі мастацкімі вартасцямі. Гэта кнігі, якія з'яўляюцца несумненным укладам у літаратурную Лелініяну, раманы, аповесці і вершы, у якіх паказаны глыбінныя народныя карэнні Вялікага Кастрычніка. Гэта творы, якія складаюць як бы мастацкі летапіс рэвалюцыйных пераўтварэнняў краіны ў 20-я і гераічныя 30-я гады; кнігі, прысвечаныя вялікаму подзвігу партыі і народа ў Айчыннай вайне і якія адлюстравалі слаўныя здзяйсненні савецкіх людзей у нашы дні, здзяйсненні, якія выклікаюць захапленне ўсяго цывілізаванага чалавецтва. Мне здаецца, таварышы, варта асобна падкрэсліць той факт, што паўсядзённы ўклад у стварэнне літаратуры, вартай нашай слаўнай эпохі, уносяць пісьменнікі ўсіх братніх савецкіх рэспублік. Хіба гэта не доказ маналітнасці і адзінства помыслаў усіх народаў магутнага шматнацыянальнага Савецкага Саюза! **(Апладысменты).**



І не толькі сваімі творамі нашы пісьменнікі даказваюць усяму свету злітнасць партыі і народа, яны пацвярджаюць гэта сваёй асабістай, грамадзянскай дзейнасцю. На пісьменніцкіх з'ездах, на аб'яднаных пленумах творчых саюзаў, на шматлікіх сустрэчах з працоўнымі, якія сталі асабліва частыя перад XXIV з'ездам партыі, літаратары, дзеячы мастацтва з горда ўзнятай галавой, ведаючы, што іх пачуюць не толькі сябры, але і зарубежныя ворагі, якія сочаць за кожным іх словам у спадзяванні на «спажыву», заяўляюць, што ёсць толькі адзін сцяг, пад якім дастойна жыць і тварыць савецкаму чалавеку,—гэта сцяг ленінскай Камуністычнай партыі. **(Апладысменты).**

Такія, таварышы, бясспрэчныя факты.

І тым не менш было б неўласцівай камуністам лагоднасцю рабіць з іх вывад, што нам няма з чым і няма з кім весці барацьбу ў свеце.

Відавочна, таварышы, што такое становішча і не будзе да таго часу, пакуль на зямлі існуюць дзве антаганістычныя сацыяльныя сістэмы, пакуль грымяць ідэалагічныя бітвы і не выключана магчымасць пранікнення ў наша асяроддзе буржуазнай ідэалогіі.

Так званы «інтэлектуальны» антыкамунізм мае старанна распрацаваную стратэгію і тактыку, пры дапамозе якіх ён спрабуе ўздзейнічаць на нашу мастацкую інтэлігенцыю, убіць клін паміж ёю і партыяй, разбэсціць савецкую інтэлігенцыю, так сказаць, знутры.

Адна з найбольш ходкіх канцэпцый, якую ўзмоцнена экспартуюць нашы ворагі, звязана з прапагандай нібыта непазбежнай для кожнага сапраўднага мастака неабходнасцю знаходзіцца ў апазіцыі да дзяржавы. Нам спрабуюць навязаць для пераймання вобраз пісьменніка, які не толькі творыць без ніякай залежнасці ад грамадства, у якім ён жыве, але і супрацьпастаўляе сябе гэтаму грамадству і дзяржаве.

Так, мы можам зразумець непазбежную апазіцыйнасць сумленнага прагрэсіўнага мастака буржуазнаму грамадству і дзяржаве, заснаваных на насіллі, ілжы, уладзе грошай і эксплуатацыі чалавека чалавекам.

Але антыкамунізм хоча, непрыкметна падтасаваўшы карты, зрабіць «маленькую» аперацыю, распаўсюдзіўшы непазбежнасць апазіцыйнасці сумленнага мастака да сацыяльнага ладу капіталізму і на іншы, супрацьлеглы лад, у аснове якога ляжыць сацыяльная справядлівасць. Спрытна аперыруючы дарагімі для нас, свабодных ад капіталістычнага ярма, словамі, — «свабода», «незалежнасць», нашы ворагі — антыкамуністы, як і ў многіх іншых выпадках, праяўляюць вытанчаную здольнасць паразіціраваць на гэтых і падобных да іх разуменнях і тэрмінах, спалучаючы іх так, што яны, захоўваючы як быццам прывычнае для нас гучанне, набываюць цалкам процілеглы палітычны і сацыяльны сэнс.

Антыкамунізм абвяшчае: «Мы—свабодны свет!», хоць паняцці «свабода» і свет, пабудаваныя на эксплуатацыі чалавека чалавекам, несумяшчальныя па сваёй сутнасці. Антыкамунізм аб'яўляе сябе абаронцам «незалежнасці асобы», хоць асоба ў буржуазным свеце, калі ў яе няма чэкавай кніжкі, з'яўляецца цацкай, трэскай у мутным моры насілля і карупцыі, таварам, прызначаным для куплі і продажу.

Антыкамуністы—падумаць толькі, таварышы! —клапоцяцца аб «удасканаленні сацыялізма», зноў-такі разлічваючы на тое, што людзі сацыялістычнага свету, свету, у якім арганічна закладзена пастаяннае імкненне да новых і новых камуністычных здзяйсненняў, не адразу раскусяць, што буржуазныя «дабрадзеі» пад словам «дасканаласць» маюць на ўвазе нешта прама супрацьлеглае сацыялізму, а дакладней кажучы,—рэстаўрацыю капіталізму.

Антыкамунізм усяляк хоча навязаць нам сваю канцэпцыю «свабоды», будучы пры гэтым зацікаўлены толькі ў адной свабодзе — свабодзе прапаганды антысаветызму, расхіствання сацыялістычнага ладу. Хто толькі не «клапоціцца», таварышы, у нашы дні аб свабодзе творчасці, аб свабодзе мастака сацыялістычнага свету? Кіраўнікі ЦРУ, «Голас Амерыкі» і «Голас Ізраіля», «Свабодная Еўропа» і «Бі-бі-сі», англійскі «Таймс» і амерыканскі «Нью-Йорк таймс», паўднёваафрыканскія расісты і партугальскія каланізатары. Проста спаць, бедалагі, не могуць, пакуль не даб'юцца для нас «свабоды!» Але якую свабоду можа прапанаваць нам капіталістычны свет, які перажывае жорсткі духоўны і палітычны крызіс? Свабоду насілля і жорсткасці, расізму і парнаграфіі, сіянізму і неафашызму? Што ж, гэтым таварам нашы зарубежныя «рупліўцы» сапраўды валодаюць у дастатку. Але не для таго, таварышы, нашы бацькі і дзяды здзейснілі вялікую Рэвалюцыю, не для таго мы змагаліся з фашызмам за сбабоду і незалежнасць нашай Радзімы, не для таго ўзводзім светлы будынак камунізма, каб дазволіць мутным патокам тлятворнай буржуазнай прапаганды размываць яго падмурак! **(Апладысменты).**

У гэтай сувязі хацелася б выказаць адно меркаванне. На жаль, мы, работнікі ідэалагічнага фронту, нярэдка ў барацьбе з антыкамуністычнай прапагандай абмяжоўваемся пераважна выкрыццём яе ілжывай сутнасці, так сказаць, адпорам. А пастаянны наш абавязак акрамя гэтага заключаецца ў тым, каб якраз іх, нашых класавых ворагаў, заўсёды ставіць у становішча тых, хто абараняецца. **(Апладысменты).**

Таварышы! Хоць антыкамуністычныя атакі і адрозніваюцца адна ад адной, так сказаць, па родзе зброі і па метадалогіі, тым не менш свае найбольш атручаныя стрэлы ворагі заўсёды мецяць у сэрца нашага народа, у нашу партыю. Так, напрыклад, атакуючы ленінскі прынцып партыйнасці савецкага мастацтва, патрабуючы «поўнай аўтаноміі» культуры, яны, па сутнасці, хацелі б адарваць творчую інтэлігенцыю ад партыі.

Але савецкія мастакі выдатна ўсведамляюць, што як старажытны Антэй чэрпаў сваю сілу ў пастаяннай сувязі з маці-зямлёй, так і савецкая мастацкая інтэлігенцыя моцная і духоўна непераможная сваёй згуртаванасцю вакол ленінскай партыі, непарыўнай сувяззю з яе вялікай справай. **(Апладысменты).**

Характэрна, таварышы, што правалам закончыліся ўсе спробы антыкамунізма арганізаваць міжнародны байкот савецкай літаратуры пасля таго, як наша мастацкая інтэлігенцыя дала прынцыповы, партыйны адпор тым некалькім адшчапенцам, якія прамянялі годнасць савецкіх грамадзян на грошавую папулярнасць у стане нашых класавых ворагаў. І на самай справе, таварышы, хіба можна закрыць ад свету вялікую савецкую літаратуру, літаратуру, прасякнутую ідэямі інтэрнацыяналізму і гуманізму, якую любяць мільёны працоўных людзей на зямлі, якая заўсёды працягвае руку дружбы ўсім сумленным мастакам свету! **(Апладысменты).**

Таварышы! Гэтым летам адбудзецца чарговы з'езд савецкіх пісьменнікаў. Мы будзем рады бачыць на гэтым нашым з'ездзе прадстаўнікоў нашай партыйнай грамадскасці. Мы, пісьменнікі, не сумняваемся, што наш з'езд пройдзе ў чыстай, дзелавой атмасферы і з'явіцца, несумненна, яшчэ адной унушальнай дэманстрацыяй згуртаванасці савецкіх пісьменнікаў вакол нашай партыі і яе Цэнтральнага Камітэта. **(Апладысменты).**

Таварышы! Перад нашай айчыннай літаратурай стаіць многа задач, бо працоўныя і духоўныя здзяйсненні народа вялікія і шматгранныя. Але, заканчваючы выступленне, хацелася б сказаць толькі аб адной. Я думаю, што сама гісторыя менавіта на савецкую літаратуру ўсклала вялікую задачу, якую наша літаратура калектыўна выконвае: адлюстраваць для сучаснікаў і нашчадкаў гераічны вобраз камуніста.

Літаратура ўсіх часоў і народаў, вусная і пісьмовая, данесла да нас, пачынаючы з багаборца Праметэя, і легендарныя, і рэальныя вобразы барацьбітоў за чалавечае шчасце. Але ўпершыню ў гісторыі чалавецтва, са з'яўленнем марксісцкай партыі, нарадзіўся новы вобраз барацьбіта за сацыяльную справядлівасць. Імя яму—камуніст-ленінец. Гэта ён, камуніст, спалучаў у сабе мару аб справядлівасці з воляй да перамогі, любоў да працоўных людзей з нянавісцю да прыгнятальнікаў і эксплуататараў, талент партыйнага арганізатара з навуковымі ведамі. Гэта ён, камуніст, пакутаваў у царскіх засценках, ён ішоў на штурм Зімняга, ён арганізоўваў адпор інтэрвентам, ён голы і босы, не дакранаючыся да хлеба, што вёз галадаючаму народу, узнімаў масы на аднаўленне краіны, ён разам з народам, на чале народа ствараў першыя савецкія заводы-гіганты і першыя калгасы і ён жа першы закрываў сваім целам амбразуры фашысцкіх дотаў, ён вывеў на калазямную арбіту нашы спадарожнікі, ён першы накіраваўся ў космас. **(Апладысменты).**

У імя чаго, таварышы? У імя народа, у імя яго дабрабыту. Ён—камуніст—змагаўся і будаваў разам з народам, і ўсведамленне, што за ім ідуць масы людзей, натхняла яго на вялікі подзвіг.

Дык ці ёсць больш ганаровая, больш светлая задача для літаратуры, чым стварэнне ўражлівага вобраза камуніста, сына сваёй партыі і свайго народа! **(Апладысменты).**

Пры ўсёй шматграннасці нашага жыцця, таварышы, пры ўсёй шырыні і разнастайнасці задач, якія стаяць перад літаратурай, няма задачы больш высокай і больш ганаровай! Таму што сапраўдны камуніст з'яўляецца ўвасабленнем усіх лепшых чалавечых якасцей: бескарыслівасці, любві да працоўных людзей, таварыскасці, гатоўнасці ісці на любы подзвіг, пагарджаючы ў імя жыцця нават самой смерцю.

Слава камуністу, таварышы, выпрабаванаму барацьбіту за дабрабыт народа! **(Апладысменты).**

Слава нашай ленінскай Камуністычнай партыі! **(Працяглыя апладысменты).**

жанры, добра ўсведамляюць, што самыя складаныя эканамічныя праблемы наша партыя, дзяржава вырашаюць, прыводзячы ў рух невычэрпныя рэзервы творчай энергіі народа. І таму пад пяром такіх літаратараў вытворчы канфлікт падаецца як канфлікт глыбока сацыяльны. Маральны бок практычнай дзейнасці чалавека, даследаванне духоўнага зместу працы становіцца тады галоўным творчым клопатам.

Чытач у нас не толькі любіць думаць, але і ўмее думаць. Ён добра падрыхтаваны палітычна, сацыяльна, каб рабіць правільныя вывады, і, можа, трохі горш — псіхалагічна, эстэтычна, каб разбірацца ва ўсіх тонкасцях духоўных зрухаў чалавека. Вось тут і павінен ісці яму насустрач пісьменнік, беручы на свае плечы клопат пра эмацыянальнае раскрыццё палітыкі, сацыялогіі, а калі хочаце, дык і эканомікі, тэхнікі.

Янка Сіпакоў, якога мы ведаем як паэта-лірыка, здольнага на філасофскае асэнсаванне рэчаіснасці, у нарысе «Акно, расчыненае ў зіму» стрымана, сурова рэалістычна ўзнаўляе складанасці жыцця прошлага, сённяшняга і прымерваецца да будучыні — канкрэтна зямной, што вырастае з надзённых радасцей, трывог, турбот. Гэтаму творчаму прынцыпу Я. Сіпакоў застаецца верны і ў нарысе «Па зялёную маланку». Маладога ляснога інжынера аўтар паказвае не замкнёным у сваёй прафесіянальнай сферы спецыялістам, а чалавекам, устрывожаным той неабвешчанай вайной, якую вядзе наш час з прыродай. Выяўляючы сувязь канкрэтных чалавечых лёсаў з вострымі пытаннямі нашага грамадскага развіцця, бытавое падарожнае апавяданне, якім здаецца з першага чытання нарыс, вырастае ў сацыяльны, праблемны твор.

Сацыялагічная ўзброенасць пісь-

у яго духоўным змесце. І, разам з тым, паводзіны пасланца горада на вёсцы таксама чакаюць свайго мастацкага ўвасаблення.

Пры гэтым варта мець на ўвазе, што сучаснасць — гэта найперш сутыкненне традыцый з сённяшнім днём, успамінаў пра цяжкія гады вайны з зусім не бесканфліктнай сённяшняй рэчаіснасцю. Іменна такое разуменне сучаснасці адчуваеш, чытаючы публіцыстычныя выступленні Я. Брыля, В. Палтаран, Я. Сіпакова, А. Вярцінскага, У. Караткевіча, А. Карпюка.

Папракаючы адных публіцыстаў у захопленасці працоўнай дзейнасцю чалавека, другіх — у прыхільнасці да яго побыту, наша крытыка (не выключаю і сябе) абмінае часам адну вельмі важную акалічнасць, што сацыялістычная рэчаіснасць упершыню стварыла такія ўмовы, калі грамадскае і асабістае, вытворчае і бытавое зрошчваюцца ў абавязковую ўмову

ТВОРЧАЯ ТРЫБУНА

# БАЧЫЦЬ ДАЛЕЙ



Увагу В. Палтаран прываблівають родныя мясціны Палесся, дзе ў барацьбе з перажыткамі мінуўшчыны ўсталяваліся новыя адносіны між людзьмі, што сваёй працай памнажаюць багацці Радзімы, узвышаюць сябе духоўна. Яна не абмінае самыя вострыя канфлікты, спароджаныя жыццём, але імкнецца высветліць іх з найвышэйшага пункту погляду — даверу да чалавека, занятага працоўным клопатам.

Прыгадаем хоць бы спрэчку дзеда Івана з яго дачкой Варай наконт асушэння балот («Дзівасіл»). У дачкі аблегчаны падыход да ўсяго, што дзеецца вакол, яе цешыць прыход новай тэхнікі, але сваім невялікім жыццёвым вопытам яна не можа сфармуляваць грунтоўныя довады ў карысць меліярацыі, як толькі агулам сказаць пра тое, што відаць кожнаму: «Але ж дзе тое балота вырабілі, то як на ім сёння ўсё расце!..» Дзеда не ўзрушыш воклічам, ён гне сваё: «Ну, а калі тое балота, як і поле, знясілее, то куды вы тады палезеце вяршкі здымаць? От я пра што! А яна мне — расце-е... То трэба ж, каб не толькі сягоння расло, а і на той год». Спрэчка ўзнімаецца да найвышэйшага клопату пра будучыню чалавека і выразна выяўляе важнасць для пісьменніка кожную вытворчую праблему бачыць у яе псіхалагічным вымярэнні. Хоць сабе дзед і адступае перад дачкой, але спрэчка гэтая яскрава пацвярджае, што не меліярацыя сама па сабе, як толькі гаспадарчая праблема, — цікавіць пісьменніка, але і яе глыбінны псіхалагічны змест, які раскрываецца праз сутыкненне поглядаў людзей, аднолькава зацікаўленых у тым, каб жыццё не спынялася.

Ролю пісьменніка варта бачыць у тым, як ён сваімі творамі садзейнічае маральнаму прагрэсу грамадства, а **праз яго** і навукова-тэхнічнаму, сацыяльнаму прагрэсу. Прыдумванне самых дасканалых схем, гатовых узораў характараў, на якія нібыта павінен раўняцца сучаснік — занятак для літаратуры малаплённы, калі яна не даследуе глыбока тыя працэсы, што ідуць так інтэнсіўна ў нашым наваколлі і рэалістычнае адлюстраванне якіх толькі і дапаможа нам зразумець час і людзей у ім.

менніка не можа быць зведзена толькі да нейкіх тэарэтычных ведаў — эканамічных, палітычных, гістарычных, хоць і без іх не абыйсціся. Яна, як правіла, вынік жыццёвага вопыту, актыўных кантактаў з жыццём у яе штодзённых праявах. І «з наезду» тут мала што зробіш. Поспех, звычайна, спадарожнічае тым пісьменнікам, якія маюць сталыя аб'екты назірання ў жыцці, маюць свае абсягі даследавання практычнай дзейнасці чалавека і, такім чынам, забяспечваюць сабе творчую актыўнасць. Яна ж вымяраецца не адной колькасцю публікацый, а і глыбінёй пазнання новых праблем, частатой адкрыццяў, узроўнем іх мастацкага ўвасаблення.

Навукова-тэхнічны прагрэс уключае ў сябе не толькі эканамічныя, тэхнічныя, навуковыя, арганізацыйныя праблемы. Гэта і новыя ўзаемаадносіны чалавека з чалавекам, чалавека з калектывам, гэта новы «пералом» у жыцці горада і вёскі, іх узаемаабумоўленага існавання. Усё гэта ў нашай літаратуры пакуль існуе толькі як сузіранне, канстатацыя, а не як аналіз, мастацкае даследаванне.

Ва ўмовах Беларусі цяжка размежаваць «тэму горада» ад «тэмы вёскі», бо ўся пасляваенная чвэрць стагоддзя прайшла ў напружанай узаемнай працы вяскоўца, які станавіўся гараджанінам, і гараджаніна, які прыйшоў на вёску. Літаратура яшчэ не прасачыла таго складанага і тонкага працэсу ўзаемаўплыву горада і вёскі, што ішоў вельмі інтэнсіўна ў 50-я гады і не спыняецца сёння, узняўшыся можа толькі на новую ступень, бо закрануў сферу духоўнага жыцця.

Сапраўды, хто ўзняў з руін беларускую сталіцу і ўсе гарады рэспублікі, хто нарадзіў і нараджае новыя? Тыя, хто рабіў зямлю, або іх дзеці. Хто здабыў індустрыяльную славу Беларусі і здабывае яе сёння? У пераважнай большасці — пасланцы вёскі. А наша інтэлігенцыя? У пераважнай большасці яны — гараджане ў першым пакаленні, а раней — усё тыя ж дзеці вёскі. Вось чаму так важна для літаратуры даследаваць учарашняга селяніна ў горадзе, даследаваць тыя ледзь уloўныя зрухі, якія ідуць

жыцця чалавека, праяўлення яго асобы. Гэтая супярэчлівасць у меркаваннях крытыкі сама сабой знікне, калі літаратура возьмецца за здзяйсненне найгалоўнейшай задачы — узнаўленне духоўнага багацця чалавека працы, гатовага вырашаць самыя вострыя канфлікты сучаснасці. Здзяйсненне гэта будзе тым больш паспяховае, чым больш актыўна будзе дзейнічаць «інтэлектуальная разведка» жыцця — наша пісьменніцкая публіцыстыка.

Супрацьстаўленне справы чалавеку ідзе ад недастатковага ведання пісьменнікам той сферы жыцця, якую ён бярэцца паказваць. З некалькіх сустрэч нараджаецца, звычайна, толькі сузіранне, і тады ў нарысе прысутнічае павышаная зацікаўленасць тэхналогіяй справы, а не самім цяжкім працэсам творчасці вынікам гэтага працэсу, а не ўнутраным станам чалавека, які творыць і арганізуе справу. Тады працоўны працэс паўстае ў тэхналагічных падрабязнасцях, а паказ працы замяняецца дэкларацыямі, патэтычнымі воклічамі.

Падступіцца да чалавека працы бывае вельмі цяжка. Але няма такога абсягу нашай рэчаіснасці, які не паддаваўся б мастацкаму адкрыццю, толькі назіраць яго, вывучаць, даследаваць трэба не «з ходу», а пільна, удумліва, дакладна акрэсліўшы звышзадачу адкрыцця складанага і вельмі часта супярэчлівага духоўнага свету чалавека працы.

Памагчы зразумець сённяшнюю мнагастайнасць нашай рэчаіснасці, безумоўна, можа «дзелавая» публіцыстыка. У апошні час у нашых часопісах усё больш становіцца выступленняў «дзелавых» людзей. Але, як правіла, выконваюцца яны пратакольна, афіцыйна, аднастайна ў жанравых адносінах. Артыкул пераважае, хоць ёсць жа яшчэ ў арсенале публіцыстыкі і інтэрв'ю, і гутарка, і нарыс, і нават дакументальная аповесць.

«Дзелавая» публіцыстыка патрэбна, яна таксама — адчувальны ўклад у нашу агульналітаратурную справу стварэння летапісу вялікіх здзяйсненняў народа, які будуе камунізм. Але яна не можа замяніць мастацкага нарыса, таму што без увагі да чалавека (а гэтым адрозніваецца мастацкае, пісьменніцкае даследаванне жыцця ад навуковага і ўсялякага іншага) нельга зразумець цуд стварэння і пераўтварэння свету. «Дзелавой» публіцыстыцы варта было б адкрыць «зялёную вуліцу» на старонках масавых газет і штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва».

У нашых літаратурных часопісах мастацкі нарыс павінен быў бы прапісацца стала, з нумара ў нумар адкрываць усё новыя, недаследаваныя ці маладаследаваныя абсягі нашай рэчаіснасці, звязаныя з працоўнай дзейнасцю чалавека. Без мастацкага адкрыцця новых праблем, новых канфліктаў, новых характараў плацдармы для стварэння сапраўднай літаратуры пра чалавека працы, пра рабочы клас, пра сённяшнюю вёску не заваюеш. А ўжо надышла пара ад размоў перайсці да справы.

Беларускае дзяржаўнае выдавецтва ў 1930 і 1931 годзе выпускала па 12 зборнікаў нарысаў, у 1932 годзе — дзесяць. Летась у выдавецтве «Беларусь» выйшла толькі чатыры нарысы. Каментарыі, як кажуць, не патрэбны. А вось падумаць аб сістэматычным выданні нарыса і пісьменніцкай публіцыстыкі варта і неадкладна. Можа, гэта будзе дадатак да кожнага нумара якога-небудзь з нашых літаратурных штомесячнікаў, а можа спецыяльная бібліятэчка ў выдавецтве ЦК КПБ. Патрэбна большая ўвага рэдакцый масавых газет да пісьменніцкай публіцыстыкі. Не агульнапалітычны каментарый да той ці іншай падзеі, як гэта часцей бывае, хочацца бачыць на газетнай паласе, а глыбокі роздум пісьменніка па вядучых праблемах сучаснасці.

Наспеў час падумаць аб выданні двух- ці трохтомніка «Беларускі нарыс», каб мець шырокае ўяўленне не толькі пра станаўленне і развіццё жанру, але найперш мець сабраным у адно мастацкі летапіс рэспублікі.

Варта было б факультэту журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта ўвесці спецыяльны курс беларускага нарыса, каб студэнты грунтоўна ведалі яго здабыткі, шырэй даследавалі ў гістарычным і стылёва-жанравым планах.

Справу стварэння гісторыі фабрык і заводаў варта весці па-пісьменніцку, каб гэта былі кнігі не для архіваў, а для шырокага чытання. Можа, настаў час стварыць Галоўны выдавецка-рэдакцыйны савет, якому даручыць клопат пра гісторыю фабрык і заводаў, калгасаў і саўгасаў, устаноў навукі і культуры, паселішчаў, каб гэтыя выданні не ператвараліся ў інфармацыйна-статыстычныя даведнікі, а былі мастацкімі кнігамі?

Саюз пісьменнікаў Беларусі не скарыстаў яшчэ свае магчымасці, каб больш мэтанакіравана і сістэматычна займацца публіцыстычнымі жанрамі. Гэта вельмі важна цяпер, калі пачасціліся выезды пісьменнікаў у жыццё. Праўда, пакуль гэтыя выезды носяць характар святочных, урачыстых сустрэч. Але трэба спадзявацца, што надыйдзе неўзабаве, як гэта было ў 30-я гады, пара пісьменніцкіх «працоўных дэсантаў» у самыя розныя куткі рэспублікі і ўсёй краіны. Тады хутчэй здзейсніцца горкаўскі запавет аб тым, што «нарысы не павінны быць ілюстрацыямі да ўжо здабытых палажэнняў, не павінны паўтараць ужо зафіксаваныя ў прэсе тыпы, характары, праблемы».

Разгон, які бярэ цяпер наша краіна ў новай пяцігодцы, чакае свайго мастацкага адлюстравання ва ўсіх жанрах, а найперш — у публіцыстычным. Сённяшні чытач у сваёй актыўнай частцы не прымае схематызму пры даследаванні жыцця, голай фактаграфіі, пагарды да псіхалогіі факта. Развіццё сацыялогіі як навукі, пранікненне яе ва ўсе сферы практычнай дзейнасці чалавека заклікае мастакоў слова да новага ўзлёту публіцыстычнага асэнсавання рэчаіснасці.

---

Глянуць, як нема,
у чорным маўчанні
У свет пазірае крыж.

●

У жаночых настылых руках
Дзве рыбы—
хвастамі ўгару—
з кулька,
Чатыры жывых буйна-
чырвоных пялёсткі
З пахам аеру, трысця
і вясновых крыг,
З кроплямі сонца,
Дзе дрыжаць яшчэ
ранішні плёскат
І вось гэты—
у пальцах—
Трапяткі безгалосы крык.

## НА СТАНЦЫІ КРЫВІЧЫ

*Максіму Танку*

Бацька паехаў у ноч, у снег
Шляхам зваротным,
завёзшы сына.
А вецер шалеў, замятаў
палазіны—
І толькі ў завеі ледзь-ледзь
чарнеў
Бацькаў кажух
на прыгнутай спіне...

Бацька!
Прыгорблены белаю замяццю,

Як цяжка пад сцюжай трывогі
табе!
Ад невядомасці,
Замардаванасці
Сынавых вёсен—у барацьбе...

Маці вачыма маліла,
шаптала,
Сэрцу яе не хапала слоў.
Толькі праводзячы ў снег,
за сяло,
Сына цішком яна
пеpажагнала,
Каб сцежку дахаты
не замяло...

Сына падхопяць у ноч цягнікі,
Аблытаюць звенні этапаў
і кратаў...

Чаму ж вы пусцілі яго,
бацькі,
Чаму вы павезлі ад роднае
хаты
Самі на гэты паўстанак цяжкі?..

Мая Беларусь праз навалу
завей
З упартасцю нейкай святой
і зацятай
Ішла тады ў ноч на агеньчык
надзей,
На дальні паўстанак,
што зваўся: «Заўтра».

# ПРАЦЯГ ГАЛОЎНАЙ ТЭМЫ

Е. БОНДАРАВА

НА ЭКРАНАХ рэспублікі — новы фільм Беларускай кінастудыі «Крушэнне імперыі». Гэта не проста чарговы твор у біяграфіі народнага артыста СССР, старэйшага беларускага кінарэжысёра Уладзіміра Уладзіміравіча Корш-Сабліна, а працяг яго галоўнай тэмы, можна сказаць, пэўная вяха на магістральным напрамку творчасці. Калі акінуць вокам амаль 50-гадовы творчы шлях У. Корш-Сабліна, нядзяжка пераканацца, што і станаўленне яго як мастака, і найвышэйшы творчы ўзлёт звязаны са стварэннем фільмаў аб этапах і героях барацьбы народа за сваю свабоду і шчасце.

Першая самастойная спроба ўвасобіць іх на экране адбылася больш як 40 гадоў таму назад — у фільме «У агні народжаная». А потым былі стужкі рэжысёра, пра якія ўжо створана крытычная літаратура: «Першы ўзвод», дылогія «Першыя выпрабаванні», «Запомнім гэты дзень», «Чырвонае лісце», «Масква—Генуя».

У агульную гісторыка-рэвалюцыйную кінапанараму, створаную У. Корш-Сабліным, упісваецца новы твор—«Крушэнне імперыі». У аснове яго—матывы рамана-эпапеі М. Казакова пра падзенне царскай дынастыі, пра Лютаўскую рэвалюцыю 1917 года. Фільм наўрад ці можна разглядаць як звычайную экранізацыю, бо драматургі М. Блейман і М. Каварскі скарысталі раман толькі як факталагічную, а не сюжэтную першаснову.

Можна аспрэчваць такое скарыстанне першасновы ці згаджацца з ім. У дадзеным выпадку, мне здаецца, гэта не мае прынцыповага значэння, бо гаворка ідзе не пра класічны твор, літаратурныя вартасці якога бясспрэчныя. Больш важна прасачыць, як рэалізавана, данесена да гледача канкрэтная задума. А яна зусім не простая: узнавіць на экране адзін з самых складаных гістарычных момантаў, паказаць яго праз канкрэтныя падзеі, учынкі, лёс герояў. Нельга не ўлічваць і таго, што аб падзеях такога плана ўсе мы звычайна самі ведаем нямала—з дакументаў, успамінаў, твораў розных відаў мастацтва. І аб крушэнні рускай імперыі напісана шмат. Нельга сказаць, што і кінематограф зусім абышоў гэтую тэму: падзеі Лютаўскай рэвалюцыі адлюстроўваліся ў розных дакументальных і мастацкіх фільмах. Але нельга прыгадаць такой кінастужкі (у прыватнасці, мастацкай), дзе б **падрабязна**, этап за этапам паказваўся сам **працэс** падзення дынастыі Раманавых, **ход** Лютаўскай рэвалюцыі, дзе **наглядна** даказвалася б **непазбежнасць** (а не выпадковасць, як сцвярджаюць яшчэ дагэтуль некаторыя «саветолагі») карэнных сацыяльна-палітычных перамен.

Стваральнікі фільма сутыкаліся з перашкодамі і цяжкасцямі. Не толькі і нават не столькі ў тым, каб не паўтарыцца: больш важна пераканаць, захапіць, узрушыць. Як дасягнуць такой мэты? Можна адказаць коратка: з'яднаць у адзінае цэлае публіцыстычны погляд на падзеі з мастацкім увасабленнем. А апошняе складаецца перш-наперш з умення глыбока, па-сучаснаму асэнсаваць гістарычныя падзеі, што складаюць змест твора, перадаць атмасферу часу, раскрыць характары герояў.

Для ўвасаблення сваёй задумы аўтары сцэнарыя М. Блейман і М. Каварскі, рэжысёр-пастаноўшчык У. Корш-Саблін, рэжысёр-супастаноўшчык М. Калінін, аператар І. Рамішэўскі, мастак Ю. Альбіцкі выбралі жанр гістарычнай хронікі. І гэтым ужо прадвызначылі многае — строгую праўдзівасць падзей, кампазіцыю, у аснове якой — «сашчапленне» сцэн і эпізодаў, нібы выхапленых з бурлівага жыцця пачатку 1917 года і набліжаных да нас. На экране праўдзіва паказаны час, атмасфера палітычнага жыцця напярэдадні і ў дні Лютаўскай рэвалюцыі. Гэта, безумоўна, першая адметная рыса новага кінатвора, рыса, якая абумоўлівае яго палітычную завостранасць і актуальнасць. Палітычная вастрыня погляду аўтараў праявілася і ў тым, што з мноства падзей часу, якія адлюстраваны ў фільме, выбраны галоўныя. Эмацыянальна-публіцыстычныя акцэнты дазваляюць нібы ўпершыню ўбачыць і ўспрыняць іх. Варта адзначыць і тое, што ў фільме паказана складанасць і напружанасць барацьбы. Мы бачым і адчуваем, што дынастыя Раманавых рухнула ў жорсткіх класавых баях, пад напорам магутных рэвалюцыйных сіл. «Рэвалюцыя вырашана петраградскімі рабочымі... Петраград разбудзіў Расію. Петраград вызваліў яе». Гэтыя словы У. І. Леніна — не проста ўступны цітр фільма. Яны вызначылі аўтарскі падыход да твора.

**Безвыходнасць, змрочнасць атмасферы жыцця—першы ідэйна-сэнсавы і эмацыянальны тэзіс фільма. Раскрываецца ён лаканічна—праз прамы аўтарскі зварот да гледача, выразныя дэталі і шырокапланавыя сцэны. Пачатак фільма ўводзіць нас у атмасферу трывогі і ўзрушанасці. Усё нацягнута, як струна. Набліжэнне развязкі адчувалі ўсе, нават тыя, хто аддана служыў манархіі. Пралог фільма завяршаецца сцэнай разладу ў самім «саноўным стане». Царскія міністры шукаюць выйсця. Яны згодныя прадаць адзін аднаго, згодныя на змову—толькі б «маўчалі рабочыя, чэрнь, вуліца...» Гісторыя распарадзілася іначай. Пралог—не толькі кропка адліку падзей. Ён драматургічна актыўны, бо ўводзіць у атмасферу палітычных канфліктаў.**

**Супрацьпастаўленне сутыкненне дзвюх сіл (народнай і антынароднай) —асноўны прынцып драматургіі фільма. Дзякуючы гэтаму і ствараецца напружанасць дзеяння, нягледзячы на знешнюю сюжэтную «нявыстраенасць». На чале першай сілы—бальшавікі, Петраградскі камітэт партыі. Сюды і вяртаецца з сібірскай ссылкі рэвалюцыянер-ленінец Ваулін. Па дарозе ён адчувае ранейшую пільнасць паліцэйскіх сышчыкаў, чуе размовы «лібералаў» аб неабходнасці перамен, бачыць, як пакутуе галодны і босы народ. Эпізоды бедстваў знарок не ўзбуйняюцца, бо яны—звычайная з'ява для жыцця народа пад царскім ярмом.**

І вось нібы з бяздоння — з глыбіні кадра на першы план шырокага экрана рухаецца цар са сваёй аховай. Яго не вельмі турбуе, што на фронце рускія нясуць цяжкія страты. «На тое і вайна», — рэзюмуе ён. Першая сцэна з царом абрываецца, можна сказаць, на паўфразе — на словах Мікалая II, што яму так нестае Распуціна: няма з кім параіцца. Гэта пакуль што адзін, яшчэ не вельмі выразны штрых да партрэта самаўладцы. Артыст В. Тарасаў прымушае нас уважліва прыгледзецца да яго героя, адчуць яго раздвоенасць. Пазней на экране праявіцца сапраўдная сутнасць апошняга з Раманавых. Яна — у абыякавасці да лёсу народа, нават нянавісці да яго. Пасылаючы са стаўкі ў бунтуючы Пецярбург вернага манархіі генерала Аляксеева, цар наказвае: «Памятайце — за жорсткасць вас не асудзяць, асудзяць за нерашучасць».

У крытычны час, калі царскі трон увачавідкі захістаўся, Мікалай II прыкідваецца лагодным, гатовым паехаць у Лівадзію, дзе сады і кветкі. «Я так люблю кветкі», — гаворыць цар. І тут жа, пасля паўзы, нібы незнарок прызнаецца: «А народ, мне заўсёды быў страшны мой народ...» Якое «сціплае» прызнанне: «мой народ», «я яго ўладар...» І не тое турбуе Мікалая II, што дрэнна гаспадарыў, прыгнятаў «свой народ», а тое, што своечасова не адкрыў немцам фронт, каб пры дапамозе кайзераўскіх штыкоў падавіць рэвалюцыю. Так пастунова, ад сцэны да сцэны, перад гледачом раскрываюцца і сутнасць палітыкі «імператара ўсяе Русі», і яго асабістыя, чалавечыя якасці.

Падыход аўтараў фільма да вырашэння вобраза цара мае ў фільме прынцыповае значэнне. Пакажы яны самога манарха як асобу нікчэмную, ні на што не здольную, у многім знізілася б сур'ёзнасць канфліктаў, напружанне барацьбы супраць царызму як дзяржаўнага ладу. Сцэнарысты, рэжысура і выканаўцы ролі пайшлі па шляху больш плённым.

Не збіліся яны на шаржыраванне і ў паказе ўсяго варожага рэвалюцыйным масам лагера. І царскія міністры, і генералы, і члены Дзяржаўнай думы — усе яны людзі карыслівыя, сквапныя, далёкія ад інтарэсаў народа.

— Мы павінны даць Расіі новага гасудара, — вяшчае прамысловец Гучкоў.

Добраахвотнае адмаўленне ад прастола лічыць адзіным сродкам выратавання манархіі лідэр кадэтаў Мілюкоў.

А яры манархіст Шульгін спадзяецца, што акт такі прывядзе да таго, што «рэвалюцыі як і не было»: усяго толькі зменіцца шыльда на той жа дзяржаўнай будове. Больш «дыпламатычна», прыкрываючыся рэвалюцыйнымі фразамі, рвецца да ўлады Керанскі. Усе гэтыя сацыяльныя тыпы не проста персаніфікаваны. У перапляценні падзей фільма ім знойдзены пэўнае месца і роля: яны выступаюць як рэальная сіла, што імкнулася звесці рэвалюцыйны ўздым мас на нішто. І акцёрскі дакладна выконваюцца гэтыя ролі.

Трэба сказаць, што ў фільме «Крушэнне імперыі» наогул даволі ладны, удумліва падабраны акцёрскі ансамбль. Большасць роляў (вялікіх і малых) даручана таленавітым выканаўцам. Многім з іх удалося стварыць характэрныя вобразы пры даволі прыблізных ці зусім трафарэтных драматургічных абрысах. Як прыклад можна назваць В. Стржэльчыка (Пратапопаў), В. Нікіціна (Мілюкоў), П. Панкова (Радзянка), М. Волкава (Керанскі), У. Балашова (Гучкоў), А. Грыбава (генерал-жандар) і інш.

**Гаворку аб вартасцях фільма я не выпадкова пачала з характарыстыкі «варожага стану». Слабасць многіх фільмаў (ранейшых і сучасных) абумоўліваецца менавіта тым, што контррэвалюцыйныя сілы паказваюцца павярхоўна, а часам і проста павадэвільнаму. Пераадолець такія сілы не вельмі і цяжка. У кінатворах У. Корш-Сабліна на гісторыка-рэвалюцыйную тэму ці аб патрыятычнай барацьбе «лагер праціўніка» ніколі не выглядаў бездапаможным. У фільме «Крушэнне імперыі» мы бачым, што хвалі рэвалюцыі накатваліся на сцяну хоць і струхлелую, але яшчэ даволі трывалую. Патрэбен быў моцны ўдар, каб яна рухнула.**

Як жа паказаны тыя сілы, што зверглі самаўладства, сакрушылі імперыю? Ад гэтага больш усяго залежыць сіла ідэйнага гучання твора. Актыўна жывуць і дзейнічаюць на экране перш за ўсё масы — забастоўшчыкі, удзельнікі дэманстрацыі. Гавораць, што майстэрства рэжысёра найбольш наглядна праяўляецца ў масавых сцэнах. Так яно ці не так, але для фільмаў, дзе паказваецца рух народных мас, гістарычныя перамены, уменне ажывіць, напоўніць дынамікай масавыя сцэны мае асаблівае значэнне. Рэжысёры У. Корш-Саблін і М. Калінін тут, можна сказаць, на вышыні сваёй прафесіі. Масы ў фільме і жывуць і дзейнічаюць.

Аб рэвалюцыйнай сітуацыі ў Пецярбургу спачатку мы даведваемся са слоў саміх служкаў цара—міністра ўнутраных спраў і шэфжандара. Яны заклапочаны тым, што ні арышты, ні адпраўка на фронт рэвалюцыянераў не дапамагаюць; небяспека не толькі ў бальшавіках, якія дзейнічаюць і на фронце. «Велізарнае войска рабочых» робіцца ўсё больш непакорлівым. І вось яно, гэтае войска, запаўняе экран. Пасля цітра **«Усё пачалося 23 лютага па старым стылі, 8 сакавіка па новым, у Міжнародны жаночы дзень, на Неўскай нітачнай мануфактуры і ў цэхах Пуцілаўскага завода»** — рэзкі рух камеры на заводскія коміны, а пасля — на фабрычныя вароты. З іх са сцягамі і транспарантамі выходзяць жанчыны. Да іх далучаюцца металісты. Дэманстранты справа і злева ідуць з глыбіні кадра на кінакамеру. Яны запаўняюць увесь экран, гучыць песня (кампазітар У. Чараднічэнка і гукааператар Г. Бак арганічна ўключылі ў музычную тканіну фільма мелодыі рэвалюцыйных песень), чутны лозунгі-патрабаванні.

Мы бачым, адчуваем эмацыянальна ўсхваляванае людское мора. Эпізоды дэманстрацыі, бадай, самыя выразныя ў фільме, яны дазваляюць і ўявіць і ўспрыняць атмасферу рэвалюцыйных дзён. Рэжысёры і аператар змаглі паказаць не абязлічаны натоўп, а жывую рабочую масу. Камера час ад часу выхоплівае з натоўпу знаёмыя ўзбуджаныя твары, спыняе нашу ўвагу то на рабочых і работніцах, то на бальшавіках — членах Петраградскага і Выбаргскага камітэтаў, якія ўзначалілі і дэманстрацыю і сам ход Лютаўскай рэвалюцыі. Таму лагічным завяршэннем зместу фільма і з'явіўся мітынг, на якім бальшавікі выкрываюць буржуазны характар Часовага ўрада, што ўтварыўся пасля адрачэння цара ад прастола, і заклікаюць падтрымліваць Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў як сапраўды народны ўрад. Завяршаючы цітр аб прыездзе ў Петраград Уладзіміра Ільіча Леніна дакладна і ясна ўказвае напрамак далейшага ходу падзей, якія нельга было паказаць у аднасерыйным фільме.

Шмат увагі ўдзялілі аўтары паказу дзейнасці бальшавікоў-ленінцаў. І гэта зразумела, бо менавіта яны былі сілай, якая накіравала народны гнеў не проста супраць цара, а супраць самаўладства як рэакцыйнага дзяржаўнага ладу. З многіх сцэн і эпізодаў фільма складаецца праўдзівая карціна дзейнасці бальшавіцкага падполля, Петраградскага і Выбаргскага камітэтаў бальшавіцкай партыі напярэдадні і ў дні лютага 1917 года. З агульнай карціны выдзелены, «высветлены» канкрэтныя героі. Адны з іх — асобы гістарычныя (Скараходаў, Ткачоў), другія ўвасабляюць абагульненыя тыпы (Ваулін, Пятрушын). Ад фільма, жанр якога можна вызначыць як гістарычную хроніку, цяжка патрабаваць закончанай абмалёўкі вобразаў. А раскрыцця характэрных рыс — можам. Без гэтага падзеі губляюць канкрэтнасць і эмацыянальную сілу.

**Прыкметныя страты ў гэтых адносінах мае фільм «Крушэнне імперыі». Не ўсе героі яго надзелены яркай індывідуальнасцю. Не так ужо доўга дзейнічаюць на экране Скараходаў, Ткачоў, а застаюцца ў памяці. Артысты А. Салаўёў і А. Вертаградаў пражылі іх экраннае жыццё вельмі шчыра і натуральна, нібы яны самі былі ва ўзбуджаным Пецярбургу 1917 года. Запамінаецца У. Белакураў у ролі шаўца — вопытнага бальшавіцкага канспіратара. Ёсць у яго характары і першы і другі план, а таму і характар жыццёва-праўдзівы. Гістарычна праўдзівыя і Ваулін, і Пятрушын. Артысты М. Яроменка і Я. Самойлаў — выканаўцы вопытныя і выконваюць свае ролі з прафесійным майстэрствам. І ўсё ж менавіта іх героі мяне не вельмі пераконваюць у тым, што яны цікавыя, са сваім непаўторным характарам і ўнутраным светам людзі. Відаць, гэта таму, што драматургі і рэжысура героям гэтым адводзілі больш адказную, чым іншым прадстаўнікам бальшавіцкай партыі, ролю, а сітуацыі ім вызначылі звыклыя, ужо бывалыя на экране. М. Яроменку яшчэ пашанцавала: яго герой дзейнічае ў розных абставінах, і таму ёсць магчымасць уявіць яго чалавечую вартасць. А вось Самойлаў часцей усяго гаворыць цытатамі, і гучаць яны ў прапанаваных сцэнарыстам сітуацыях не заўсёды натуральна.**

Фільм намнога выйграў бы ў мастацкіх адносінах, калі б у ім больш яркімі былі вобразы герояў, якім аўтары даверылі асабліва важную ролю ў данясенні да гледача ідэйнага зместу твора. Прыкмячаеш у творы і бачаныя на экране раней сюжэтныя хады і прыёмы. Колькі разоў сустракалася, напрыклад, сітуацыя: рэвалюцыянер пасля доўгай ссылкі тайна вяртаецца дамоў, тут ён застае жонку за швейнай машынай, дзіця ў калысцы ці ложку, а ў суседняй кватэры — шпікі. Такія вопытныя драматургі, як М. Блейман і М. Каварскі, маглі б прапанаваць і нешта больш арыгінальнае. І пастаноўшчык з вопытам У. Корш-Саблін здольны гэтае арыгінальнае здабываць з літаратурнага матэрыялу. Следаваць традыцыям, нават уласным, зусім не азначае паўтараць раней скарыстанае. Наадварот, адкрытае раней можа і павінна служыць трывалым плацдармам для новых пошукаў.

У фільме «Крушэнне імперыі» адчуваецца такі плацдарм перш за ўсё ў асэнсаванні гістарычных падзей, ва ўзнаўленні праўдзівай атмасферы часу. Адначасова прыкмячаеш і звыклае ў вырашэнні канкрэтных сітуацый і вобразаў. Але апошняе не вызначае агульнага аблічча і ўзроўню твора. У цэлым ён—пэўная вяха ў творчай біяграфіі рэжысёра і прыкметная з'ява ў нашым кінамастацтве.

# У ІМЯ СУЧАСНІКА

**Колькі існуе opернае мастацтва, публіка і стваральнікі музычных спектакляў спрачаюцца пра формы адлюстравання жыцця ў гэтай вельмі спецыфічнай вобразнай сістэме. Праблема сучаснасці на опернай сцэне хвалюе кампазітараў і рэжысуру, лібрэтыстаў і выканаўцаў, крытыку і слухачоў. Паставіўшы оперы А. Багатырова, Я. Цікоцкага, А. Туранкова, Д. Лукаса, Ю. Семянякі, М. Аладава, Р. Пукста, оперны тэатр нашай рэспублікі даў багата спажывы для роздуму пра далейшыя шляхі развіцця жанру, для абмену думкамі пра назапашаны вопыт і пра яшчэ не адкрытыя далягляды і магчымасці.**

**Артыкул памочніка галоўнага рэжысёра Беларускага тэатра оперы і балета па літаратурнай частцы Б. Шарашэўскай закранае некаторыя актуальныя пытанні развіцця опернага жанру, пра якія аўтары і выканаўцы новых твораў беларускай оперы думаюць, спрачаюцца на сходах і дыспутах.**

...СПАЧАТКУ сход праходзіў спакойна. Ішла размова пра падрыхтоўку Беларускага тэатра оперы і балета да гастроляў у Маскве, што адбудуцца летам гэтага года, аб сучасных ідэйна-мастацкіх рашэннях оперных спектакляў.

Але вось нехта з прамоўцаў выказаў думку, што опера — гэта толькі музыка. Думка, прама скажам, не новая. Мы да яе ўжо прызвычаіліся, але іменна яна паслужыла прычынай для далейшай гаворкі.

Як заўсёды, горача выступаў галоўны балетмайстар тэатра Атар Міхайлавіч Дадзішкіліяні. Ён сказаў прыкладна наступнае: ды пра што ідзе размова! Опера — гэта сцэнічны твор, па ёй ставіцца спектакль! Той, хто не саромеецца сцвярджаць у наш час, што опера толькі музыка, адстаў, па меншай меры, на 50 гадоў!

Атара Міхайлавіча падтрымалі артыст В. Ганчарэнка, рэжысёр С. Штэйн, дырэктар тэатра І. Палівода, намеснік міністра культуры БССР Ю. Міхневіч, якія прысутнічаў на сходзе. Безумоўна, музычны бок опернага спектакля мае вялікае значэнне, сказаў Юрый Міхайлавіч Міхневіч, але ж мы яго ўспрымаем у мастацкім комплексе і патрабаванні да яго сцэнічнай культуры сёння надзвычай высокія...

Калі сход скончыўся, падумалася, што ажыўленая размова, якая на ім узнікла, відаць, наспела і што пытанне, якое на сходзе было закранута — надзвычай важнае, прынцыповае ў сённяшняй рабоце тэатральнага калектыву.

Хочацца падзяліцца некаторымі думкамі, якія ў сувязі з гэтым узніклі...

У апошні час горача абмяркоўваюцца праблемы музычнага тэатра, ідуць пошукі цікавых сучасных шляхоў у рашэнні оперных спектакляў. Узнікаюць і такія пытанні: ці памірае опера (так, здаецца, называўся цікавы артыкул кампазітара Кабалеўскага), чаму яшчэ недастаткова опер пра нашага сучасніка, што ёсць опера і што — не опера.

Падставай для ўзнікнення такіх праблем у оперным жанры, відавочна, з'яўляецца яго ўмоўнасць.

Зараз, калі надзвычай чула ўспрымаецца кожная няшчырая нота ў мастацтве, калі па-сапраўднаму можа ўсхваляваць толькі вялікая сіла жыццёвай праўды, на опернай сцэне, здараецца, як і сто гадоў назад, бытуюць меладраматычныя канфлікты і артыстычна (добра яшчэ калі артыстычна) заломваюць рукі падобныя адзін на аднаго ружова-блакітныя персанажы... Такія оперныя творы парадзіраваліся яшчэ ў пачатку стагоддзя ў тэатры «Крывое люстэрка». Слова «вампука» з таго часу вызначае оперную руціну...

Некаторыя спевакі зараз лічаць, што оперная сцэна не патрабуе ніякага развіцця і ўдасканалення ў адпаведнасці з часам. Прызнаюць толькі класічныя оперы. Маўляў, у іх спяваць — адна асалода, а ў оперы ж галоўнае — спевы.

Сапраўды, сусветная музычная сцэна мае цудоўную оперную скарбніцу. Не варта пералічваць прозвішчы вялікіх кампазітараў розных часоў — яны шырока вядомыя, музыка іх — бяссмяротная...

Але асаблівым поспехам карыстаюцца зараз тыя спектаклі па класічных творах, якія вырашаны з ідэйна-мастацкіх пазіцый сённяшняга дня, дзе аўтарская думка, што магла быць у свой час і цікавай і прагрэсіўнай, зараз беражліва, але даволі рашуча пераасэнсоўваецца. У сувязі з гэтым мімаволі ўзнікае паралель: існуюць узоры выдатна пастаўленых у апошнія гады на драматычнай сцэне класічных твораў, дзе яскрава відаць творчая пазіцыя майстроў сучаснага тэатра (спектаклі Г. Таўстаногава, А. Яфрэмава, А. Ганчарова, А. Эфроса). А ці шмат вядома цікава пастаўленых твораў сусветнай опернай класікі? Іх, бадай, можна пералічыць па пальцах

Імкненне гаварыць з гледачамі мовай сучаснасці кіравала пастаноўшчыкамі «Хаваншчыны» на беларускай опернай сцэне. І прынесла тэатру поспех.

У оперным жанры цяжэй, чым у іншых, прывіваецца новае — напэўна з прычыны ўсё той жа яго ўмоўнасці, — таму асаблівае значэнне набываюць творчая смеласць і неўтаймаванасць мастакоў, свежая рэжысёрская думка, высокая культура сцэнічнага мастацтва. Гэта датычыцца і класікі, і сучасных твораў, якім іншы раз нялёгка трапіць на сцэну.

Ніяк нельга сказаць, што кампазітары зараз мала пішуць опер. Помніцца, у адным з інтэрв'ю Дзмітрый Дзмітрыевіч Шастаковіч сказаў: «Наша музыка, як мне здаецца, усё больш рашуча становіцца на шлях філасофскага асэнсавання жыцця, яго глыбінных працэсаў». Гаворачы аб новых творах, кампазітар спыніўся на операх «Пасажырка» М. Вайнберга, «93-і год» Г. Бялова, «Вайна з саламандрамі» У. Успенскага, «Альфа і амега» І. Болдырава. Выклікае здзіўленне, што ні адна з гэтых опер не атрымала сцэнічнага жыцця. Паставіць новы твор, ды яшчэ магчыма з нейкімі «не опернымі» элементамі — работа даволі рызыкоўная (няхай спачатку яго паставяць іншыя, паглядзім, што з гэтага атрымаецца).

Дарэчы, аб оперных і «не оперных» элементах. У сваёй рэцэнзіі на новую оперу Ю. Семянякі «Зорка Венера» крытык Т. Шчарбакова піша, што гэты твор — не опера, а хутчэй тэатралізаваная кантата. Можна спрачацца пра мастацкія вартасці твора (а спрэчкі ўжо ідуць — і гэта добра), але заўвага крытыка наконт жанру выклікае здзіўленне. Думаецца, тут варта прывесці цытату з артыкула выдатнага опернага рэжысёра, народнага артыста СССР Б. Пакроўскага: «З'явілася штучная форма-шаблон, якая вызначае прыналежнасць твора да оперы... Нядаўна я пазнаёміўся з операй Э. Лазарава «Ленініяна» і з першай ацэнкай яе: «Таленавіта, але не опера, хутчэй — араторыя». Я ўявіў гэты твор на канцэртнай эстрадзе і зразумеў, што 80 працэнтаў яго вартасцей будзе згублена. Як араторыя, ён такога ўражання не зробіць. На сцэне ж тэатра выявяцца яго асобыя якасці».

Сур'ёзнымі сучаснымі праблемамі з'яўляюцца сёння оперная рэжысура і спалучэнне ў оперным артысце вакальных і драматычных здольнасцей.

Зараз гледача можа ўсхваляваць толькі той оперны спектакль, які сваім мастацка-вобразным рашэннем не саступае лепшым узорам драматычнай сцэны. Самае эфектнае афармленне, выдатныя вакалісты не выратуюць спектакль, калі ў ім няма блізкай сэрцу сучасніка праблемы. У гэтым сэнсе на опернай сцэне ўсё большае значэнне набывае работа рэжысёра.

Нядаўна з творчай камандзіроўкі ў Германскую Дэмакратычную Рэспубліку вярнуўся галоўны мастак Беларускага тэатра оперы і балета Я. Чамадураў.

Вось некаторыя яго ўражанні ад паездкі:

— Я глядзеў у Нямецкім дзяржаўным тэатры оперы і балета спектаклі «Сельскі гонар» Масканьі, «Дафна» Рыхарда Штрауса, «Блазны» Леанкавала, у «Комішэ-опер» ці, як яе называюць, тэатры Фельзенштэйна мне пашанцавала ўбачыць «Аіду» і «Скрыпача на даху», у Лейпцыгскім оперным тэатры слухаў «Лаэнгрына», у Берлінскім ансамблі Брэхта — оперу «Карыялан». Першае, што ўражвае: у кожнага з гэтых тэатраў — свой творчы почырк, своеасаблівая, уласцівая толькі яму інтэрпрэтацыя твораў, свае дарогі пошукаў.

У Нямецкім дзяржаўным тэатры разам з «Дафнай», пастаўленай строга традыцыйна, ідуць такія спектаклі, як «Сельскі гонар» і «Блазны», пастаноўку якіх характарызуе цікавае сучаснае прачытанне. Яны вырашаны ў духу італьянскага неарэалістычнага кінематографа.

— Галоўнае ў берлінскіх спектаклях, — працягвае Яўген Рыгоравіч, — жыццёвая праўда без падмалёвак, пачуцці — без ілжывых эмоцый, адсутнасць трывіяльных оперных мізансцэн і поз.

Найвялікшая радасць чакала мяне на спектаклях Вальтэра Фельзенштэйна. Было непрывычна бачыць «Аіду» без пышнай парадНасці і пампезнасці.

І яшчэ — у «Комішэ-опер» не прымаюцца спевакі, якія не валодаюць сцэнічным майстэрствам, няхай нават у іх будзе самы выдатны голас.

Спектаклі гэтага тэатра характарызуюць глыбока сучаснае прачытанне і вострае сцэнічнае рашэнне твораў, тонкі псіхалагізм, філігранная акцёрская работа.

Свой індывідуальны стыль маюць спектаклі ў тэатры Брэхта. Ім уласцівы лаканізм, глыбокія думкі, філасофскія абагульненні, перавага няяркіх таноў у афармленні.

— Нягледзячы на тое, што мне спадабаліся і тэатр Фельзенштэйна, і многія спектаклі Нямецкай дзяржаўнай оперы, і Берлінскі ансамбль Брэхта, — у заключэнне сказаў Яўген Рыгоравіч, — я зусім не лічу, што, скажам, мы ў сваёй рабоце павінны механічна пераймаць творчыя прынцыпы гэтых тэатраў. Але вечнаму неспакою і творчым пошукам павучыцца ў іх можна.

Гэтым летам Дзяржаўны акадэмічны тэатр оперы і балета Беларусі выедзе на гастролі ў Маскву. Там будуць паказаны лепшыя спектаклі. Сярод іх — «Хаваншчына» М. Мусаргскага, балеты Я. Глебава «Альпійская балада» і «Выбранніца», опера Ю. Семянякі «Зорка Венера», «Залаты пеўнік» М. Рымскага-Корсакава, а таксама новы балет Г. Вагнера «Пасля балю».

Маскоўскі глядач патрабавальны. Ён мае шырокую магчымасць параўноўваць. І яму рашаць: ці сказана тэатрам сваё слова ў савецкім оперным мастацтве. І як змагаецца калектыў за гэтае сваё слова.

Б. ШАРАШЭЎСКАЯ.

# СЯЛО. КУЛЬТУРА. АГЛЯД

*З ПАСЯДЖЭННЯ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ АГЛЯДАВАЙ КАМІСІІ*

Рэзка павысіць работу культасветустаноў, пачынаючы ад раённага звяна і канчаючы клубнымі ўстановамі на сяле, — такая асноўная мэта рэспубліканскага агляду работы раённых і гарадскіх дамоў культуры. Праз іх як праз метадычныя цэнтры раённыя аддзелы культуры павінны кіраваць усім культурным жыццём на вёсцы. За тры месяцы агляду многія дамы культуры паспелі ўжо замацаваць і развіць формы і метады работы, той вопыт, што набылі ў час падрыхтоўкі да ленінскага юбілею.

Днямі рэспубліканская аглядавая камісія заслухала інфармацыю старшыні Мінскай абласной аглядавай камісіі намесніка начальніка абласнога ўпраўлення культуры М. Розума аб ходзе агляду. На Міншчыне абласная і раённыя аглядавыя камісіі былі ўтвораны адразу пасля пастановы калегіі міністэрства. Былі складзены і разасланы планы работы. Праведзены дзве нарады-семінары дырэктараў дамоў культуры і загадчыкаў аддзелаў культуры.

Рэспубліканская камісія адзначыла многа дадатнага ў рабоце Стаўбцоўскага раённага Дома культуры. Тут створаны добры метадычны кабінет, метадысты выязджаюць на месца для аказання дапамогі клубным установам, калектывам самадзейнасці. Для загадчыкаў клубаў арганізаваны семінар-практыкум. Створаны ў раёне пяць агітбрыгад, праходзяць абменныя канцэрты паміж калгасамі. З вёскі ў вёску ідзе эстафета «Справа партыі — справа народа», якая прапагандуе матэрыялы XXIV з'езда КПСС і XXVII з'езда Кампартыі Беларусі, вынікі восьмай пяцігодкі.

На пасяджэнні камісіі таксама адзначалася, што слаба ўключыліся ў агляд гарпасялковыя дамы культуры Міншчыны. Часта ў рабоце мясцовых клубных устаноў існуе ведамасная цераспалосіца. Абласная аглядавая камісія не даходзіць да усіх раённых і гарадскіх дамоў культуры.

На пасяджэнні выступілі старшыня Рэспубліканскай камісіі намеснік міністра культуры Р. Мачулін, начальнік упраўлення культасветустаноў міністэрства Ж. Сінельнікава, начальнік аддзела клубных устаноў і народнай творчасці міністэрства П. Дубовік, дырэктары Стаўбцоўскага, Бярэзінскага і Лагойскага раённых дамоў культуры Д. Кухарава, А. Самойлава, П. Філюціч. Камісія прыняла адпаведныя рэкамендацыі.

*НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ*



Рэпертуар Магілёўскага драматычнага тэатра папоўніўся феерычнай камедыяй Уладзіміра Маякоўскага «Клоп». Рэжысёр спектакля — Ул. Караткевіч, мастак — В. Гараднякоў, балетмайстар — В. Дудчанка, музычнае афармленне Э. Катковіча.

На здымку — сцэна са спектакля. У ролі Зоі Бярозкінай артыстка І. Хацяноўская, Алег Баян — заслужаны артыст БССР А. Рудакоў (злева), Прысыпкін — артыст Ю. Труханаў.

Фота А. ГОЛЫША.



Ідуць Дні беларускай літаратуры на Міншчыне. Як самых дарагіх гасцей прымалі беларускіх пісьменнікаў працоўныя Любанскага раёна.

На фотаздымку С. Дарожкі занатаваны адзін з момантаў сустрэчы літаратараў з чытачамі ў раённым Доме культуры. Аляксей Кулакоўскі (злева) і Браніслаў Спрынчан падпісваюць свае кнігі.




Антон БЯЛЕВІЧ



## ПАБРАЦІМЫ

На моры цёплым, на Каўказе,
У сонечны, спякотны дзень,—
Пачуў я дальні шолах вяза,
Які даваў лагодны цень,
Калі хаваўся я ад спёкі
Апоўдні жнівеньскай парой.
Убачыў я ў кутку далёкім
Азёрны край бацькоўскі мой...
У нас няма ні гор высокіх,
Ні мора з безданню марской;
Ні скал арліных, ні цяснінаў,
Ні ракатлівых горных рэк...
І хай сабе! Я да калінаў,
Бярозаў, вязаў, арабінаў
Душой прывязаны навек!

Дзе нарадзіўся—дык навечна
Мясціна родная з табой.
Здаецца там цяплейшай рэчка
Пад яварам ці пад вярбой;

Там саладзейшая суніца,
Там халадзейшая крыніца,
Смачнейшая вада яе;
Шчырэй буркуе галубіца
І салавей званчэй пяе;
Лягчэй нясе цябе дарога
Праз луг, даліны і лясы.
Не адгароджан я парогам
Ад найвялікшае красы
Сардэчнай матухны-Расіі,
З яе шырокаю душой;
Ад Жыгулёў зялёных, сініх,
З магутнай Волгаю-ракой;
Ад звонкіх песень Украіны,
З яе пшаніцай залатой,
З яе духманам тапаліным,
З яе Чарнечаю гарой,

Старэнькім бацькаўскім парогам
Не адгароджан ад людзей.
Па свету беламу дарога
Мяне вяла. Яна вядзе
Па ўзмор'ю цёплага Каўказа
Да скал арліных, да цяснін.
Нібы з маім зялёным вязам,
Я з імі так душою звязан,
Бо лёс адзін і шлях адзін.

## БУШУЕ ТАМ АДНА БЯРОЗА

Уныў бярэзнік беластволы,
Стаіць без лісцяў, рэдкі, голы,
Аскуб лісты з бяроз марозік.
І толькі кронаю вясёлай
Бушуе там адна бяроза,
Стаіць у лісцях пры дарозе;

Стаіць яна, як маладзіца,
Нібы ў люстэрачка, глядзіцца
У азярцо пад небам сінім.
Яна лістамі ганарыцца,
Што ім дало такую сілу?

Чаму дадолу не апалі,
Чаму вятры іх не пагналі
У кучкі шумныя між гаю?
Чаму пажоўклымі не сталі,
А зеляneюць, як у маі?
Бяроза, я ў цябе пытаю.

Бяроза веццямі шумела,
І гаварыла як умела,
Што ёй дало такую сілу:
Вайна рыкала і грымела,
Жалеза ў полымі гарэла,
А пад бярозай гэтай белай
Тады і вырасла магіла.

Душы і сэрца акрыленне,
Натхненне, вечнае гарэнне
Засыпаны ў магіле гэтай.
Бярозы гнуткія карэнні
Жывуць у вечным акрыленні,
Людскімі сэрцамі сагрэты;

Яны сагрэты не адзінай
Гаручай горкаю слязінай,
Што апякла магілу тую...
Шуміць бяроза зелянінай.
І з кучараваю чупрынай
Стаіць у восень залатую.

### У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

*Паважаны таварыш рэдактар!*

*Прашу перадаць праз Вашу газету маю шчырую падзяку ўсім арганізацыям, сябрам, знаёмым і чытачам, якія павіншавалі мяне з шасцідзесяцігоддзем і дзяржаўнай узнагародай.*

Аляксей ЗАРЫЦКІ.

*Дазвольце праз газету «Літаратура і мастацтва» выказаць падзяку ўсім установам, тэатральным калектывам, грамадскім арганізацыям, воінскім часцям і таварышам па мастацтве за тыя добрыя словы, з якімі яны звярнуліся да мяне, віншуючы з прысваеннем мне ганаровага звання народнага артыста СССР.*

Уладзімір ДЗЯДЗЮШКА.

**ГЕРОЙ САВЕЦКАГА САЮЗА, генерал-палкоўнік Мікалай Каманін — у мінулым славуты лётчык. Званне Героя Савецкага Саюза ён атрымаў у 1934 годзе разам з шасцю іншымі лётчыкамі за выратаванне ў цяжкіх умовах экіпажа парахода «Чалюскін», раздушанага ільдамі Арктыкі.**

**У часе другой сусветнай вайны генерал Каманін камандаваў авіяцыйнымі злучэннямі, а з 1960 года ўзначальвае падрыхтоўку савецкіх лётчыкаў-касманаўтаў.**

**Прапануем увазе чытачоў урыўкі з дзённіка, якія прадаставіў Агенцтву друку Навіны генерал Каманін. Гэты дзённік ён вёў напярэдадні першага палёту чалавека ў космас.**




М. КАМАНІН

### 5 красавіка 1961 г. Байканур

У шэсць гадзін раніцы Масква пустынная, і, бадай, яшчэ больш прывабная. Уначы выпаў снег, за горадам—сапраўды зімовы пейзаж. Узыходзіць барвовае сонца, хутка бягуць воблакі, іх усё менш, адкрываецца блакітнае неба. Дзень будзе ясны.

...На аэродроме гатовыя да вылету тры самалёты ІЛ-14. На старт ляцяць шэсць касманаўтаў, інжынеры, урачы, кінааператары. Самалёты ўзлятаюць з пяціхвілінутным інтэрвалам і ідуць на ўсход. Надвор'е выдатнае, вецер спадарожны, ляцім на Байканур без пасадак. На аэрадроме нас сустракаюць Галоўны канструктар ракетна-касмічных сістэм акадэмік С. Каралёў і яго памочнікі.

Сяргей Паўлавіч Каралёў выказаў пажаданне, каб касманаўты грунтоўна паўтарылі некалькі разоў парадак ручнога спуску, правялі заняткі па сувязі і трэніроўцы ў скафандры. Я адказаў яму, што ўсё гэта ўваходзіць у нашы планы і неабходныя трэніроўкі будуць праведзены.

У аўтамашыне па дарозе на аэрадром, у самалёце і зараз, калі я пішу гэтыя радкі, а касманаўты гуляюць за акном у валейбол, мяне неадступна праследуе адна і тая ж думка: каго пасылаць у першы палёт—Гагарына або Цітова? І той і другі выдатныя кандыдаты. Цітоў усе практыкаванні, якія мне даводзілася назіраць (работа ў скафандры, карэкціроўка глобуса, сувязь і інш.) выконвае чотка, адточана і ніколі не скажа ні аднаго лішняга слова. Але трэба мець моцнага і на сутачны палёт. Другі палёт будзе бясспрэчна цяжэйшы за першы, аднавітковы палёт. Аднак першы палёт і імя першага касманаўта чалавецтва не забудзе ніколі.

Хто ж—Гагарын або Цітоў? Ёсць яшчэ некалькі дзён, каб зрабіць выбар.

### 6 красавіка

Раніцай прыляцеў старшыня Дзяржаўнай камісіі па пуску карабля «Усход» з касманаўтам. У 11 гадзін 30 мінут. Тэхнічны кіраўнік палёту С. Каралёў правёў нараду. Спецыялісты прызналі даказаным выпрабаваннямі і палётамі манекенаў 9—25 сакавіка, што скафандры, крэсла пілота, парашутныя сістэмы і ўся аўтаматыка прызямлення карабля і касманаўта працуюць здавальняюча. Ад імя ВПС я даў заключэнне аб гатоўнасці сістэм да палёту.

Разам з акадэмікам С. Каралёвым мы разгледзелі заданне касманаўту на палёт. У заданні ўказаны мэты палёту і дзеянні касманаўта пры аднавітковым палёце і ў розных магчымых варыянтах ходу палёту.

Увечары Гагарын і Цітоў надзявалі індывідуальныя скафандры, правялі падгонку падвяснoй сістэмы парашута і «прайгралі» становішча касманаўта ў крэсле ў момант катапультавання.

Вярнуліся ў гасцініцу каля адзінаццаці ночы. Увесь дзень назіраў за Гагарыным, разам абедалі, вячэралі і вярталіся ў аўтобусе. Ён трымаецца малайцом, і я не заўважыў ні аднаго штрышка ў размове, у паводзінах, у рухах, які не адпавядаў бы абстаноўцы. Спакой, упэўненасць і веды—вось яго характарыстыка за дзень.

### 8 красавіка

Адбылося пасяджэнне Дзяржаўнай камісіі па пуску касмічнага карабля «Усход». Яна разгледзела і зацвердзіла заданне на касмічны палёт, складзенае і падпісанае Сяргеем Паўлавічам Каралёвым і мной. Змест задання: «Аднавітковы палёт вакол Зямлі на вышыні 180—230 кіламетраў працягласцю адна гадзіна 30 мінут з пасадкай у зададзеным раёне. Мэта палёту—праверыць магчымасць знаходжання чалавека ў космасе на спецыяльна абсталяваным караблі, праверыць абсталяванне карабля ў палёце, праверыць сувязь карабля з Зямлёй, пераканацца ў надзейнасці сродкаў прызямлення карабля і касманаўта».

Пасля разгляду гэтых пытанняў засталіся толькі члены камісіі. Абмеркавалі яшчэ рад пытанняў. Хто паляціць? Ад імя ВПС я прапанаваў першым кандыдатам Гагарына Юрыя Аляксеевіча, а Цітова Германа Сцяпанавіча—запасным. Камісія аднагалосна згадзілася з прапановай.

Другое пытанне: аб рэгістрацыі палёту як сусветнага рэкорду і аб прысутнасці спартыўных камісараў на старце і ў раёне пасадкі.

Апошняе пытанне: аб аварыйным катапультаванні касманаўта на старце.

Рашылі: да 40-й секунды палёту каманду на катапультаванне падаюць Каралёў або Каманін, пасля 40-й секунды касманаўт катапультуецца аўтаматычна.

Заўтра адбудзецца пасяджэнне камісіі ва ўрачыстай абстаноўцы і касманаўтам будзе аб'яўлена рашэнне камісіі аб першым кандыдаце для палёту і запасным касманаўце.

Пасля заканчэння пасяджэння камісіі ўсе прайшлі ў цэх і глядзелі трэніроўку Гагарына і Цітова ў караблі. Трэніроўка прайшла добра, сувязь і ўсё абсталяванне карабля працавалі нармальна.

### 10 красавіка

Учора я выклікаў Гагарына і Цітова і аб'явіў ім: Дзяржаўная камісія па пуску касмічнага карабля прыняла рашэнне ў першы палёт дапусціць Га-




## ПОБАЧ СА СЛАВУТЫМІ МАЙСТРАМІ

**У перадз'ездаўскай афішы беларускай філармоніі, якая стракаціць імёнамі славутых майстроў мастацтваў рэспублікі, значыцца сціплы канцэрт навучэнцаў Мінскага музычнага вучылішча імя М. І. Глінкі. Гэта ўжо другое за апошнія два месяцы выступленне маладых музыкантаў з вялікай канцэртнай эстрады. Не так даўно сталыя наведвальнікі філармоніі пазнаёміліся з сімфанічным і баянным аркестрамі вучылішча, з хорам і аркестрам народных інструментаў. Цяпер не без поспеху выступілі яшчэ тры калектывы—цымбальны аркестр (дырыжор Б. Мацкевіч), камерны аркестр (дыры-**

гарына, а запасным рыхтавацъ Цітова. Хоць для іх не было сакрэтам гэта рашэнне (зафіксаванае яшчэ ў студзені выпускной экзаменацыйнай камісіяй), прыкметна была радасць Гагарына і невялікае засмучэнне Цітова. Я папярэдзіў, што заўтра адбудзецца пасяджэнне камісіі ў іх прысутнасці, на якім ім афіцыйна будзе аб'яўлена рашэнне.

У 11 гадзін у павільёне на беразе ракі адбылася сустрэча кіраўнікоў палёту з касманаўтамі. Сустрэча пачалася выступленнем Галоўнага канструктара С. Каралёва

Ён сказаў: «Не прайшло і чатырох гадоў з моманту запуску першага спадарожніка Зямлі, а мы ўжо гатовы да першага палёту чалавека ў космас. Тут прысутнічаюць шэсць касманаў-




таў, кожны з іх гатовы ў палёт. Вырашана, што першым паляціць Гагарын, за ім іншыя. Хутка мы будзем мець двух-трохмесны карабель. Я думаю, што касманаўты, якія прысутнічаюць тут, не адмовяць нам у просьбе «вывезці» і нас на касмічныя арбіты. Мы ўпэўнены — палёт рыхтаваўся старанна і пройдзе паспяхова. Поспеху вам, Юрый Аляксеевіч».

Выступленне старшыні Дзяржаўнай камісіі:

«Партыя і ўрад накіроўвалі ўсю нашу работу па падрыхтоўцы першага палёту чалавека ў космас. Вучоныя, канструктары, інжынеры і рабочыя нямала папрацавалі над стварэннем касмічнага карабля «Усход». Сёння гэты карабель на старце, яго два папярэднікі ў сакавіку прадэманстравалі нашу гатоўнасць паслаць чалавека ў касмічную прастору. Мы ўсе ўпэўнены — палёт падрыхтаваны добра і будзе паспяхова выкананы».

Выступленне маршала Кірылы Сямёнавіча Маскаленкі:

«Радзіма, працы вучоных, інжынераў, канструктараў і рабочых далі нам магчымасць падрыхтавацца да першага ў свеце палёту чалавека ў космас. Вельмі вялікая заслуга ў гэтым усімі намі глыбока паважанага Галоўнага канструктара Сяргея Паўлавіча Каралёва. Апрача нашай упэўненасці ў тэхніцы, у нас ёсць поўная ўпэўненасць і ў падрыхтаванасці ўсіх прысутных тут касманаўтаў, і ў першую чаргу ў Вашай падрыхтаванасці, Юрый Аляксеевіч. Ад імя міністра абароны Маршала Савецкага Саюза Радзівона Якаўлевіча Маліноўскага, ад сябе асабіста я віншую Вас, таварыш Гагарын, з высокім адказным даручэннем, якое дае Вам Радзіма. Ляціце, дарагі Юрый Аляксеевіч, і вяртайцеся на савецкую зямлю ў абдымкі ўсяго нашага народа».

Выступілі Гагарын, Цітоў. Яны падзякавалі за давер, выказалі цвёрдую ўпэўненасць у поспеху першага касмічнага палёту і з радасцю гаварылі аб наступных, больш складаных палётах у космас.

Увечары было ўрачыстае пасяджэнне Дзяржаўнай камісіі па пуску карабля «Усход».

У кароткім уступным слове старшыня Дзяржаўнай камісіі аб'явіў аб мэце пасяджэння і даў слова С. Каралёву.

— Карабель гатовы, уся апаратура і абсталяванне праверany і працуюць выдатна, прашу камісію дазволіць першы ў свеце палёт касмічнага карабля з пілотам-касманаўтам на борце, — так лаканічна рэзюмаваў Сяргей Паўлавіч вынік шматгадовай працы.

Камісія аднагалосна прыняла рашэнне:

«Зацвердзіць прапанову таварыша Каралёва аб правядзенні першага ў свеце палёту касмічнага карабля «Усход» з касманаўтам на борце 12 красавіка 1961 года».

Потым слова далі мне.

Я прадставіў камісіі ўсіх касманаўтаў і далажыў, што ўсе яны выдатна здалі выпускныя дзяржаўныя экзамены і загадам Галоўнакамандуючага ВПС, Галоўнага маршала авіяцыі Канстанціна Андрэевіча Вяршыніна ім упершыню ў нашай краіне афіцыйна прысвоена званне пілотаў-касманаўтаў Ваенна-Паветраных Сіл. Кожны з іх цалкам падрыхтаваны і гатовы здзейсніць першы касмічны палёт. Цяжка вылучыць лепшага. На думку Камандавання ВПС, першым можна зацвердзіць Юрыя Аляксеевіча Гагарына, а запасным — Германа Сцяпанавіча Цітова.

Камісія згадзілася з гэтай прапановай. Першым пілотам-касманаўтам аднагалосна быў зацверджаны Юрый Аляксеевіч Гагарын.

## 11 красавіка

У 5.00 ракету вывезлі на старт. Канстанцін Пятровіч Феакцістаў правёў заняткі з касманаўтамі па актыўным участку палёту.

Поўны комплекс выпрабаванняў ракеты і карабля на старце прайшоў без заўваг. Акадэмік Каралёў папрасіў мяне арганізаваць кантроль і абагульненне ўсіх дадзеных, якія паступяць з борта на зямлю, аб стане касманаўта.

У 13.00 на стартавай пляцоўцы адбылася сустрэча абслугоўваючага персаналу ракеты з Гагарыным. Я прадставіў прысутным старшага лейтэнанта Гагарына, які сказаў кароткую, але прачулую прамову, падзякаваў прысутным за іх вялікую працу па падрыхтоўцы карабля да старту.

Пасля гэтай сустрэчы мы паехалі ў маленькі домік, дзе Гагарын, Цітоў, начальнік цэнтра падрыхтоўкі касманаўтаў Карпаў, урач Нікіцін і я правялі ноч перад стартам.

Разам з Гагарыным пакаштаваў вельмі сытны, але не вельмі смачны абед касманаўта.

На першае — пюрэ са шчаўя з мясам (цюбік 160 грамаў).

На другое — паштэт мясны (цюбік 160 грамаў).

На трэцяе — шакаладны соус (цюбік 160 грамаў).

Юрый Аляксеевіч адчувае сябе цудоўна. Доктар Нікіцін агледзеў яго: крывяны ціск — 115(60), пульс — 64, тэмпература — 36,8.

Гадзіну назад яму наклеілі ўсе датчыкі для запісу фізіялагічных функцый у палёце. Гэта аперацыя працягвалася адну гадзіну дваццаць мінут і ніяк не адбілася на яго самаадчуванні.

Ён вельмі любіць рускія песні, магнітафон няспынна працуе.

Юра сядзіць насупраць мяне і гаворыць: «Заўтра ляцець, а я да гэтага часу не веру, што палячу, і сам здзіўляюся свайму спакою».

На маё пытанне: «Калі ты даведаўся, што паляціш першы?» ён адказаў: «Я ўвесь час лічыў шанцы мае і Германа на палёт роўнымі, і толькі пасля таго, як Вы аб'явілі нам сваё рашэнне, паверыў у шчасце, якое выпала на маю долю, — здзейсніць першы палёт у космас».

Старт у 9 гадзін 07 мінут маскоўскага часу. За дзве гадзіны да старту Гагарын зойме месца ў кабіне карабля. Ляцець вакол зямнога шара ўсяго 1,5 гадзіны, а за дзве гадзіны да старту неабходна сесці ў карабель і чакаць пачатку палёту. Трэба прызнаць усю недасканаласць такой арганізацыі падрыхтоўкі да старту. Гэта пытанне займала Каралёва, мяне і ўрачоў. Мы спрабавалі скараціць час чакання палёту касманаўтам хоць бы да 30 мінут, але з гэтага нічога не выйшла.

Толькі закрыццё люка, адвод устаноўшчыка і ферм займае больш як гадзіну. Праверка скафандра, сувязі і абсталявання карабля займае 20 мінут.

Мы ўсе добра разумеем, што бяздзейнае чаканне старту вельмі непрыемная неабходнасць, і вырашылі, што я буду займаць Юрыя Аляксеевіча радыёразмовамі, паведамляць яму аб ходзе падрыхтоўкі да палёту.

## 12 красавіка. Серада

Без 10 мінут у пяць па мясцовым часе Карпаў, Нікіцін і я ўсталі, як па камандзе. У 5.30 будзем будзіць Юрыя і Германа.

Ноч прайшла вельмі добра, заснулі каля дзесяці, а зараз 5.25, а яны яшчэ спяць.

Ледзь бярэцца на золак, на дарозе ўзмацняецца рух, Карпаў пайшоў будзіць моладзь.

У 6.00 адбылося пасяджэнне камісіі. Яно было на дзіва простым і кароткім. Усе даклады звяліся да адной фразы: «Заўваг няма усё гатова». «Пытанняў няма, можна рабіць запуск». Пасля пасяджэння я падпісаў заданне касманаўту, з'ездзіў паглядзець, як ідзе медыцынскі агляд і надзяванне скафандраў. Па ўсіх напрамках работа ішла дакладна па раскладзе.

Аўтобус з касманаўтамі прыбыў на стартавую пляцоўку ў 8.50. Выйшаўшы з аўтобуса, Юрый і яго таварышы крыху расчуліліся і пачалі абдымацца і цалавацца. Давялося амаль сілай вырываць касманаўта з абдымкаў таварышаў. Ля ліфта я моцна пацісну ў Юрыю руку і сказаў: «Да сустрэчы ў раёне Куйбышава праз некалькі гадзін».

Праз 10 мінут быў апрабаваны скафандр і праверана сувязь. На КП сувязь з бортам трымаў Галоўны канструктар Каралёў, касманаўт Павел Паповіч і я. За ўвесь час падрыхтоўкі да старту была толькі адна маленькая замінка пры закрыцці люка № 1. Люк закрылі, але з-за адсутнасці кантакту яго давялося зноў адкрыць і ліквідаваць дробную няспраўнасць. Уся размова зямлі і борта запісана на плёнку, чутнасць выдатная, адказы Гагарына кароткія, ясныя і чоткія. Самаадчуванне касманаўта, мяркуючы па яго дакладах, голасе і па тэлеметрыі, увесь час добрае. За некалькі секунд да старту на паведамленне Каралёва — «старт» Юрый адказаў: «Па-а-еха-лі!»

Старт прайшоў выдатна. Перагрузкі на ўчастку вывядзення прыкметнага ўплыву на голас касманаўта не зрабілі, якасць прыёмаў радыёсігналаў з борта заставалася добрая, касманаўт адчуваў сябе нармальна. На 150-й секундзе палёту пасля адвалу абцякальніка Гагарын далажыў: «Светла, бачу Зямлю, воблакі, бачнасць выдатная», праз некалькі секунд ён адчуў і далажыў аб канцы работы першай ступені. Праз 13 мінут пасля старту мы ўжо ведалі: першы ў свеце палёт чалавека па касмічнай арбіце пачаўся. У момант пераходу перадач са старту на іншы пункт было некалькі непрыемных секунд, касманаўт не чуў нас, а мы не чулі яго. Усе з палёгкай уздыхнулі, калі, нарэшце, сувязісты паведамілі аб аднаўленні сувязі з касманаўтам і аб выхадзе карабля на арбіту.

Праз дваццаць мінут пасля старту мы з групай таварышаў выехалі на аэрадром. Самалёт АН-12 узняўся ў паветра і ўзяў курс на Куйбышаў. У паветры мы праслухалі паведамленне ТАСС аб шчаслівым прызямленні ў раёне Саратава, а яшчэ праз некалькі мінут нам паведамілі: «Усё ў парадку, маёр Гагарын вылятае ў Куйбышаў».

...Аэрадром у Куйбышаве. Адчыніліся дзверы самалёта, на якім прыляцеў Гагарын з раёна прызямлення, і Юрый пачаў спускацца. Ён быў у зімовым лётным шлеме і ў блакітным цёплым камбінезоне. За дзевяць гадзін, якія прайшлі з моманту пасадкі ў касмічны карабель да гэтай сустрэчы на Куйбышаўскім аэрадроме, я так многа перажыў за яго, што ён стаў для мяне другім сынам. Мы моцна абняліся і пацалаваліся. З усіх бакоў шчоўкалі кіно- і фотаапараты, натоўп усё рос, была небяспека вялікай штурханіны. Юрый, хоць і ўсміхаўся, выглядаў вельмі стомленым (мне здалося, што гэта стома ад палёту, а не ад сустрэчы, як запэўнялі многія).

Трэба было спыніць абдымкі і захапленні. Я папрасіў Юрыя сесці ў машыну і неадкладна ехаць на дачу пад Куйбышавам.

Дача на высокім беразе Волгі, з балкона трэцяга паверха адкрываецца цудоўны выгляд на раку, справа на другім беразе — зарослыя лесам узвышшы. Гадзін у дзесяць вечара ўсе сабраліся за круглым сталом. Прысутнічала шасцёрка касманаўтаў, камісія, кіраўнікі палёту і вобласці. У адзінаццаць — разышліся па спальнях, таму што ўсе былі вельмі стомленыя. Так закончыўся для нас гэты трывожны, радасны, пераможны дзень. Дзень 12 красавіка 1961 года чалавецтва не забудзе, а імя старшага лейтэнанта Гагарына навекі ўпісалася ў гісторыю чалавецтва і будзе адным з самых вядомых.

## 13 красавіка. Куйбышаў

Усе нашы паляцелі ў Маскву, Юрый, я і яшчэ некалькі чалавек засталіся, каб заўтра, 14 красавіка, ляцець у Маскву на ўсенародную сустрэчу героя космасу.

Нас замучылі тэлефоны, карэспандэнты, далёкія і блізкія знаёмыя Гагарына. Чалавек шэсць кінааператараў гатовы без перапынку рабіць кіназдымкі, фатаграфаваць, задаваць бясконцыя пытанні.

Крыху пахадзілі каля дачы, пагулялі на більярдзе. У другой палове дня Юрый пачаў рыхтавацца да сустрэчы ў Маскве, рэпеціраваў рапарт і выступленне на Краснай плошчы. Я ведаў па выступленні Юрыя Аляксеевіча яшчэ да палёта, што ён, акрамя якасці касманаўта, валодае задаткамі нядрэннага прамоўцы.

Вечарам два разы званіў таварыш Леанід Ільіч Брэжнеў і некалькі разоў — Галоўны маршал авіяцыі Канстанцін Андрэевіч Вяршынін. Абодвух непакоіла заўтрашняе надвор'е.

Прагноз надвор'я па раёне Масквы на 14 красавіка быў дрэнны: 100—200 метраў вышыня воблакаў, мокры снег і дрэнная бачнасць.

## 14 красавіка. Масква

Устаў раней шасці і неадкладна звязаўся з Масквой. Як часта бывае, метэаролагі памыліліся. К моманту нашага прылёту (13.00) воблачнасць у Маскве будзе невялікая, 4—6 балаў, вышынёй 800—1000 метраў, без ападкаў, бачнасць больш як 10 кіламетраў.

У 10.40 па маскоўскім часе на самалёце ІЛ-18 мы стартавалі ў Маскву.

Кіламетраў за 50 ад Масквы нас сустрэла сямёрка знішчальнікаў і заняла месца ганаровага эскорту. Два знішчальнікі справа, два — злева і тры — зверху ззаду. Юрый перадае ім па радыё: «Сябрам-знішчальнікам гарачае прывітанне. Юрый Гагарын». Знішчальнікі дзякуюць за прывітанне.

Роўна ў 13.00 самалёт выключае рухавікі за 100 метраў ад трыбуны. Адчыняюцца дзверы — і Юрый выходзіць насустрач сваёй вялікай і заслужанай славе.

---

жор Ю. Яфімаў) і камерны хор (хормайстар Л. Яфімава).

Першы з іх мае ўжо вопыт канцэртнай дзейнасці, іграе ўпэўнена, з пэўнай прафесійнай хваткай, хоць часам недастаткова гнутка і разнастайна ў дынамічных адносінах, праз меру захапляючыся сілай гуку. Гэта адчувалася і ў фінале сімфаньеты М. Чуркіна, і ў п'есе М. Тэадаракіса, і, асабліва, пры акампаніраванні вакалістам, калі няспыннае трэмаліраванне цымбалаў перакрывала, заглушала натуральнае гучанне чалавечага голасу.

Камерны аркестр і хор вучылішча створаны зусім нядаўна. Па сутнасці, гэта іх першае публічнае выступленне. Энтузіязм юных музыкантаў, іх старанчасці ў пераадоленні значных тэхнічных і музычных цяжкасцей (бо ў рэпертуары — Бах, Моцарт, Шуберт, Грыг) былі па вартасці ацэнены публікай.

Камерны аркестр — выдатная школа прафесіяналізму для будучых струннікаў. Тут не схаваешся за спіну таварыша, тут чуваць усё — кожны нюанс, штрых, фальшывая нота. І калі з інтанацыяй у калектыве ўсё добра (што само па сабе — заслуга немалая), то штрыхавая культура, а таксама мастацтва фразіроўкі, асабліва ўменне мякка завяршыць музычную думку — над усім гэтым кіраўніку аркестра трэба яшчэ многа працаваць з навучэнцамі.

Добрае ўражанне пакінулі салісты і выкладчыкі вучылішча. Прыгожы, мяккі гук і тэхнічную свабоду прадэманстраваў флейтыст С. Рудзько (клас А. Каландзёнка). Парадавалі вакальныя дадзеныя і строгая, сціплая манера спявання і сцэнічных паводзін В. Шэйна (клас Т. Жытковай). Прафесійна выступілі вопытная спявачка Л. Ілюковіч і габаіст В. Фралоў. Абаяльным тэмбрам голасу, шчырым тэмпераментам і добрай вакальнай культурай валодае малады педагог Л. Міхеева. Міжволі ўзнікае пытанне, чаму не чуем мы гэтай спявачкі, выхаванкі беларускай кансерваторыі, часцей? Па-сапраўднаму прыгожых галасоў не так ужо многа. Іх трэба берагчы і разумна выкарыстоўваць.

Выступленне на філарманічнай сцэне адказнае. Гэта — вынік вялікай папярэдняй работы і разам з тым свята для навучэнцаў і іх выхавацеляў, стымул далейшага творчага росту.

А. ЛАДЫГІНА.

# Вясёлая трасянка

### жарты, гумарэскі, пародыі, эпіграмы, шаржы

Харытон ШПІЛЬКА

## ТАЙНІК

ГАДЫ тры назад Парфену Дзядзюлю пашанцавала атрымаць прэмію. Гэтыя грошы ён утаіў ад жонкі. Перакладаў іх з адной кішэні ў другую, пакуль не абрыдла. Дваццацьпятка пакамечылася, страціла эластычнасць, перастала прыемна шамацець у пальцах, а адзін куточак нават абарваўся. Думаў-думаў Парфен, куды б яе прыладкаваць, і надумаў: у адным з аддзяленняў старэнькага буфета зрабіў падвойнае дно і ўздыхнуў з палёгкай. Так паявіўся ў Дзядзюлі тайнік. З таго самага часу тайнік гэты настолькі авалодаў Парфенам, што, бадай, не было таго месяца, каб ён не папаўняў сваю скарбонку. Неяк сама сабой акрэслілася і мэта: назбіраць грошай і купіць матацыкл. А тады можна будзе і жонцы тайну адкрыць. Не пакрыўдзіцца кабета.

Ішлі месяцы. Міналі гады. Застаўшыся ў хаце адзін, Парфен пералічваў паперкі задаволена паціраў рукі — сума расла. Асабліва ў апошні час, калі Дзядзюля нечакана атрымаў павышэнне. Частыя камандзіроўкі, апрача многіх нязручнасцей, мелі для яго і свае перавагі: ён эканоміў — дзе на білеце, дзе на ядзе, дзе на начлезе. На сямейным бюджэце гэта не адбівалася, і жонка, вядома, ні пра што не здагадвалася. Хапала і ёй. Набылі ж і тэлевізар, і халадзільнік, і пральную машыну. Больш таго, стаялі ў чарзе на замежны гасцінны гарнітур. Усё ішло, можна... сказаць, як па масле.

Ды аднойчы...

Аднойчы пасля працяглай камандзіроўкі Парфен прыехаў дамоў і войкнуў ад здзіўлення: у пакоі стаяла сучасная паліраваная мэбля — стол, крэслы, канапа і сервант.

— Толькі вось прывезла, — тлумачыла задаволеная жонка. — Хораша, праўда?

— Г-м, няблага, — пагадзіўся Дзядзюля і спытаў: — А грошай жа не хапала, як ты выкруцілася?

— Ды ў суседзяў перахапіла.

Парфен распрануўся, агледзеў гаспадарскім вокам кожную рэч, пагладзіў, памацаў. А калі падыйшоў да серванта, не ўцярпеў, спытаў:

— А буфет на кухню выцягнула?

— Ды што ты! Гэта ламачча толькі выгляд псавала. Адвезла ў скупачны.

Парфен хапіўся за грудзі і апусціўся ў крэсла.

— Што з табой? — занепакоілася жонка. — Прастудзіўся?

— Ды нічога. Так, нешта ў бок кальнула. Даруй, я і забыўся, што мне тэрмінова трэба зайсці ў адно месца.

— Перакусіў бы чаго!

— Ды няма часу! Я праз паўгадзінкі.

Апранаючыся, Парфен, нібы між іншым, спытаў:

— У скупачны, што на рынку?

— Ага, туды адвезлі. Дзесятку далі...

У скупачным Дзядзюля адразу прыкмеціў, што яго буфета няма. Навеў дабедкі. Так, тры дні назад грамадзянка Дзядзюля здавала сюды буфет, вось глядзіце, запісана. Атрымала дзесяць рублёў. Хто яго купіў? Такіх запісаў не вядзём. Інструкцыяй не прадугледжана — тлумачыў загадчык магазіна.

Размовай зацікавілася дзяўчына-прадаўшчыца:

— Чорны такі, старамодны, з фасоннымі калонамі?

— Ну, так, ён, — з нейкай надзеяй прамовіў Парфен.

— Дык яго ж сёння раніцою нейкі дзядзька купіў. З вёскі, відаць. А што?

Нейкі камяк засеў у горле Парфена, ён зноў, як і дома, хапіўся за грудзі. Лоб яго пакрыўся буйнымі кроплямі поту. «Пяцьсот жа рублёў! — стукала ў скронях. — Пяцьсот рублёў, як кату пад хвост!»

**Мараль:** захоўвайце зберажэнні ў ашчаднай касе!

Лявон КУДЛА

### КАЛІ ЗАБЫВАЮЦЬ ПРА ВАЛІДОЛ

Стары скульптар, якому здавалася, што пра яго забыліся ўсе на свеце, у тры гадзіны ночы падняўся, каб прыняць валідол. Выпадкова на тэлефонным століку ён заўважыў паштоўку. Хтосьці з дамачадцаў позна ўвечары выняў яе з паштовай скрынкі і, не глянуўшы, паклаў на столік.

Скульптар прачытаў паштоўку. Забыўшыся пра валідол, кінуўся ў спальню да жонкі.

— Паслухай,—разбудзіў ён яе.—Мне прапануюць адкрыць маю персанальную выстаўку!

— Ну, дык добра,—узрадавалася жонка.

— Добра,—абурыўся скульптар.—Але чаму яны паведамляюць аб гэтым у тры гадзіны ночы...

### МЕРА ЯКАСЦІ

У кніжным магазіне жанчына ўбачыла ў руках сяброўкі новую кніжку.

— Цікавая?—спытала.

— Яшчэ не ведаю. Толькі што купіла.

— Як жа ты купляеш, не ведаючы што?

— А яе з-пад прылаўка прадавалі...

### ДОБРАЯ РЭКЛАМА

— Першы раз бачу цябе ў тэатры,— здзівіўся стары тэатрал, сустрэўшы свайго сябра ў фае.

— Сам я не ведаю, як гэта здарылася,—адказаў прыяцель.—Ішоў ля тэатра і раптам да мяне, як ашалелыя, кідаюцца людзі: «Ёсць лішні білецік?». Паспрабаваў і я шчасця. І дастаў лішні...

Ян АСТРОЎСКІ

## ІРАНІЧНЫЯ МІНІЯЦЮРЫ

### ДЫЯЛОГ ПАМІЖ МУЖАМ І ЖОНКАЙ

ЁН. Праўда, добра мець разумнага мужа?

ЯНА. А мне адкуль ведаць?

### ВЫКЛЮЧЭННЕ

— Ніколі яшчэ не бачыў, каб вы хоць што-небудзь рабілі ўсур'ёз.

— А памылкі?

— Г-м, бадай што...

### БЕЗ АДЗІНАЙ ПАМЫЛКІ

— Сама я наконт моў не вельмі каб, але ён у мяне сапраўдны лінгвіст, проста на дзіва...

— Хто?

— Ды радыёпрыёмнік: прымае перадачы на любой мове і без адзінай памылкі.

### ПАДАРУНАК

— Дзякуй табе, любы, за падарунак. Цудоўная футра, і каштуе нядорага...

— Які падарунак?

— Надарылася цудоўная футра, цыгейкавая. І ўсяго 600 рублёў! Дык я сабе ад твайго імя купіла...

### ПАГАВАРЫЛІ...

— Я ў захапленні ад усяго, што піша Н. Н., — сказаў аптыміст. — Дзівосны талент!

— Глупства! — запярэчыў скептык. — Талент тут ні пры чым. Проста—звычка!

### ПРЫЗНАННЕ

— Ваша прафесія?

— Самакрытык.

### ДЫСЕРТАЦЫЯ

— Я напісаў дысертацыю,—заявіў адзін тэатразнаўца. — Тэма нікім не даследаваная. Гаворка ў ёй ідзе не аб майстэрстве акцёра ці рэжысёра, і ўвогуле —не аб спектаклях...

— Аб чым жа тады?

— Аб антрактах. Дысертацыя так і называецца: «Антрактыда».

*З НЯМЕЦКАГА ГУМАРУ*

## МОВАЙ КВЕТАК

АБ МОВЕ кветак я пачуў першы раз тады, калі купляў букет для сваёй дзяўчыны. Я выбраў букет сам, але прадавец агледзеў яго скептычна і параіў:

— Шаноўны, і вы хочаце падараваць каханай жоўтыя кветкі? А ці ведаеце вы, што жоўтае азначае рэўнасць і падман? Дазвольце, я падбяру для вас што-небудзь іншае. Скажам, дзве гваздзікі і адну ружу. На мове кветак гэта азначае: «Я кахаю цябе».

Гэта было для мяне адкрыццём. Мне прыгадаліся рамантычныя трубадуры і свецкія дамы, якіх мужы замыкалі за цёмнымі мурамі замкаў. Калі дама пасылала свайму каханаму чырвоныя і сінія кветкі, гэта азначала: «Прыходзь, каханы, мой муж зноў у камандзіроўцы». Дзве сінія кветкі значылі: «Уцякай, каханы, мой стары знайшоў твой букет».

Прыгадаўшы гэта, я сказаў прадаўцу:

— Мова кветак — цудоўная рэч! Але я хацеў яшчэ сказаць: «Я кахаю цябе бясконца!» Можна?

— Вядома!

— Тады зрабіце, калі ласка, так, каб яна прачытала: «Я кахаю цябе бясконца. Скажы свайму бацьку, што заўтра нам патрэбен яго аўтамабіль. Я хачу заўтра з табой за горад».

Праз колькі часу прадавец вярнуўся з букетам, у якім быў кактус.

— Што гэта азначае?

— Кактус? Гэта бацька дамы сэрца, — растлумачыў прадавец.

— А галінкі ядлоўцу?

— Гэта кропкі. Без іх не атрымаецца.

Так вывучаў я мову кветак. Спачатку мой запас кветак быў вельмі абмежаваны. Я мог складаць толькі простыя сказы, накшталт: «Я кахаю цябе, ключ пад дыванам». Але пазней, калі мы пажаніліся, я мог на мове кветак гаварыць аб вельмі складаных паняццях. Напрыклад, калі ў букеце, які я прынасіў сваёй жонцы, не хапала дзвюх кветак, гэта азначала: «І калі ўжо ты прышыеш гузікі да маёй сарочкі?» А завялыя астры гаварылі: «Зноў старая гісторыя — мае штаны не адпрасаваны». Калі на сваім стале я знаходзіў лісты палыну, гэта значыла: «Мая маці прыязджае заўтра». Я бег у магазін і купляў дзьмухавец. Адказ быў такі: «Я шчаслівы. Будзе вельмі весела». У адказ на гэта я атрымліваў звычайна жмут крапівы, загорнуты ў туалетную паперу. Гэта мая жонка перадавала: «Калі табе не падабаецца мая маці, дык можаш спаць на гарышчы». Я схапіў сваю пасцель, узлез на гарышча і спакойна спаў. Спусціўшыся ўніз, знайшоў на стале дзветры фіялкі ў трапічным пальмавым лістку. Прачытаў: «Абед падгарэў. Абедай у кафэ».

Апошнім часам крапівы ў нашай кватэры было шмат (часта наязджала цешча). Я зразумеў, што мне гэта надакучыла. Я накупіў крапівы, колькі мог, дастаў кактусаў і паклаў на жончын ложак апошняе пісьмо: «Мне хопіць. Не патрэбны мне больш ні цешча, ні кветкі. І ніколі не буду жаніцца. Перадай прывітанне свайму бацьку, я пайшоў да свайго».

Пераклаў М. ШЫМЧЫК.

## МІМАХОДЗЬ

М. ГОРБА.

*З кожным творам аўтар усё маладзеў, пакуль аднойчы не здзяцінеў.*

□

*У падхаліма цяжкая галава, якая і прымушае шыю згінацца.*

□

*І заяц смелы, калі бачыць ваўка ў сне.*

□

*Мэта яго жыцця — куды крывая выведзе.*

Ул. РУДЗІНСКІ.

*І два чобаты не пара, калі яны на адну нагу.*

□

*Хоць спявак і выступаў яшчэ, але аб ім гаварылі: «Яго песенька спета».*

□

*Страву любіў недасоленую, а ў жартах перасольваў.*

М. ШАВЕЛЬ

*Яго рабочы дзень пачынаўся ў буфеце і заканчваўся там жа.*



Калі глядзіш на гэты малюнак, наўрад ці здагадаешся, што яго аўтар — Мікалай Карабко — матэматык. Але фантазія, якая патрэбна ў матэматыцы гэтак жа, як і ў паэзіі, у гэтай «гумарыстычнай формуле» відавочная.


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 АТ 08154

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.